31 жніўня 2018 | № 31 (594)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Уся ўлада дыяспары!

стар. 21



# Беларусі выставілі прыхаваны ўльтыматум?



Сяргей ПУЛЬША

**Аляксандр Лукашэнка і Уладзімір Пуцін сустракаліся ў чэрвені — дзеля гэтага кіраўнік Расіі нават прапусціў матч сваёй зборнай з Егіптам на Чэмпіянаце свету па футболе. У ліпені Пуцін запрасіў беларускага калегу на сустрэчу. Той не ехаў амаль месяц, і ўрэшце выправіўся ў Сочы напрыканцы жніўня.**

Варта звярнуць увагу на тое, што канкрэтнай інфармацыі па выніках гэтых рандэву — кату па пяту. Па выніках апошняй паездкі Лукашэнкі на пуцінскую яхту прэс-служба кіраўніка дзяржавы не рабіла ніякіх гучных заяў. Толькі праз тры дні Аляксандр Рыгоравіч даў маштабнае інтэрв'ю тэлеканалу «Беларусь-1».

Цалкам можа быць, што затрымка з інфармацыяй была адмысловым ходам: каб прыцягнуць да гэтага інтэрв'ю больш увагі. Але ж яно пакінула больш пытанняў, чым адказаў.

Многія заўважылі, што ці не ўпершыню Лукашэнка адказваў на пытанні журналістаў з паперкай — з гатовымі тэзісамі адказаў. Канешне, гэта звычайная практыка, калі кіраўніку такога ўзроўню спачатку дасылаюцца пісьмовыя пытанні, ён рыхтуе адказы і потым агучвае іх на камеру. Аднак гэта імкнуцца не афішаваць.

Апроч таго, ніякіх рэальных адказаў пра сустрэчу з Пуціным мы не атрымалі. Па сутнасці, інтэрв'ю выглядала апраўданнем беларускага кіраўніка за рэзкія словы, якія ён дазволіў сабе на адрас Расіі раней: «Без Расіі мы нікуды», «Мы — народы з аднаго кораня» і «Расія для Беларусі — анёл-абаронца». Але за салодкагалосай рыторыкай так і не было чуваць, што ж Лукашэнка і Пуцін абмяркоўвалі ў Сочы і чаму расійскі кіраўнік так доўга і ўпарта чакаў беларускага калегу.

Для таго, каб абмеркаваць кандыдатуру новага расійскага пасла? Гэта і аспрэчыў сам кіраўнік Беларусі, што было ці не адзіным сэнсоўным кавалкам яго размовы з тэлевізійшчыкамі.

Палітолагі і аналітыкі лічаць, што нешта на сустрэчы Лукашэнкі і Пуціна «не зраслося» і «не склеілася». Але, мяркуючы па настойлівасці і цярплівасці Уладзіміра Уладзіміравіча і па наступнаму інтэрв'ю Аляксандра Рыгоравіча, «зрастацца і клеіцца» там не было чаму.

Хутчэй за ўсё, кіраўнік Расіі агучыў «новую эканамічную палітыку» ў адносінах да Беларусі, якая палягае ў словах: «Вучыцеся выжываць самі». Санкцыі ЕС і ЗША моцна б'юць па расійскай эканоміцы. І, падаецца, яны ўжо перакрочылі тую мяжу, калі іх можна было «адкаціць назад». Раней іх прычынай была вайна ва Украіне, а зараз фінансавыя абмежаванні ўводзяцца з-за «справы Скрыпалёў» і расійскага ўплыву на выбары ў заходніх дэмакратыях.

Калі раней можна было вярнуць Крым Украіне і сказаць: «Выбачаемся», то атручаных замежных грамадзян з таго свету не вернеш.

Расіі патрэбныя грошы. Грошы на падтрымку ўладаў марыянетачных рэспублік ва Украіне, Расія загразла ў Сірыі — напрыклад, днямі з'явілася інфармацыя, што РФ накіроўвае дадатковыя сілы на базу ў Хмеймім (хаця яшчэ 11 снежня мінулага года Пуцін урачыста загадваў вывесці расійскія войскі з Сірыі). Плюс санкцыі — і грошай на падтрымку «сяброў» не застаецца. Больш за тое, завязаныя на расійскую эканоміку «сябры» непазбежна атрымаюць аддачу антырасійскіх санкцый па сваёй эканоміцы. Для Беларусі гэтая аддача можа быць вельмі і вельмі балючай.




Расія будзе турбавацца, перш за ўсё, пра сябе. Саюзніку і стратэгічнаму партнёру давядзецца разлічваць на ўласныя сілы і не чакаць падтрымкі (акрамя маральнай). «Падатковы манеўр» Расіі што да карысных выкапняў працягнецца, адзіная нафтагазавая прастора ў межах ЕАЭС — у аддаленай перспектыве, паліва для АЭС прыйдзецца набываць па нармальным кошце. Па ўнутрырасійскіх коштах нафту, газ і ўран могуць атрымаць толькі расійскія рэгіёны, так што калі хочаце — давайце да нас.

**Беларусі давядзецца разлічваць на ўласныя сілы і не чакаць падтрымкі — акрамя маральнай**

Думаю, што Пуцін выклаў усё гэта спакойным дзелавым тонам, абмаляваўшы сітуацыю, як яна ёсць. І ў якасці першага кроку падтрымкі прапанаваў прыняць пасла Бабіча з паўнамоцтвамі спецпрадстаўніка па эканамічных пытаннях. На што Лукашэнку заставалася толькі пагадзіцца.

Пагадзіцца — і думаць, што рабіць далей. Астатнія канкрэтныя пытанні, калі яны ўзніклі ў Пуціна, Аляксандр Рыгоравіч мог нівеляваць адным чынам: «Трэба параіцца з таварышамі, такія пытанні з кандачка не вырашаюцца». А «таварышы» яшчэ не ўвайшлі ў курс справы. Не выключаю, што нядаўнія маштабныя змены ва ўрадзе былі зробленыя Лукашэнкам не толькі «пасля Оршы», але і з перспектывай ухіліцца ад абмеркавання праблемных пытанняў у размове з расійскім кіраўніком.

Па выніках сочынскай размовы Лукашэнка сказаў, што наступная сустрэча з Пуціным пройдзе ў пашыраным складзе з кіраўнікамі ўрадаў. Меркавана, гэта адбудзецца ў Магілёве ў кастрычніку падчас V Форума рэгіёнаў Беларусі і Расіі.

Такім чынам, кіраўнік Беларусі ўзяў паўзу, каб асэнсаваць новыя рэаліі і паспрабаваць выпрацаваць адказ на новыя выклікі. Хаця месца для манеўра ў яго, падаецца, няшмат.

# Міліцыя вынаходзіць новыя законы фізікі

Мікалай ДЗЯДОК

**Згодна з рапартамі міліцыянтаў і матэрыяламі крымінальнай справы Дзмітрыя Галко, чалавек можа знаходзіцца ў двух месцах адначасова.**

Большасць, мусіць, ведае знакаміты эксперымент з катом Шродынгера, які жывы і ў той жа час мёртвы. Менавіта гэты парадокс прыходзіў на розум падчас суда над журналістам Дзмітрыем Галко.

Юрыдычных парадоксаў у гэтай справе больш чым хапае. Напрыклад, тое, што ў лістападзе 2017-га Галко ўжо судзілі за сутычку з міліцыянтамі, кваліфікаваўшы яе як дробнае хуліганства. Але потым вырашылі перакваліфікаваць ягоныя дзеянні на арт. 364 КК і судзілі — фактычна другі раз — за тое ж самае, што з’яўляецца парушэннем базавых прынцыпаў права: чалавек не можа быць асуджаны двойчы за адно і тое ж.

Альбо той факт, што, згодна з КПК, чалавек, які «заспеты падчас злачынства альбо непасрэдна пасля яго […], можа быць затрыманы па непасрэдным падазрэнні ў ажыццяўленні злачынства», чаго, аднак, не адбылося — Галко быў затрыманы за «дробнае хуліганства» і атрымаў 2 базавых штрафу.

У далейшым суд адмяніў гэтае пакаранне і накіраваў справу на новы разгляд, які і адбыўся 28 жніўня. На гэтым юрыдычныя парадоксы скончыліся і пачаліся прансторава-часавыя.

Суддзя Вера Міхайлаўна Галаўкова, што вяла працэс, выклікала двух сведкаў па справе, адзін з якіх (міліцыянт Сойка) не з’явіўся (Галко быў супраць таго, каб разглядаць справу ў ягонай адсутнасць, але суд не ўзяў гэта да ўвагі), бо знаходзіцца ў Брэсце. Хутка высветлілася, што другі сведка — міліцыянт Шынкароў — не памятае ўвогуле нічога.

Суддзя прасіў расказаць, як адбывалася затрыманне Галко.

Шынкароў:

— Не памятаю.

Суддзя:

— Што, зусім нічога не памятаеце?

Шынкароў:

— Калі шчыра, не вельмі…

Дадатковыя пытанні плёну не далі. Шынкароў не памятаў, дзе знаходзіўся Галко ў момант затрымання, і не здолеў прыгадаць, чаму ён увогуле вырашыў, што Галко трэба затрымаць.

Суддзя пачала зачытваць матэрыялы справы. Згодна з імі, Галко быў затрыманы Шынкаровым і Сойкам… на вуліцы Бурдэйнага! І гэта ў той час, як уся крымінальная справа, па якой Галко атрымаў 4 гады хіміі, будавалася вакол таго, што Зміцер быў затрыманы ў сябе ў кватэры на Мележа. Канешне, гэта ні ў якім разе не кажа аб неахайнасці міліцыянтаў альбо, крый Божа, аб фальсіфікацыі справы. Хутчэй за ўсё, Галко проста знаходзіўся ў двух месцах адначасова. Чаму ж беларуская міліцыянты не могуць быць першаадкрывальнікамі новых прынцыпаў у квантавай фізіцы?

Урэшце, суддзя адпусціла міліцыянта, а Галко напрыканцы працэсу папрасіў занесці ў пратакол той факт, што Шынкароў і Сойка ўвогуле не фігуруюць у крымінальнай справе, а таксама супярэчнасці адносна часу затрымання.

Сам Дзмітрый Галко адзначае: згодна з матэрыяламі крымінальнай справы, яго затрымлівалі не Сойка і Шынкароў, а Барзяк і Каптур. Але ж, відома, міліцыя памыляцца не можа, і таму найбольш верагоднае тлумачэнне палягае ў тым, што два гэтых затрыманні адбываліся паралельна, у дзвюх рэчаіснасцях.

Пасля перапынку суддзя пастанавіў паўторна выклікаць сведку Сойку і запрасіць зводку Савецкага РУУС адносна здарэння ў той дзень.

Новае судовае пасяджэнне папярэдне прызначанае на 17 кастрычніка, 10.30. Дзмітрый Галко зможа прысутнічаць на ім, толькі калі яшчэ не будзе адпраўлены ў спецкамендатуру для адбывання сваіх чатырох гадоў «хіміі». У адрозненне ад участковых і патрульных, маніпуляваць часам і прасторай ён яшчэ не навучыўся.

# Больш за 900 беларусаў ужо падпісаліся за беларускую мову на этыкетках

Зінаіда ЦІМОШАК

**Сябры грамадскай ініцыятывы «Умовы для мовы» Ігар Случак і Аліна Нагорная прапануюць падпісаць петыцыю дзеля пашырэння беларускамоўнай прасторы.**

Як паведаміла Аліна Нагорная, нагодай для стварэння петыцыі стала тое, што беларускае заканадаўства забараняе вытворцам пісаць на этыкетках толькі па-беларуску. У той жа час толькі па-руску пісаць на этыкетках можна. Случак і Нагорная прапануюць падтрымаць петыцыю на сайце petitions.by для таго, каб спыніць дыскрымінацыю па моўнай прыкмеце ў сферы гандлю і паслуг.

Калі гэтая прапанова будзе падтрыманая заканадаўцамі, вытворцы будуць абавязаныя змяшчаць інфармацыю на этыкетках на дзвюх дзяржаўных мовах. Значыць, на этыкетках можна будзе пабачыць не толькі рускую, але і беларускую мову.

Петыцыя накіроўваецца ў Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю, а таксама ў Дзяржаўны камітэт па стандартызацыі.

Ігар Случак патлумачыў, што яшчэ 1 лютага 2017 года ўступіў у сілу СТБ 1100-2016 «Харчовая прадукцыя. Інфармацыя для спажыўца. Агульныя патрабаванні», які быў прыняты Дзяржаўным камітэтам па стандартызацыі Рэспублікі Беларусь. У артыкуле 4 дакумента гаворыцца: «Інфармацыя для спажыўца ў выглядзе тэксту наносіцца на рускай або рускай і беларускай мовах».

— Гэтая фармулёўка парушае норму Закона «Аб абароне правоў спажыўцоў» і Канстытуцыю Беларусі ў яе частцы аб роўнасці моў, бо з інструкцыі вынікае, што толькі па-беларуску інфармацыю даводзіць нельга, а толькі па-руску — можна, — гаворыць Случак. — Выправіць гэта парушэнне можа толькі ўвядзенне абавязку інфармаваць




спажыўца на дзвюх дзяржаўных мовах адначасова.

Тэхнічны рэгламент Мытнага саюза «Аб бяспецы ўпакоўкі» прадпісвае, што «інфармацыя павінна быць выкладзена на рускай мове і на дзяржаўнай(ых) мове(ах) дзяржавы-чальца МС пры наяўнасці адпаведных патрабаванняў у заканадаўстве(ах) дзяржавы(ў)-чальца(оў) МС».

ТР ТС 005/2011, ТР ТС 022-2011 і СТБ1100-2016 патрабуе, каб руская мова прысутнічала абавязкова. Беларуская мова з’яўляецца неабавязковай і не можа выкарыстоўвацца без рускай мовы. У той жа час, абарона правоў спажыўцоў, без залежнасці ад таго, якой дзяржаўнай мовай яны карыстаюцца ў жыцці, з’яўляецца важнай задачай, якая стаіць перад нашай дзяржавай, што на практыцы рэалізуе канстытуцыйную норму пра тое, што Беларусь з’яўляецца сацыяльнай дзяржавай.

Случак лічыць, што сітуацыю можна выправіць праз змены ў СТБ 1100-2016, паводле якіх інфармацыя павінна даводзіцца да спажыўца адразу на дзвюх дзяржаўных мовах. Пры такой рэдакцыі закона вытворцы не толькі з Беларусі, але і з іншых краін Мытнага саюза, што рэалізуюць прадукцыю на тэрыторыі Беларусі, будуць абавязаны маркіраваць прадукцыю па-беларуску і па-руску, рэалізуючы тым самым норму артыкула 17 Канстытуцыі.

Грамадскі актывіст паведаміў, што сёння прапановы аб унясенні змен у прававыя акты, паводле якіх інфармацыя аб тавары павінна даводзіцца да спажыўца адразу на дзвюх дзяржаўных мовах, падтрымліваюць нават дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, выканаўчыя камітэты, Саветы дэпутатаў, Міністэрства культуры, Інстытут мовазнаўства НАН, таварыствы абароны правоў спажыўцоў, а таксама вытворцы тавараў і паслуг.

Так, старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Уладзімір Андрэйчанка ў сваім адказе на прапанову зменаў, паводле якіх інфармацыя аб таварах і паслугах павінна даводзіцца адначасова па-беларуску і па-руску, адзначыў, што ён «як грамадзянін Рэспублікі Беларусь і дэпутат цалкам падтрымлівае ініцыятывы па пашырэнні сферы ўжывання беларускай мовы».

Дырэктар філіяла Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Цэнтра даследаванняў беларускай мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Ігар Капылоў паведаміў, што Інстытут мовазнаўства падтрымлівае прапанаваныя карэкцыроўкі прававых актаў. Капылоў адзначыў, што «унясенне дадзеных змен будзе садзейнічаць забеспячэнню моўных правоў беларускіх спажыўцоў, раўнапраўнаму становішчу Беларусі як самастойнага суб’екта Мытнага саюза, а таксама замацаванню станоўчага міжнароднага іміджу нашай краіны», — праінфармаваў Случак.

На момант публікацыі петыцыю падпісалі больш за 900 чалавек.

# Адміністрацыя Слуцкага хлебазавода: «Бульбаш» — візітная картка нашай дзяржавы»

Марыя ВЕРАС

**Цікавы адказ атрымалі грамадскія актывісты са Слуцка ад адміністрацыі Слуцкага хлебазавода наконт змены назвы гатунку хлеба «Бульбаш».**

Нагадаем, 30 жыхароў Слуцка ў калектыўным звароце на імя дырэктара Слуцкага хлебазавода выказалі думку, што назва хлеба «Бульбаш» прыніжае нацыянальную годнасць беларусаў, паколькі з’яўляецца абразлівай мянушкай у адносінах да нашага народа, і папрасілі замяніць яе.

— Адказ мяне здзівіў як па змесце, так і па форме, — гаворыць слуцкая актывістка Зінаіда Цімошак. — Па-першае, на ім ёсць усе рэквізіты завода, але няма подпісу кіраўніка прадпрыемства Дзмітрыя Чырца, да якога мы звярталіся. Адказ безыменны — ад усяго калектыву ААТ «Слуцкі хлебазавод». Да таго ж напісаны рускай мовай, што супярэчыць заканадаўству аб зваротах грамадзян, паколькі калектыўны зварот грамадзян быў напісаны па-беларуску.

Некаторыя вытрымкі з ліста вартыя цытавання:

«Главный продукт питания белорусов — это картошка. То наше традиционное, родное и близкое, на чем базируется самосознание людей».

«На международной выставке во Франции хлеб «Бульбаш» был помещен устроителями выставки на самое почетное место; хлеб (благодаря, отчасти, и колоритному названию) стал предметом высокого интереса для иностранных представителей и гордостью нашей делегации».

Таксама аўтары пісьмовага адказу лічаць, што «бульба» — «это то, что отличает белорусов от других наций, это — национальная «фишка» белорусов», а хлеб «Бульбаш» — візітная картка нашай дзяржавы.

Таму, мяркую, скарыстанне слова «Бульбаш» у назве хлеба не супярэчыць дзейснаму заканадаўству Рэспублікі Беларусь і прававых асноў для забароны вытворчасці і рэалізацыі хлеба «Бульбаш» няма.

Але адказ дадзены не па сутнасці звароту, паколькі заяўнікі прасілі змяніць назву гатунку прадукцыі і нічога не мелі супраць самой бульбы. Большая частка адказу, аднак, прысвечана ўхваленню беларускай бульбы, і нават зроблена выснова, што на бульбе грунтуецца «самасвядомасць беларусаў».

Наколькі хлеб «Бульбаш» сапраўды з’яўляецца візітоўкай нашай дзяржавы — гэта можна будзе высветліць толькі пасля звароту да кіраўнікоў дзяржавы.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Работа над памылкамі

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Мяне заўсёды здзіўляла пазіцыя дзяржаўных органаў што да канструктыўнай крытыкі. Замест таго, каб успрымаць яе і станавіцца лепш, яны спрабуюць альбо выказацца ў стылі «сам дурань», альбо заторкнуць рот крытыканам. А потым з-за гэтага здараюцца трагедыі.**

Яшчэ канчаткова не адгрымеў «Міндраўгейт», калі следчыя скопам арыштоўвалі медыкаў за карупцыю. Некаторыя з іх яшчэ пад следствам, і судовая кропка ў гэтай справе пастаўленая не была. І вось — новы скандал, які ўзварушыў краіну. У Ганцавіцкім раёне памерлі двое немаўлят — пасля стандартнай, здавалася б, прышчэпкі. Як высветлілася потым, гэтая вакцына не прайшла сертыфікацыю ў Беларусі і не была належным чынам правераная. Але ж фельчарка, якая рабіла гэтыя прышчэпкі, лекі не на базары набыла.

У выніку інтэрнэт-часопіс «Ежедневник» высветліў, што спрэчную вакцыну калолі тысячам беларускіх дзяцей — па звестках аўтара расследавання Сяргея Сацука, яна выкарыстоўвалася 94 тысячы разоў! Што далей яму падставу сказаць: наша Міндароўя выкарыстоўвае нашых жа дзяцей як паддоследных жывёлаў.

Міндароўя, зразумела, пакрыўдзілася, аднак усе факты ўказваюць на тое, што выснова Сацука мае права на існаванне. Але што зрабілі чыноўнікі ад медыцыны? Хутка праверылі вакцыну? Пачалі яе сертыфікацыю? Можа, сталі высвятляць, як і чаму смяротны прэпарат трапіў да дактароў?

Не. Міндароўя паскардзілася ў Генпракуратуру на Сацука і «Ежедневник». Маўляў, «фармат падачы інфармацыі і грубае выкладанне фактаў у артыкулах, апублікаваных на адным з інтэрнэт-рэсурсаў і перадрукаваных іншымі СМІ, могуць нанесці шкоду нацыянальнай бяспецы Рэспублікі Беларусь у сферы аховы здароўя».

Заўважце: няма ніводнага слова пра несапраўднасць выкладзенай інфармацыі, няма абвяржэння апублікаваных фактаў. Нацыянальнай бяспецы шкодзіць «грубае выкладанне» праўды!

А якой павінна быць праўда? Лагоднай? Асабліва пасля таго, як двое немаўлят памерлі ад вакцынацыі?

Я спадзяюся, што ў пракурорай таксама ёсць дзеці, якіх прышчапляюць той жа вакцынай. І замест таго, каб займацца Сацуком, яны зоймуцца тымі, хто да іх звярнуўся.

Але каб Міндароўя было адзінкавай у такой палітыцы! Зараз у Мінску праходзіць судовы працэс па справе гібелі ў вайсковай частцы ў Печах Аляксандра Коржыча. Гэта тое, што год таму ўскалыхнула ўсю краіну і высвеціла, што так званая «дзедаўшчына» зусім не пераможаная ў войску. Тады таксама Міністэрства абароны казала — ва ўсім вінаватыя нячэсныя журналісты, якія «раздзьмуваюць з мухі слана». А зараз на судзе салдаты апелююць такімі фразамі, як «Коржыча ў вайсковай частцы не збівалі больш за іншых навабранцаў». То бок, насамрэч, беларускае войска засталося машынай катаванняў, а не абаронцам Айчыны, як пра тое кажуць вельмі прафесійна зробленыя прывабныя рэкламныя ролікі.

Увогуле, мы назіраем надзвычай дзіўную сітуацыю. «Справа БелТА», калі былі арыштаваныя журналісты БелаПАН і tut.by (зараз частцы з іх забаронены выезд за мяжу), зварот да пракуратуры ў сувязі з «Ежедневніком», зыск спадара Ізраілевіча супраць «Новага Часу»…

**Калі адначасна «пад раздачу» трапляюць больш за тры выданні, міжволі ўзнікае думка — а ці не ёсць гэта спланаваным сцэнарам? Ці не рыхтуецца (альбо ўжо праводзіцца) у нас «зачыстка» інфармацыйнага поля?**

Падаецца, не звязаныя паміж сабою рэчы. Але яны дзіўным чынам узніклі ў адзін час, з адной мэтай — зноў паспрабаваць прыдушыць недзяржаўную журналістыку. Калі адначасна «пад раздачу» трапляюць больш за тры выданні, міжволі ўзнікае думка — а ці не ёсць гэта спланаваным сцэнарам? Ці не рыхтуецца (альбо ўжо праводзіцца) у нас «зачыстка» інфармацыйнага поля перад нейкімі падзеямі? І што гэта будуць за падзеі?

Хутчэй за ўсё, падзеі пачнуць развівацца незаўважна, але хутка. І гэта ўжо разумеюць у вышэйшым кіраўніцтве дзяржавы.

Ёсць адзін цікавы момант, які прайшоў мала заўважаным у сродках масавай інфармацыі. Падчас паездкі ў Оршу Лукашэнка абураўся тым, што «катаржныя людзі працуюць за 200 долараў». Ён меў на ўвазе як умовы працы, так і нізкі заробак. Але пасля сустрэчы з Пуціным ён жа сказаў: «Калі будзе ў нас развівацца нармальная эканоміка, будуць больш-менш нармальна жыць нашы людзі, ну хоць бы як цяпер, ніякіх страхаў для беларусаў быць не можа». «Ну хоць бы як цяпер» — гэта як «катаржныя людзі за 200 долараў»?

Згодна з дадзенымі Белстата па выбарачным абследаванні хатніх гаспадарак наконт узроўню жыцця, у Беларусі за мяжой беднасці ў другім квартале знаходзілася 5,7% насельніцтва. Сярэднедушавыя наяўныя рэсурсы гэтых людзей былі ніжэй за бюджэт пражытачнага мінімуму, які з 1 жніўня павялічыўся амаль да 214 рублёў.

Часцей за ўсё за рысай беднасці аказваюцца сем'і з непаўналетнімі дзецьмі, сярод якіх 8,3% — малазабяспечаныя (кварталам раней — 8,4%). Сярод сем'яў без дзяцей гэты паказчык складае 1,9%. Вышэй за ўсё ўзровень малазабяспечанасці сярод сем'яў Гомельскай і Брэсцкай абласцей — 5,6% і 5,5% адпаведна. Ніжэй за ўсё гэты паказчык у Мінску — 1,1%.

На канец чэрвеня насельніцтва Беларусі складала 9 мільёнаў 478,2 тысячы чалавек. Атрымліваецца, што за рысай беднасці знаходзілася крыху больш за 540 тысяч чалавек. Больш за паўмільёна!

А ў астатніх — жабрацкія заробкі.

Падавалася б, асэнсоўваючы тое, што краіна коціцца ў эканамічную прорву, улады і спрабуюць ратавацца — новага прэм'ера прызначылі. «Новы Час» у мінулым нумары, праўда, пісаў, што ад гэтага прэм'ера ніякай карысці не будзе. Аднак на гэтым тыдні такое аматарскае меркаванне было пацверджана аўтарытэтамі. «Мы не чакаем значных пераменаў, звязаных са зменай урада», — у апошнім выпуску эканамічнага агляду пішуць эканамісты расійскага «Сбербанка».

Яны звяртаюць увагу, што большасць праблем беларускай эканомікі палягае не ў рэчышчы таго, хто будзе альбо не будзе прэм'ерам, а ў плоскасці структурных дысбалансаў беларускай эканамічнай мадэлі.

«Сумны стан маштабнага і неэфектыўнага дзяржсектара, які, па сутнасці, і стаў прычынай кадравых перастановак, патрабуе жорсткіх і балючых захадаў з боку ўладаў. Ёсць сумневы, што новы ўрад гатовы на такія рашучыя крокі», — адзначаюць аўтары агляду.

А вось тут эксперты «Сбербанка» памыляюцца. Урад, можа быць, і гатовы на такія рашучыя крокі, але хто ж яму дасць? Гэта не ад урада залежыць, і не ён такія рашэнні прымае.

Але замест прыняцця рашэнняў працей схаваць галаву ў пясок і наракаць на люстэрка, у якасці якога зараз выступаюць недзяржаўныя СМІ.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Алесь Чаркашын

**Патрыёт Беларусі, палітык і грамадскі актывіст, які не выпускаў з рук гітару і малітоўнік, тры гады таму загінуў ва Украіне.**

Тры гады таму Алесь Чаркашын быў цяжка паранены ў баі пад Белакаменкай на Данбасе. Яго перавезлі ў ваенны шпіталь. Перад смерцю ён яшчэ паспеў убачыць сваю дзяўчыну, але 28 жніўня Алесь пайшоў з жыцця. Яму было ўсяго 33 гады.

Алесь Чаркашын — з Брэста. Яшчэ да пачатку 2000-х гадоў быў сябрам патрыятычнай арганізацыі «Край», потым прыйшоў у «Зубр». Быў удзельнікаў усіх беларускіх Плошчаў. Пасля 2010 года Алесь Чаркашын стаў адным з арганізатараў брэсцкіх «маўклівых пратэстаў», кіраваў акцыямі «Стоп-бензін» у 2011 годзе. Некаторы час узначальваў партыю БХД у Брэсце. У 2013 годзе Чаркашын правёў у Беларусі сваю самую запамінальную акцыю. У адзежы прарока і з акрываўленымі рукамі ў ланцугах ён выйшаў пад будынак аблвыканкама ў Брэсце і заклікаў уладу і мінакоў пакаяцца ў грахах.

Да пачатку вайны Алесь Чаркашын вучыўся ў Таўрыйскім Хрысціянскім інстытуце ў Херсоне. На вайну пайшоў зімой 2015 года.

На ваеннай службе Чаркашын меў пазыўны «Тарас». Ён аказваў у асноўным медыцынскую дапамогу і фактычна выконваў ролю капелана. Заўсёды насіў з сабою кішэнны Новы Запавет з надпісам «Беларусь, дзецям Божым у вечнасць».

Пасля смерці Чаркашыну надалі званне «Народнага Героя Украіны». У Кіеве на вуліцы Беларускай быў усталяваны помнік добраахвотнікам, сярод якіх ёсць імя Алеся Чаркашына.

Чаркашын быў пахаваны на могілках вёскі Камяніца Жыровецкая каля Брэста. Два гады таму на магіле былі ўсталяваны помнік, стылізаваны сімвал трыяды: «Бог, Радзіма, Служэнне».

## Юрый Казіятка



**У агенцтве «Мінск-Навіны» змянілася кіраўніцтва — выконваючым абавязкі дырэктара з 28 жніўня стаў экс-кіраўнік СТВ Юрый Казіятка.**

Раней дырэктарам з'яўлялася Кацярына Дубінская, а Казіятка — яе намеснікам.

Казіятка быў звольнены з СТВ адначасова з Паўлам Якубовічам і Генадзем Давыдзькам падчас лютаўскай ратацыі кіраўнікоў СМІ. СТВ ён узначальваў з 2005 года. Пасля сыходу з тэлебачання Казіятка застаўся чальцом Савета Рэспублікі і трапіў у «Мінск-Навіны» ў якасці намесніка дырэктара, адказваў «за развіццё».

Сваю прафесійную кар'еру Казіятка пачынаў на БТ у пачатку 2000-х гадоў, разам з Аляксандрам Зімоўскім быў у той час асобай афіцыйнай прапаганды.

Агенцтва «Мінск-Навіны» належыць Мінгарвыканкаму. У склад холдынгу ўваходзяць газеты «Мінскі кур'ер» і «Вячэрні Мінск», часопіс «Арэлі», «Радыё Мінск» і сайт minsknews.by.

## Арына Сабаленка



**Увечары 25 жніўня на турніры ў Нью-Хейвене Арына Сабаленка ўзяла свой першы тытул у рамках WTA-тура. З 27 жніўня спартсменка ўзнялася на 20-ты радок сусветнага рэйтынгу.**

Пасля доўгачаканай перамогі ў двух сэтах на турніры ў Цынцынаці Арына, падобна, вырашыла паказаць клас, выступаючы ў Нью-Хейвене. Чатыры з пяці паядынкаў выявілі пераможцу пасля двух сэтаў, што дазволіла тэнісістцы зберагчы сілы і паказваць лепшую гульню.

Дарэчы, частыя зацяжныя матчы зрабілі беларуску лідарам жаночага тура па колькасці перамог у трох сэтах.

«Такая шчаслівая ў гэты момант. Я буду памятаць гэты дзень усё маё жыццё. Дзякуй усім за вашу падтрымку. Каманда… вы ўсё ведаеце», — напісала Сабаленка ў сацсетках.

Яна загрузіла фота, дзе з задавальненнем збіраецца есці піцу. Гэтым яна паказала, што стрымала слова: раней яна сказала, што калі пераможа ў фінале, то пойдзе есці фастфуд.

Сабаленка стала другой 20-гадовай тэнісісткай, якая выйграла турнір у Нью-Хейвене. Першай з'яўляецца Каралін Вазняцкі, якая перамагла ў 2010 годзе. І Сабаленка — усяго толькі трэцяя беларуска, якая можа пахваліцца «адзінкавым» тытулам. Вікторыя Азаранка выйграла 21 турнір WTA ў адзіночным разрадзе, Наталля Зверава — 4.

# Вайсковыя могілкі — гэта пра жыццё

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Абарона Вайсковых могілак перарасла межы змагання за помнікі і агароджы. Цяпер гэта змаганне за права быць гаспадарамі горада і краіны і будаваць сваё жыццё так, як гэтага хочуць людзі, а не чыноўнікі.**



Валанцёры, якія ўсё лета працуюць над добраўпарадкаваннем пахаванняў на Вайсковых могілках, а таксама літаратары сабраліся ў «Арт-сядзібе», размаўлялі, чыталі вершы і прыйшлі да высновы, што могілкі — гэта не толькі месца пра смерць, але і, як ні дзіўна, пра жыццё. У выпадку Вайсковых могілак — гэта месца, дзе нарадзілася лакальная грамадзянская супольнасць.

— Вайсковыя могілкі — незвычайны феномен у мінскім жыцці, — лічыць настаўніца, літаратарка і валанцёрка Ганна Севярынец. — Руйнаванне могілак — звычайная справа для нашага горада, тут заўсёды зносілі пахаванні, каб будаваць на іх новыя дамы, новае жыццё. Першы раз грамадства стала на абарону сваіх могілак, і на нашых вачах ствараецца прэцэдэнт, калі мы кажам пра могілкі як пра каштоўнасць сённяшняга дня. Гісторыя, жыццё і сыход людзей 1930–1940-х гадоў, якія збольшага тут пахаваныя, — каштоўнасць для нас сёння. Гэта людзі, гісторыю якіх мы яшчэ не перажылі, час якіх мы яшчэ не пераасэнсавалі. Абараняючы Вайсковыя могілкі, мы абараняем сваё права на такое жыццё, якое лічым патрэбным.

Гэты некропаль аб'яднаў сяброў і ворагаў, рэпрэсаваных паэтаў ды акадэмікаў і чэкістаў,

**Валанцёрскія працы будуць працягвацца. Усіх, у каго ёсць вольны час, рыштунак, фарба, альбо проста жаданне дапамагчы, чакаюць штодня на Вайсковых могілках з 9 да 20 гадзін**

ён стаў яскравым фіналам незвычайных перапляценняў лёсаў для тых, хто тут спачыў, і пачаткам для тых, хто толькі знаёміцца з яго гісторыяй.

Дарэчы, пра гісторыі. Іх Вайсковыя захоўваюць багата, да якой магілы не падыдзі — знойдзеш цікавостку, пачынаючы ад самых вядомых «забранзавелых» класікаў і заканчваючы сціплымі забытымі геніямі.

Узяць хаця б народных паэтаў. Гісторык Павел Каралёў, які арганізаваў абарону могілак, працуе ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы. Ён распавёў пра тое, як у 1962 годзе Янку Купалу хавалі (дакладней, гэта было перапахаванне) на Вайсковых. Улады пабаяліся масавай дэманстрацыі, таму пайшлі на хітрыкі: кожнай дэлегацыі, якая ішла на пахаванне, казалі розны час. І ў гадзіну сапраўднага пахавання, паводле ўспамінаў Пауліны Мядзёлкі, прысутнічала ўсяго чалавек 50. Пазней Пімен Панчанка прызнаваўся, што калі пасля пахавання ім насустрач ішлі людзі, якім назвалі больш позні час, «нам было сорамна, мы апускалі вочы долу і казалі, што пахаванне ўжо адбылося». Тады ўлады апраўдваліся: маўляў, баяліся, што вялікі натоўп, які прыйдзе развітацца з песняром, патопча сцежкі. На што Пауліна Мядзёлка з'едліва адказвала: «А калі хавалі Якуба Коласа ці Уладзіславу Францаўну — не баяліся патаптаць?»

У тым сапраўдным пахаванні Купалы, дарэчы, удзельнічаў паэт Уладзімір Дубоўка, але калі ў «ЛіМе» пісалі пра падзею, Дубоўку выкраслілі. Той разумеў сваю «нязручнасць» для тагачаснай улады і адказаў на цэнзуру эпіграмай.

Канешне, з магіламі класікаў на Вайсковых, дзякуй Богу, пакуль нічога рабіць не збіраюцца. Але каштоўнасць уяўляюць не толькі яны. Як справядліва зазначыла паэтка Галіна Сіўчанка, па кожным помніку тут можна напісаць кнігу, бо ён вельмі шмат можа расказаць пра чалавека. А па шэрых «квадрацыках», якія ўсталёўвае цяпер Спецкамбінат КБА, ніякая кніга жыцця не ствараецца.

— Па іх можна толькі прачытаць шаблон пра тых, хто іх вынайшаў. Таму валанцёры, што працуюць на Вайсковых, робяць усім нам «прышчэпку» ад бяспамяцтва.

А Марыя Міхайлаўна Міцкевіч, унучка Якуба Коласа і Янкі Маўра, распавяла, што Колас шмат пісаў у лістах пра тое, што яго непакоіў беспарадак на могілках.

— Вайсковыя могілкі ўвайшлі ў маё жыццё не толькі таму, што тут пахаваны Якуб Колас, але і іншыя родзічы, напрыклад, цешча Коласа, помнік якой таксама хацелі знесці. Цяпер там пахаваны і мой дзядзька, старэйшы сын Якуба Коласа Даніла Канстанцінавіч, і мая бабуля Марыя, у гонар якой мяне назвалі.

Па яе словах, сам Колас прысутнічаў на Вайсковых могілках на пахаванні маладога загінулага ад брушнога тыфу паэта Паўлюка Труса.

Марыя Міхайлаўна прачытала вершы свайго знакамітага дзеда і паведаміла, што хутка выйдзе яго паэма «Сымон-музыка» без цэнзуры.

— У мяне ніхто не пахаваны на Вайсковых могілках, але мая 6-гадовая бабуля ў час першай бамбёжкі Мінска ў 1941 годзе хавалася тут паміж магіл. Мужчыны яшчэ казалі жанчынам здымаць белыя хустачкі, каб іх не ўбачылі. Усе тады выжылі. Такім чынам могілкі ўратавалі жыццё маёй бабулі, — распавяла яшчэ адну гісторыю «пра жыццё» валанцёрка Марыя Каленнікава.

Яшчэ адна валанцёрка і самая актыўная каардынатарка прац Кацярына Парыжаская заўважыла, што калі прыходзіць прыбіраць магілы, чытае эпітафіі і думае пра тое, з якімі пачуццямі людзі ўладкоўвалі гэтыя пахаванні.

— Я скажу словамі Паўлюка Труса: «Здзейсніць мэту і золата дум падарыць на карысць Беларусі», — вось чаму мы сюды прыходзім, — падсумавала валанцёрка.

На вечарыне таксама выступілі літаратары Кацярына Глухоўская, Вольга Маркітантава, Андрэй Хадановіч. І мяркуючы па тым, што памяшканне «Арт-сядзібы» было перапоўненае людзьмі, ёсць спадзеў, што жыццё могілак не спыніцца.

Валанцёрскія працы будуць працягвацца, актывісты непакояцца, што напачатку верасня Спецкамбінат можа аднавіць знос помнікаў. Таму ўсіх, у каго ёсць вольны час, рыштунак, фарба, альбо проста жаданне дапамагчы, чакаюць штодня на Вайсковых могілках з 9 да 20 гадзін. Сачыць за ходам прац можна на прысвечаных некропалю старонках у Фэйсбуку і УКантакце.

# «Ніякіх помнікаў і крыжоў у Курапатах не будзе!»

НЧ

**Мінчуку не далі ўсталяваць помнік расстралянаму прадзеду ў Курапатах.**

Старшы бухгалтар Белкамунбанка Вольф Рубінштэйн быў расстраляны НКУС у Мінску ў 1938 годзе. Яго праўнук Яўген Батура хацеў ушанаваць памяць продка ў 80-ю гадавіну трагедыі.

Архіў КДБ не раскрывае дакладнае месца злачынства сталінскіх часоў, таму Яўген вырашыў зрабіць гэта ў сімвалічным для ўсіх сваякоў рэпрэсаваных беларусаў месцы — у Курапатах.

Паколькі Вольф Рубінштэйн быў іудзеем, Яўген абраў у якасці памятнага знака не крыж, а камень. Знайшоў яго, вырабіў шыльду, арандаваў трактар з прычэпам, каб давезці камень да месца. Калі раніцай 27 жніўня камень падвезлі да ўрочышча, аднекуль з'явіліся двое людзей у цывільным і заблакавалі трактар.

— Яны паводзілі сябе нахабна, казалі, што мы здзяйсняем хуліганства, бо едзем па зялёнай зоне, хаця мы стаялі на дарозе, — распавёў «Новаму Часу» Яўген. — Сказалі, каб я дома ставіў помнік, а тут ён непатрэбны. Мы сядзелі ў кабіне, а адзін з іх адчыніў дзверы і сказаў: «Я хачу паслухаць, пра што вы размаўляеце». Паабяцалі вялікія непрыемнасці і выклікалі сваё кіраўніцтва. Хаця ніхто з іх не прадстаўляўся. Калі кіроўца трактара запытаўся, хто яны, са здзекам адказалі, што рэпарцёры, і пры гэтым здымалі ўсё на камеру. Ушчыльную здымалі трактар, накладныя…

Пасля да Курапатаў пад'ехала яшчэ адна машына з людзьмі ў цывільным, а таксама прыехалі нейкія асобы ў гарнітурах.

— Спачатку яны казалі, што гэта самаўпраўства, ніхто не дазваляў тут нічога ставіць, тут валоданні лясной гаспадаркі, і камні і крыжы, якія прывозяць у Курапаты, — гэта ўвогуле засмечванне лесу. Але я казаў: якая лясная гаспадарка, калі гэта народны мемарыял першай катэгорыі, дзе дазволена ўшанаванне памяці загінулых…



Па словах Яўгена Батуры, убачыўшы, што ён сапраўды едзе з каменем да мемарыялу, а не да рэстарацыі «Паедзем, паядзім», невядомыя нібыта супакоіліся. Нават вырашылі не выклікаць міліцыю і ДАІ, аднак загадалі чакаць леснікоў і прадстаўнікоў выканкама.

— Пры гэтым яны перашэптваліся з ціхарамі, — зазначае Яўген. — Адзін з апошніх мне казаў, што ніякіх могілак, нават грамадзянскіх, у Беларусі ўвогуле быць не павінна. Казаў мне: навошта табе гэта трэба, памяць павінна быць у галаве, а на могілкі толькі лайдакі ходзяць. Ганарыўся, што яго памерлыя сваякі гніюць пад зямлёй, а яму па-барабану. Маўляў, памерлыя, магілы — гэта ўсё лухта, у тым ліку і яго сканаўшыя дзяды.

Некалькі гадзін прайшло ў чаканні чыноўніцтва з лясгасу: ехаць ва ўрочышча яны не спяшаліся, а іх тэлефоны не адказвалі. Нарэшце прыехалі двое леснікоў.

— Адзін з ціхароў адразу сказаў мне: спачатку я буду з імі гаварыць, а пасля — ты. І адазваў іх у бок.

Пасля гэтай «размовы» леснікі сказалі Яўгену ехаць у лясгас, нібыта каб атрымаць дакумент на дазвол усталявання помніка. Зрэшты, мужчына быў не супраць атрымаць афіцыйную паперу, але калі ён з'ехаў, кіроўцу трактара, які застаўся ля Курапатаў, сталі пагражаць штрафам, і той з'ехаў разам з каменем. Яўген жа, не заспеўшы начальніка Бараўлянскага лясгаса Аляксандра Міранавіча на месцы, пазваніў яму і пачуў толькі, як той гаркнуў у слухаўку: «Ніякіх помнікаў і крыжоў у Курапатах не будзе!» А будзе толькі тады, калі гэта вырашыць зрабіць дзяржава…

— Мяне вельмі раззлавала ўся гэтая сітуацыя, — каментуе Яўген, — бо паводле якога права нейкі ляснік можа вызначаць, дзе ставіць помнікі рэпрэсаваным, а дзе не? Ушанаванне памяці не патрабуе ніякіх узгадненняў, ёсць нават пастанова, у якой гэта зацверджана.

Адмаўляцца ад ушанавання памяці прадзеда ў Курапатах Яўген Батура не збіраецца.

Уладзімір ВАЛОДЗІН

**Неяк два студэнты Мінскага медыцынскага інстытута вырашылі, што яны дарослыя людзі і маюць права даць ацэнку эканамічнаму і палітычнаму развіццю сваёй краіны. Якую ацэнку яны далі і што ім за гэта было?**




**Прэзідыум урачыстага пасяджэння партыйных, савецкіх, грамадскіх арганізацый, прадстаўнікоў Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флота, прысвечанага Дню Перамогі.** Фота РИА Новости

# Медыкі, якія «паставілі дыягназ» краіне

Ужо больш за 25 гадоў мінула пасля распаду СССР і, здавалася б, драмы, якая наша краіна перажывала ў XX стагоддзі, павінны былі б быць усебакова даследаваны гісторыкамі. Але беларуская адмысловцы не спяшаюцца закранаць некаторыя тэмы. У прыватнасці, тэмы палітычнай апазіцыі ў БССР.

Вось і героям гэтага нарыса, Уладзіміру Казлову і Даніэлю Марошаку, пакуль былі прысвечаныя толькі кароткія артыкулы ў даведніках «Нонканфармізм у Беларусі, 1953–1985» (пад рэдакцыяй Алега Дзярновіча) і «Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі, 1794–1991» (складальнік Леанід Маракоў).

З іх вынікае, што названыя студэнты Мінскага медыцынскага інстытута стваралі «падпольную арганізацыю», за што і былі асуджаныя па «контррэвалюцыйных» артыкулах Крымінальнага кодэкса. Гэтыя звесткі выклікалі цікавасць, хацелася ведаць больш пра «падпольшчыкаў». Таму я і накіраваўся ў Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі, дзе ў фондзе Пракуратуры СССР захоўваюцца матэрыялы наглядной вытворчасці па справе Казлова і Марошака.

Матэрыялы нагляднай вытворчасці — спецыфічная крыніца. Яны, як правіла, даюць толькі абмежаванае ўяўленне пра сутнасць справы. Гэта скаргі асуджаных ці іх сваякоў, пракурорскія даведкі і пратэсты, часам — копіі судовых рашэнняў. У большасці выпадкаў напісаныя асуджанымі дакументы (дзённікі, лісты, маніфесты, праграмы, статуты, улёткі, літаратурныя творы) і паказанні на следстве і ў судзе цытуюцца толькі ў кароткіх фрагментах. Тым не менш, справа таўшчынёй у трыццаць шэсць аркушаў дае значна лепшае разуменне гісторыі, чым артыкул у даведніку памерам у паўстаронкі.

19 кастрычніка 1954 года былі арыштаваныя студэнты чацвёртага курса Мінскага медыцынскага інстытута Уладзімір Георгіевіч Казлоў (1934 года нараджэння) і Даніэль Давыдавіч Марошак (1933 года нараджэння), абое камсамольцы, несудзімыя і халастыя. Ураджэнец Віцебска, Казлоў, быў арыштаваны ў інтэрнаце медінстытута па вуліцы Краснай, 19, пакой 21 (інтэрнат дагэтуль існуе па тым самым адрасе). Марошак, мінчук па нараджэнні, быў узяты ў кватэры бацькоў па адрасе: вуліца Карла Лібкнехта, дом 30, кватэра 4 (дом больш не існуе).

Як пазней лічылі бацькі Даніэля Марошака, непасрэднай падставай для арышту быў перахоплены паштовай цэнзурай ліст, які Марошак накіраваў свайму школьнаму сябру Зільбергу. Але цалкам магчыма, што назіранне за Казловым і Марошакам пачалося раней, і акурат таму ліст быў перахоплены. Следствам і судом гэты ліст быў расцэнены як «антысавецкі». У лісце Марошак пісаў наконт нядаўніх антысеміцкіх кампаній у СССР («барацьба з бязродным касмапалітызмам», «змова ўрачоў»): «Начинания правительства (позорные начинания) встретили поддержку снизу в лице темноты, забитости и зависти худшей части народа к экспансивным и способным евреям... Верхи стали распространять шовинизм и антисемитизм потому, что это явилось необходимым следствием всей политики и идеологии нашей партии, вернее руководства партии...»

Тэма дзяржаўнага антысемітызму ў СССР з'явілася ў ліставанні Марошака і Зільберга нездарма. Як паказаў пазней у судзе Марошак, Зільберг пацярпеў ад дыскрымінацыі па нацыянальнай прыкмеце (на жаль, у дакументах пракуратуры прапушчана інфармацыя, у чым менавіта заключалася дыскрымінацыя — немагчымасць паступіць у інстытут, звальненне з працы ці нешта іншае).

**Тэма дзяржаўнага антысемітызму ў СССР з'явілася ў ліставанні Марошака і Зільберга нездарма. Зільберг пацярпеў ад дыскрымінацыі па нацыянальнай прыкмеце. З гэтым сутыкаўся і Марошак, што і штурхнула яго да пераасэнсавання дзяржаўнага ладу СССР у цэлым**

Даніэль Марошак сутыкаўся і з іншымі праявамі антысемітызму, і гэта падштурхнула яго да крытычнага асэнсавання дзяржаўнага ладу СССР у цэлым. У сваіх прыватных запісах ён называў лад у СССР "дзяржаўным капіталізмам" і пісаў наступнае: «Он (Сталин) действительно «выполнил» свои обещания и построил «социализм» в одной стране. Но в том то и беда, что он один и строил социализм. (...) Мы с таким сознанием еще претендуем на социализм! Нет! Сначала надо достичь высот буржуазной культуры, а тогда марксистскую теорию народ очень быстро и по настоящему воспримет. (...) Дело все было в том, что в условиях всеобщей национализации средств производства и невысокого сознания масс... был неизбежен государственный капитализм, диктатура одного человека...»

Уладзімір Казлоў нарадзіўся і вырас у сям'і вернікаў (пракурорскай мовай кажучы, «его антисоветские взгляды складывались под влиянием отца, являвшегося руководителем секты баптистов, и других родственников — членов этой секты»). Тым не менш, ён уступіў у камсамол і, відаць, быў атэістам. Але хатняе выхаванне садзейнічала фармаванню крытычных поглядаў на навакольную рэчаіснасць.

У судзе Казлоў паказаў: «В 1952 году я познакомился с Морошеком, и мы сошлись во взглядах..., решили записывать свои мысли... После этого (...) я начал писать «манифест русских марксистов-ленинцев». В манифесте я излагал свои взгляды на действительность. Мы с Морошеком считали, что после смерти Ленина партия вела неправильную политику...»

Пры вобшуку ў Казлова былі знойдзеныя яго дзённікі, а таксама няскончаныя запісы (вышэйзгаданы «Маніфест русских марксистов-ленинцев»). У дзённіках і запісах Казлоў характарызаваў лад у СССР як "дзяржаўны капіталізм", Камуністычную партыю ў сваім маніфесце ён называў «холопско-диктаторской партией России».



Фота www.politobzor.net

Працяг на стар. 6 »

« Пачатак на стар. 5

У лісце, які Казлоў даслаў у ліпені 1953 года сваёй знаёмай Загускінай, ён пісаў у сувязі з роляй савецкай літаратуры: «Государственный капитализм (т. е. наше советское общество) особенно много порождает паразитизма, который под лучами социалистического романтизма с каждым годом становится все нахальнее и распространяется в массовом масштабе... нужно признать, что очень много у нас полулюдей, причем эта мещанская масса преобладает у нас и давит, душит, затягивает все живое. Я так подхожу к оценке нашего общества...»

Казлоў рэзка адмоўна выказваўся пра Сталіна: «То, что он не понял учения Ленина, говорят коллективные хозяйства... поэтому Россия сейчас представляет гнойный пузырь, разрыв которого обольет гноем все коммунистическое движение во всех странах...»

Казлоў і Марошак былі прызнаныя судом вінаватымі ў тым, што «они в разное время, начиная с 1951 года, среди окружающих их лиц проводили антисоветскую агитацию, они возводили клевету на мероприятия Партии и Советского Правительства по колхозному строительству и др.; клеветали на национальную политику в СССР и советскую действительность, восхваляли порядки в капиталистических странах».

Апроч таго, іх прызналі вінаватымі ў спробе стварыць «контррэвалюцыйную арганізацыю». У пачатку 1954 года студэнт медінстытута Бойка збіраўся арганізаваць літаратурны гурток. Казлоў і Марошак меркавалі далучыцца да гуртка, каб падчас яго пасяджэнняў выказваць свае думкі. У выніку гурток так і не быў створаны, бо больш ахвочых абмяркоўваць літаратуру не выявілася. Нічога не паказвала на тое, што гурток мог бы перарасці ў арганізацыю ці выйсці за межы гутарак на тэмы літаратуры. Тым не менш, следства і суд расцанілі гэты эпізод як «стварэнне арганізацыі».

Вярхоўны суд БССР 4 студзеня 1955 года асудзіў Казлова і Марошака па артыкулах 72 (пункт «а») і 76 Крымінальнага кодэксу БССР на 5 гадоў пазбаўлення свабоды з паражэннем у выбарчых правах на 3 гады кожнага. Паводле артыкула 72 каралі за «прапаганду ці агітацыю, якія ўтрымліваюць заклік да звяржэння, падрыву ці аслаблення савецкай улады, ці да здзяйснення асобных контррэвалюцыйных злачынстваў (арт. 64–71 КК), а таксама распаўсюджанне ці захаванне літаратуры таго самага зместу», паводле артыкула 76 — за «ўсялякага роду арганізацыйную дзейнасць, накіраваную на падрыхтоўку ці здзяйсненне прадугледжаных у арт. 63–75 КК злачынстваў, а таксама ўдзел у арганізацыі, утворанай для падрыхтоўкі ці здзяйснення аднаго з гэтых злачынстваў». У Крымінальным кодэксе РСФСР артыкул 72 меў адпаведнікам артыкул 58-10, а артыкул 76 — артыкул 58-11.

Як бачым, у дадзеным выпадку «контррэвалюцыйная» арганізацыя была «створана» следчымі на паперы, а не студэнтамі-медыкамі.



Фота www.rusedebiyatiarsivi.org

**Студэнты медінстытута «абагналі» свой час, выступілі з крытыкай Сталіна раней за ХХ з'езд, за што і паплаціліся. Але гэтая справа паказвае, што Хрушчоў не проста так наважыўся на крытыку сталінізму: на такую крытыку быў моцны «запыт знізу». Бачная тут і незавершанасць рэабілітацыі палітычных зняволеных у часы «адлігі»: Казлоў і Марошак былі вызваленыя, але не рэабілітаваныя цалкам**

Тым не меней, у той час у СССР канспіратыўныя гурткі па 3–5 чалавек існавалі і насамрэч. Магчыма, і Казлоў з Марошакам стварылі б урэшце такі гурток, каб дзяржбяспека іх не спыніла.

Смерць Сталіна прывяла да значнага ажыўлення грамадскага жыцця. Але ўжо да яго смерці студэнцкая і вучнёўская моладзь у розных кутках СССР стварала падпольныя групы, у якіх абмяркоўвала палітычныя пытанні. Вынікам некалькіх дзесяцігоддзяў дзеяння палітычнай цэнзуры было тое, што марксізм-ленінізм стаў адзінай вядомай гэтай моладзі ідэалогіяй. Але нават уважлівага чытання твораў «класікаў» хапала, каб прыкмеціць несупадзенне іх поглядаў і дэкларацый з тым, што рабілася навокал. І ў нашым выпадку Уладзімір Казлоў аддаў даніну марксізму-ленінізму, як вынікае з назвы яго няскончанага маніфеста.

Асуджаныя паехалі адбываць свае тэрміны ў лагеры ў «аддаленых мясцінах СССР». Марошак трапіў у «паштовую скрыню» Ж-175/29 пад Варкутой (пра месца, дзе адбываў пакаранне Казлоў, на жаль, звестак няма).

Даніэль Марошак і асабліва яго маці Фаня Беніямінаўна катэгарычна не змірыліся з прысудам. Яны актыўна яго абскарджвалі (частка скаргаў, напісаных у парадку нагляду, асела ў дакументах Пракуратуры СССР). І калі да ХХ з'езда КПСС на скаргі гэтыя не звярталі асаблівай увагі (абмяжоўваліся адпіскамі), то пасля ХХ з'езда сітуацыя памянялася, і крытыка Сталіна ўжо не выглядала настолькі дзёрзкім «контррэвалюцыйным злачынствам», як да яго.

Урэшце 4 жніўня 1956 года намеснік старшыні Вярхоўнага суда СССР Тарасаў апратэставаў прысуд Казлову і Марошаку ў судовую калегію па крымінальных справах Вярхоўнага суда СССР. 15 верасня 1956 года судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда СССР у складзе старшыні Круглікава і чальцоў Аўчыннікава і Пірліева разгледзела гэты пратэст і вынесла ў адпаведнасці з ім вызначэнне. Прысуд Вярхоўнага суда Беларускай ССР ад 4 студзеня 1955 года ў частцы асуджэння Казлова і Марошака паводле артыкулу 76 КК БССР быў адменены, а справа за недаказанасцю абвінавачання спыненая. У частцы асуджэння па артыкуле 72 (пункт «а») гэты прысуд быў зменены, і прызначанае пакаранне зніжана да двух гадоў пазбаўлення свабоды кожнаму, без паражэння ў выбарчых правах.

Але яшчэ раней, 22 жніўня 1956 года, Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР прыняў рашэнне вызваліць Уладзіміра Казлова і Даніэля Марошака са зняццем судзімасці.

5 верасня Марошак быў вызвалены і накіраваўся ў Мінск (звестак пра дзень вызвалення Казлова няма).

На жаль, у справе пракуратуры СССР няма ніякіх звестак пра далейшы лёс Уладзіміра Казлова. А вось пра Даніэля Марошака вядома, што ён скончыў навучанне, атрымаў кваліфікацыю ўрача і быў пасланы працаваць па размеркаванні ў горад Краснатур'інск Свярдлоўскай вобласці, куды прыбыў у чэрвені 1959 года. Гэты райцэнтр у 425 кіламетрах на поўнач ад Свярдлоўска (сёння — Екацярынбург) для ўраджэнца Мінска мусіў выглядаць не інакш, як месца ссылкі.

У верасні Марошака перавялі ў горад Валчанск, яшчэ на 25 кіламетраў далей на поўнач і яшчэ меншы памерамі. У Валчанску малады ўрач працаваў у тэрапеўтычным аддзяленні бальніцы №5 у якасці ардынатара і вёў участковую работу.

Бацькі Даніэля Марошака праспрабавалі дамагчыся яшчэ аднаго перагляду яго справы і яе спынення, і дзеля гэтага напісалі скаргу ў парадку нагляду на імя генеральнага пракурора СССР Рамана Рудэнкі. Аддзел Пракуратуры СССР па нагляду за следствам у органах дзяржбяспекі запатрабаваў з улікова-архіўнага аддзела КДБ БССР справу Казлова і Марошака ў двух тамах з пакетам рэчавых доказаў (напісаных асуджанымі лістоў і нататок). У чэрвені 1960 года пракурор аддзела па нагляду за следствам у органах дзяржбяспекі Афанасьеў падрыхтаваў заключэнне, зацверджанае намеснікам начальніка аддзела Самалукавым. Паводле заключэння, Казлоў і Марошак былі асуджаныя абгрунтавана, скарга была пакінутая без задавальнення.

Уладзімір Казлоў і Даніэль Марошак былі рэабілітаваныя толькі 19 жніўня 1997 года Прэзідыумам Вярхоўнага суда Беларусі.

На гэтым прыкладзе перад намі паўстае зляпак грамадскага жыцця Беларусі часоў «адлігі». Студэнты медінстытута «абагналі» свой час, выступілі з крытыкай Сталіна (выказанай у вузкім коле сяброў і ў дзённіках) раней за ХХ з'езд, за што і паплаціліся. Але гэтая справа паказвае, што Хрушчоў не проста так наважыўся на крытыку сталінізму: на такую крытыку быў моцны «запыт знізу». Бачная тут і непаслядоўнасць, незавершанасць рэабілітацыі палітычных зняволеных у часы «адлігі»: Казлоў і Марошак былі вызваленыя, але не рэабілітаваныя цалкам.

Калі адкрыюцца архівы КДБ, мы зможам азнаёміцца з поўнымі тэкстамі Казлова і Марошака на палітычныя тэмы і скласці лепшае ўяўленне пра іх палітычныя пазіцыі, пра тое, якія тэксты, якія ідэі на іх паўплывалі.

Таксама пакуль невядомы далейшы лёс герояў гэтай справы (і тут адкрыццё архіваў КДБ мала чым дапаможа). Таму рэдакцыя «Новага Часу» просіць выйсці на сувязь сваякоў Уладзіміра Казлова і Даніэля Марошака, калі яны прачытаюць гэты артыкул.



**22 жніўня 1956 года Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР прыняў рашэнне вызваліць Уладзіміра Казлова і Даніэля Марошака са зняццем судзімасці**

Літаратурная Беларусь

Выпуск №8 (144)
(жнівень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by

Змест



# Каму верыць: генетыкам ці сваім вачам?



Алесь МІКУС



## Дравіды, арыйцы і беларусы

У Індыі рыхтуюць тэлевізійны серыял, у якім распавядуць пра даўні канфлікт дравідаў і арыйцаў. Чаканы выпуск серыялу сустрэў і немалое процідзеянне з боку індыйскіх нацыяналістаў. Чаму?

Як вядома, дравіды — аўтахтонныя насельнікі цяперашняй Індыі, яны візуальна цямнейшыя, самыя тыповыя — на поўдні Індыі. А арыйцы (гэта навуковае паняцце, Aryans) — тыя, хто прыйшоў пазней, дзесьці чатыры тысячы гадоў таму, яны святлейшыя і іх больш на поўначы Індыі, а таксама ў Пакістане (колішняя частка Індыі).

Індыйскім нацыяналістам недаспадобы сама «тэорыя арыйскага ўварвання» (Aryan Invasion theory). Маўляў, яна падзяляе продкаў «індыйскай нацыі» на арыйцаў і дравідаў, а індыйская нацыя мае быць, вядома, адзінай. З той жа прычыны сучасным (а яны менавіта сучасныя, мадэрновыя) індыйскім нацыяналістам не падабаюцца таксама касты.

Цікава, што супраць паказу згаданага серыяла высоўваюць аргументы з галіны генетыкі. Некалькі гадоў таму індыйскія генетыкі сапраўды абвесцілі: паводле генетычных даследаванняў, ніякага «арыйскага ўварвання» не было, а індыйцы — цэльныя як ніхто. Больш за тое, ніякай масавай інвазіі ў Індыю з поўначы не было на працягу апошніх 60 тысячаў гадоў. Маўляў, не верце сваім вачам, а адрозненні на поўдні Індыі і на поўначы, ля падножжа Гімалаяў, — уяўныя і малазначныя.

## Прычым тут беларусы?

У апошнія гады набіраюць сілу генетычныя даследаванні. Усё часцей асобныя людзі дасылаюць у генетычныя лабараторыі ўзоры свайго біялагічнага матэрыялу, каб там за грошы выканалі генетычнае даследаванне і далі падрабязную карту (напрыклад, у ёй адлюстроўваецца схільнасць да хваробаў, і, адпаведна, можна даць рэкамендацыі, як пазбегнуць праяўлення ці развіцця).

Але генетыка выкарыстоўваецца і з ідэалагічнымі мэтамі. Руска-беларускія генетыкі часта грашаць (іншага слова не падбярэш) проста ідэалагічнымі высновамі са сваіх даследаванняў: маўляў, выходзіць, што беларусы з рускімі і ўкраінцамі — ледзь не браты-трайняты.

Што тут такога? А тое, што антраполагі (каторыя абмяраюць твары) яшчэ з савецкіх часоў асцярожна, але адкрыта пісалі іншае: што беларусы, бадай, адно з усходнімі літоўцамі і латышамі. Нядзіўна, што гэта добра падмацоўваецца наяўнасцю балцкіх назваў па ўсёй Беларусі.

Тады як быць з генетыкай? А так, што, відаць, часам генетыкі дужа заўзята пераносяць звесткі са сваіх даследаванняў у тыя вобласці, у якія генетыка не мусіла б лезці. Найбольш узважанае меркаванне на сёння такое: гены не роўныя этнічнасці.

Інакш атрымліваецца: не вер сваім вачам. Але так не выходзіць. Вось што расказаў мой знаёмы пасля леташняга адпачынку на прыморскім курорце Украіны. Тады рускіх там не было, збольшага ўкраінцы з усёй Украіны. Праз тыдзень адпачынку пайшоў на канцэрт «Brutto». Музыкі выйшлі на сцэну — і ён уразіўся: тыя выглядалі як на адзін твар, як ад адной маці. А ўсё таму, што мы тут прывыклі да драбнейшых адрозненняў, а на кантрасце ўсе нашыя твары зліваюцца ў адзін.

Вось на такія думкі навяла навіна пра той індыйскі серыял.

## Раматаўскі дуб: балты ля Маларыты

Найстарэйшы дуб у нашай краіне — пад Маларытай, у мясцовасці, якая была важная для старажытных балтаў.

Найстарэйшым дубам у Беларусі лічыцца, як вядома, так званы «Цар-дуб» у Маларыцкім раёне. Не самая мілагучная назва — бо «цары» тут былі адно чужыя; не самы ўзорны край — бо гэты кут вылучаецца сваёй «паўднёвасцю» і ў гаворцы, і ў народных строях. Мо і хацелася б, каб «галоўны» дуб краіны быў дзе пад Расонамі ці пад Астраўцом…

Але не спяшаймася зневажаць мясціну, бо яна тоіць свае таямніцы.

Гэты дуб-волат яшчэ называюць «Пажэжынскім дубам», паводле колішняга, яшчэ за польскім часам, чыгуначнага прыпынку «Пажэжын». Той Пажэжын, па праўдзе, далекавата, нашмат бліжэй — вёска Раматова.

Паводле назвы бліжэйшай вёскі (ад яе толькі 5 кіламетраў на ўсход) наш найстарэйшы дуб трэба было называць «Раматаўскім». І гэта незвычайная назва.

## Назва «Раматова» — балцкая назва

У сярэднявечных прусаў былі вядомыя імёны Ramotis, Ramot, Ramota. На тэрыторыі былой Прусіі, зусім на мяжы з Літвой ёсць Рамінцкая пушча, па назве ракі Рамінты (Raminta). Каля нашага Мсціслава цячэ рэчка Рэместава, назва якой стасуецца з старапрускай назвай Ramestow. Усе гэтыя імёны — ад балцкага корня ram— «спакойны» (па-літоўску ramus, па-пруску rams). Ад гэтага корня — і назва галоўнага прускага свяцілішча, вядомага з сярэднявечных хронік, — Рамава.

Ці пайшла назва «Раматова» ад нейкага «Рамата» (ці нават «Раманта»), чалавекам з балцкім імем? Гэтага выключаць нельга. Вядомыя ж смаленская вёска Скуматава і гарадзенская вёска Коматава — ад імя, якое меў славуты яцвяжскі князь Скомант (Скумат, Комат). Але вядомыя і прускія назвы Romitei, Rominta, а гэта значыць, што назва «Раматова» магла пайсці не ад імя чалавека (якогась перасяленца), а паводле нейкіх уласцівасцяў мясціны (як «Рэместава» — «спакойная» рака, ці мо нават «супакойвальная»).

## Медна — «лясная», Пажэжын — «зязюлін»

Гэтыя развагі падмацоўвае наяўнасць іншых балцкіх назваў вакол Раматова:

- вёска Медна (прускае meddin «лес», літоўскае medis «дрэва»);
- рака Оса (літоўскае uosis «ясень»); ёсць і іншыя рэкі з такой назвай на колішнім балцкамоўным абшары: пад Наваградкам, на Смаленшчыне, на прускіх землях у нізоўях Віслы;
- балота Малеціна (літоўскае molis «гліна» — і побач вёска з назвай-«перакладам» Гліннае; цяпер балота асушанае, а вёскі ўжо няма на картах); падобныя назвы — Маляцічы пад Шчучынам, Molėtai на ўсходзе Літвы.

А назву вёскі Пажэжын, можа, і можна было б выводзіць ад украінскага «пожежа» (пажар), і, магчыма, так мясцовыя палешукі і робяць. Але няма і не было палешукоў паўночней, паміж Уздой і Койданавам, дзе вёска Пажэжына — каля балцкай рэчкі Уса. Хутчэй, тут сувязь з назвай вёскі Pagėgiai (на захадзе Літвы), якая ад назвы ракі Gėga, што значыць «зязюля». Пад нашымі Ашмянамі цячэ рачулка Гегна — «зязюльчына». А тут, пад Маларытай, побач прыемная неспадзяванка: урочышча з назвай Зазулькі (па-ўкраінску «зозуля» — зязюля, gėga), іншая назва-«пераклад».

## Раматаўскія горы

Але самае цікавае ў мясцовасці каля Раматава — гэта горы з загадкавымі назвамі.

Адна такая гара мае назву Акільна. Тут недалёка пачынаецца Прыпяць, а далей на ўсход, ужо там, дзе Прыпяць уцякае ў Дняпро, — там у Сож уцякае рэчка Аткільня, і каля самога Сажа — возера Акельна. Назва балцкая, значыць «крыніца». Каля літоўскага Алітуса цячэ рэчка з падобнай назвай — Akilna.

Ёсць каля Раматава і Шкляная гара. У народнай казцы пра Івана Знайдзёна ў «шкляных гарах» — тагасветнае Кашчэева валадарства. А ў «Хроніцы Быхаўца» гаворыцца, што, паводле язычніцкіх вераванняў, душа спаленага нябожчыка можа залезці на гару толькі пры дапамозе рысіх ці мядзведжых кіпцюроў…

## Балты — ушаноўвальнікі рэк

Дык ці ёсць у названай мясціне нешта адмысловае, апроч найстарэйшага дуба?

Бадай, адзінае, што можа выглядаць пэўна, — гэта тое, што гэтая мясціна так ці інакш звязаная з пачаткам Прыпяці.

А другое — сімвалічна, што якраз тут захавалася самае старое дрэва ў краіне, якое нібыта «падказвае» звярнуць увагу на гэтую Рамаву ля Маларыты.

# Я не паэт, мне проста сняцца сны (Памяці Анатоля Сыса)

**У рэстаране былога Дома літаратара насоўка, падпісаная і падораная на памяць «паэтам нумар адзін», ды яшчэ зблытаная незнарок дата! Адкруціла жыццё назад... Наваражыла гады жудаснай скрухі, зняверання і тугі... Калі раптам каго пакінуць анёлы — чакай, яны там, дзе патрэбны больш, чым табе...**



Фота Уладзіміра Сапагова

## ПРА ПАЭТА (Страшны сон)

*Хто галаруч? Ка мне, да вогнішча!*
*Тут быў пажар... Во папялішча.*
*Дачакаемся дня...*
*Штосьці ў ім ёсць — гучыць імя.*
*Вунь, за тым сядзіць столікам.*
*Я гарэлкі не п'ю... Толькі з Толікам.*
*«Вочы чорныя, вочы страшныя...»*
*Ды не ўспомніць ён учарашняе.*
*Смелы будзьце з ім — не пакрыўдзіцца.*
*Не паставіш ты — нияк прыйдзецца,*
*Нияк знойдзецца, нияк купіцца...*
*Ля яго зашмат люду круціцца.*
*Не збяднее рука даруючы*
*Дзень як дзень... Вые воўк уначы...*
*Ах вы, сабутэльнікі-забулдыжнікі!*
*Ці вам куражыцца, зайздроснікі-злоснікі?!*
*Што не напісана, то ўжо не скажацца.*
*Не шукайце праўды за аблокамі.*
*Яна тут, пад бокам.*
*Не ўглядайцеся ў нябёсы,*
*калі сляпыя перад носам...*
*Рукі дадзены шкадаваць ці біць?*
*А душа? Згадай?*
*— Не будзі. Хай спіць...*
*— Дайце добрага кухталя пад бок!*
*— Ды яго ўжо выракся Бог...*
.............................
*Ад яго адхрысціўся Бог?!*
*СытыЯ, мажныЯ, моцныЯ, важныЯ*
*ЦіхіЯ, сонныЯ, самаўлюбёныЯ,*
*ВёрткіЯ, згодныЯ, льсцівыЯ, гнуткіЯ,*
*Носам па ветру чуткіЯ-чуткіЯ...*
*ДзесяцітомныЯ, псеўданародныЯ,*
*ЗлыЯ, зайздросныЯ, бронзазнамённыЯ!!!*
*ЗначныЯ, удзячныЯ, нізкапаклонныЯ...*
*Богам на слова не блаславёныя.*
.........................................
*Пераблытаць хаўтуры з народзінамі...*
*Не ля кожнага храма юродзівы...*
*Што было — ёсць і будзе наноў, наноў.*
*А не варты, Гасподзь, мы тваіх сыноў...*
*Ці ж яму чашу тую выпіць да дна*
*За сябе, за мяне, за цябе, за нас...*

**1998 год**

...Я не паэт па сваёй сутнасці. Гэтыя радкі з'явіліся раптам ад падхопленага віруса, і чым больш я потым дазнавалася новага з біяграфіі Анатоля Сыса (верш прысвечаны яму), тым больш здзіўлялася прыродзе паэзіі... Адкуль гэта: пажар, воўк?! У той час, калі прыйшлі радкі, я пра Анатоля Сыса яшчэ не знала амаль нічога, акрамя асабістага ўражання пасля кароткіх сустрэч.

Кадр збіў мяне спанталыку, зламысны прыём рэжысуры — «падмена козыраў», вядомага дакументальнага фільма пра адраджэнцаў (здаецца 1995 г.) «Дзеці хлусні» Ю. Азаронка. Фільм, пасля якога я перастала паважаць свайго найлюбімейшага артыста У. Гасцюхіна, які згадзіўся дэкламаваць ілжывыя кадры. Ад бяссілля і нематы аж пяршыла ў горле, ды яшчэ:

— Што гэта за валацуга з бутэлькай поўзае па сцэне?! — абурылася я па-бабску, не даючы думкам апярэдзіць эмоцыі.

— Не спяшайся з высновамі... Гэта Толя Сыс, паэт. Лепш пачытай яго вершы. Я некалі вас пазнаёмлю... — суцішыў мяне сябар А., паэт з Віцебшчыны, які прывёў мяне некалі да разумення неабходнасці ведаць родную мову. Хутка яго абяцанка здзейснілася.

Адзін літаратар адзначаў юбілей. Аказаліся запрошанымі і мы з А. Гэта быў студзень 1998 года. У фае Дома літаратара да нас падышоў чалавек, з А. павітаўся як даўні знаёмы.

— Першы паэт Беларусі! — адрэкамендаваўся ён мне не жартоўным тонам.

— Вось гэта і ёсць Толя Сыс, як я табе абяцаў.

Гэты дзень я чакала, бо знайшла ўсё ж некалькі яго вершаў на старонках даступных мне ў глыбінцы літаратурных выданняў. Сумесь уражання ад кадра з уражаннем ад паэзіі нарадзіла балючы непакой, які авалодаў мною цалкам пасля жывой сустрэчы. У фае перада мной стаяў інтэлігентны чалавек. Ён быў нияк хваравіта чыстаплотным. «Гладка адпрасаваная кашуля, як нішто іншае, сваім здрадніцкім фонам выкрывала ў надломлена-ўчарнелым вобразе ракавую трагічнасць, якая ўжо бязлітасна намеціла ў рысах прыгожага твару дэгенератыўную тэндэнцыю». А яшчэ ён не быў гжэчным з жанчынамі, гэта адчула без відавочных фактаў, ён па-асобаму трымаўся, не так, як іншыя мужчыны. Быццам у яго жыцці адсутнічала наогул такая з'ява, як яе вялікасць жанчына. Зусім не маю на ўвазе інтымныя адносіны. Штосьці іншае, што, безумоўна, паспрыяла яшчэ горшай абвостранасці яго трагічнага жыцця. Ці не цураўся ён наўмысна дзяліць людзей па палавой прыналежнасці. (Як уласціва мне самой.) А толькі на асобы! Тут не ўсё так проста... Як ён адчуў душу Алаізы!

Пакуль рыхтаваліся да вечарыны, на маіх вачах ад інтэлігентнага чалавека не засталося напаміну. Надта спрыяў факт, што многія з прыезджых гасцей, якім хутка трэ было прад'явіць сваю творчасць на жывыя вушы са сцэны, імкнуліся заманіць паэта ў таемны пакойчык, адкуль выходзіў той з кожным разам усё менш і менш падобным на сябе ранейшага. Яго звычка, седзячы ў першым радзе, на ўсю залу не хаваць уражання ад верша, палохала вершаскладальнікаў і графаманаў, нікому не хацелася пачуць, што кароль усё ж такі голы... Занепакоіўся крыху і мой сябар, паэт з Віцебшчыны. (Дарэмна. На тую пару А. удавалася прычакаць музу, дык жа... наша правінцыйная няўпэўненасць.)

— Трэба было б пачаставаць Толю... Выручыш мяне? — запытаўся А.

Я не стала пярэчыць, нават наконт «выручыш» — не мог ён сам пачаркавацца за сустрэчу... Яшчэ і па той прычыне, што мусіў выходзіць на сцэну. І я, да тых гадоў заўзяты і прынцыповы «непіток», згадзілася на гарэлку. Безумоўна, не з альтруістычных памкненняў, вельмі хацелася паглядзець зблізу на паэта.

За тыя паўгадзіны, што сядзелі ў рэстаране, Анатоль некалькі разоў змяніў свой настрой на палярную процілегласць. Ад блюзнерскага да змрочна-зацятага, ад шчыра-сяброўскага да высакамернага, нахабна-задзірлівы саступаў глыбока скрушліваму, вінавата-даверлівы сум пераходзіў у выразную жорсткасць. Цяжка яму было ўтрымацца і фізічна ў адным стане, як кажуць, не мог знайсці сабе месца: падскокваў у запале гутаркі, кагосьці падзываў, падбягаў да афіцыянтак, гучна вітаўся з новымі захаджанцамі, падыходзіў да столікаў. (І гэта пры відавочным энергетычным спадзе: здавалася, яму не хапае жыццёвай сілы.) Мы размаўлялі пра сучасную паэзію, і адносна навамодных стыляў Анатоль паўтарыў: як выказваюцца мастакі — спачатку навучыся пісаць класічны партрэт, а потым «выя...вайся» хто як жадае... Не хацелася згаджацца з такой думкай, але не пярэчыла, маўчала. Выходзіць, калі перафразаваць: перш напішы як Гайдн, а пасля рабіся Шнітке, альбо: навучыся пісаць пад Пушкіна, а потым стань Бродскім? Не, не атрымаецца. Ужо класік Моцарт спрэс парушаў ранейшыя забароны і законы музыкі. Магчыма, Анатоль Сыс меў на ўвазе, што мастак (у вялікім сэнсе) павінен абапірацца на прыдбанае вякамі?.. І тут бываюць выключэнні.

Паказаў нам рукі... абмарожаныя, распухлыя, чырвоныя.

— Калядаваў па сваім Гарошкаве. П'яны заваліўся ў сумёт і заснуў... А кніжку сваю першую я пахерыў!

Я ўпершыню мусіла іначай глянуць на сябе, старонні́м вокам, — Анатоль між іншым кінуў:

— Вось А. — добры чалавек, а ты — не... (сказанае тычылася дабаўкі... Але!)

Да гэтага часу лічыла сябе зусім неблагім чалавекам, тут задумалася і знайшла яго словы справядлівымі, асабіста ў параўнанні з А., той і сапраўды меў прыродную дабрыню ў адрозненне ад маёй, культываванай у сабе.

На развітанне Анатоль падаў А. самапіску:

— Пішы добрыя вершы.

А мне дастаў з нагруднай кішэні новую чыстую насоўку. (Зноў гэта чысціня. Пакладзі насоўку ў кішэню — і адразу загнуцца беражкі, пакамечыцца палатно, начэпіцца нейкіх варсінак, крупачак, а тут...) Напэўна, ён, як і я ў той момант, зусім забыўся: насоўкі не дораць! Гэтай наймацнейшай варажбіцкай прыладай перадаюць слёзы. Падпісаў на блакітным полі: Людцы, каб любіла Сыса. І подпіс, просты і кароткі. Потым дата. Трэба ж было такому нарабіцца! Ён (як мне гэта знаёма! Спытай, які цяпер год, месяц, дзень — задумаюся) зблытаў год! Яшчэ незнарок дадаў варажбы, ды якой!!! Любы вядзьмак пацвердзіць: адкруціць назад час — не жартачкі! Я трымала ў руках насоўку і радавалася... Пры выхадзе з рэстарана Анатоль, засаромеўшыся дапушчанай адкрытасці, вырашыў выправіць нечаканую слабасць, здзекліва вымавіў:

— А-а! Я тут наплёў абы-чаго, разыграў вас, а вы і паверылі...

— Ну гэта яшчэ хто каго разыграў... — кінула я, выручаючы сябра.

...Ёсць талент светлы, які даецца ў асалоду — радкі лёгка прыходзяць, льюцца крынічкай, звіняць званочкамі чытачу. Але жыццё двуадзінае... І хтосьці мусіць адчыняць браму, упускаць промень, бачыць праз цемру. Гэты дар такі балючы, што ніхто не мае права асудзіць яго носьбіта за «не так» пражытае жыццё... Бо ніхто не здольны і на кроплю адчуць боль аголеных нерваў, адпаведны такому дару.

Некалі вельмі прыгожыя, калі меркаваць па здымках, глыбокія сумныя вочы Анатоля Сыса займелі на той час ужо багата атрутнага жудаснага адцення. Яны не глядзелі... зазывалі ўгледзецца ў сусвет, дзе было яму так холадна, страшна, адзінока...

Калі хварэе народ, Радзіма, хтосьці павінен ахвяраваць шчаслівым жыццём, каб гэтую хваробу выявіць сабой. Блокам, Лермантавым хварэла Расія. Сысом — Беларусь. Мне тады ўбачыўся Анатоль Сыс, такі трагічны, прыніжаны, зганьбаваны горкім сімвалам беларускай паэзіі, літаратуры, ды і ўсёй беларускай культуры — не адглянцаванай, выхалашчанай, створанай «па заказу на паказ», а той, якой вякі векаваць. Ён пры Доме літаратара быў, што жабрак пры царкве, якога і міласцінай багата адораць, з якога і жахнуцца, і пасмяюцца, і ў карак выштурхнуць, а потым святым прызнаюць... Адраджэнцы сваёй рэзкасцю, непрымірэнчымі паводзінамі, можа, і адштурхнулі ад сябе людзей. Але як бы паводзіліся бацькі, на вачах якіх гвалтуюць іх дзіця, ці дзеці перад калесаванымі бацькамі? Што будзе нормай: жорстка рынуцца на абарону ці памяркоўна супрацоўнічаць з гвалтаўнікамі? Баліць! Таму і кіпучыя эмоцыі. Адчуваць і думаць, бачыць і чуць заўсёды балюча.

Была яшчэ сустрэча. У 2002 годзе мяне прымалі ў Саюз пісьменнікаў. Зноў між афіцыйнымі асобамі сценюгаўся паэт. Мы доўга чакалі — не збіраўся кворум. Ужо тады адчуваўся нейкі разлад у «вярхах». Нарэшце дачакаліся. Мяне на «А» запрасілі першай. У зале па інерцыі працягвалася мітусня, перабіралі паперы, перасоўвалі крэслы... Тут жа, у цэнтры, Анатоль, як любімец (гэта чыста маё ўражанне!) Вольгі Іпатавай, бы малое шкадлівае дзіця, якому заўсёды не хапае ўвагі і цеплыні, круціўся ля яе, як ля мамкі. Я чакала пры ўваходзе, пакуль сцішыцца рух, і было прыемна адчуваць, што маю прычыну знаходзіцца тут, дзе пануе паэт... Анатоль Сыс быў цвярозы, але вырабляўся і наўмысна прыцягваў увагу. Хтосьці з кворума груба абсёк: «Ды, урэшце, абсядзься! Што пра нас людзі падумаюць!» Я апамяталася. Голас дакладна дзяліў на іх і нас. Былі і ёсць яны, хто вырашае: друкаваць — не друкаваць, прывячаць — не прывячаць, заўважаць — не заўважаць... І мы, хто гадамі мусіць чытаць у правінцыях прымусова спушчаны друкам кожны «чох і бздзік» іх творчасці, чакаючы, ці не ахвяруецца краёчак паперы літаратурнага выдання для нашых радкоў. Сыс, выходзячы з залы, буркнуў: «Не дурнейшыя за вас людзі, самі ўсё разумеюць... Каму гэты фарс патрэбен?!» Ён адразу вярнуўся, але больш не выдзействаваў. Пасля афіцыйнай часткі Анатоль раздаваў свежаспечаным пісьменнікам сваю новую кніжку. Я тады знаходзілася ў глыбокай дэпрэсіі — стаяла асобна воддаль, павярнуўшыся да акна, ён паглядзеў у мой бок і не падышоў... На той момант я і не зразумела, што нарабіла... Трэба было самой бегчы наўздагон! Толькі гады счакаўшы, чамусьці раптам усё ўспомніла. Як шкадавала! У 2010 годзе ўспаміны вярнуліся так балюча, так горача! Шмат перадумала, дакарала сябе, што не ўберагла насоўку, упусціла зборнік вершаў... І вось хутка падарунак ад Сыса сам знайшоў мяне. Выпадкова трапіла ў маладзёжную кампанію, а там дазналіся пра мой дзень нараджэння і... дзяўчына працягвае зборнік вершаў Анатоля Сыса. Я аж войкнула: чаму Сыс?! Там у яе поўная сумка кніжак была — з выставы прыбегла, і корпалася ж доўга, выбіраючы, штосьці перакладала, прыкідвала... Адкрываю дзе папала: «Гуляе з пацеркамі хлопчык...» — і слёзы зноў пабеглі па шчоках...

Ён прадказаў свой век: пяць няпоўных дзясяткаў. «Адну здзяўбе паджары певень...» — апошні дзясятак на палове абарвецца, — Анатоль памёр у год вогненнага пеўня...

**Людміла Андзілеўка**

# З Бесяддзю ў сэрцы

### Інтэрв'ю — 35 гадоў

Верасень 1982 года. Гэта быў час, вельмі спрыяльны для літаратуры, калі добрая кніга не залежвалася ні ў кнігарнях, ні ў бібліятэках, калі шмат чыталі, на выступленні пісьменнікаў хадзілі, як на слынных артыстаў, а дома збіралі шыкоўныя бібліятэкі.

Па лініі Бюро прапаганды літаратуры Саюза пісьменнікаў БССР у горад Жабінку Брэсцкай вобласці прыехалі празаік Леанід Левановіч і паэт Хведар Чэрня. Пісьменнікі выступалі перад рабочымі саўгаса «Жабінкаўскі» і райбыткамбіната, перад вучнямі гарадскіх школ.

Памяць захавала знаёмства з пісьменнікамі. Напрыклад, у камбінаце бытавога абслугоўвання, дзе на дзявяноста працэнтаў жаночы калектыў, Хведар Мікалаевіч выбраў жартоўныя вершы пра ўзаемаадносіны ў сям'і, героямі якіх былі муж і жонка, зяць і цешча. Слухачкі прымалі гэтыя творы жыва, з радаснай усмешкаю пацвярджаючы:

— Правільна напісаў!

Леанід Кірэевіч расказаў пра нядаўна выдадзеную кнігу «Якар надзеі», а таксама як збіраўся матэрыял для аповесці «Валанцёр свабоды», што працуе над кнігай пра сваё галоднае і басаногае маленства. Пісьменнікі пакінулі самае добрае ўражанне аб сабе.

Пасля пайшлі ў рэдакцыю «Сельскай праўды», каб раённая газета магла пазнаёміць чытачоў з гасцямі з Мінска. Хведар Чэрня пакінуў для літстаронкі некалькі вершаў, а як быць з празаікам? Я пачаў задаваць яму пытанні, на якія Левановіч ахвотна адказваў. Так узнікла, як пасля прызнаваўся сам Леанід Кірэевіч у адным лісце да мяне, першае ягонае інтэрв'ю ў друку.

Прайшоў час. У 2011-м адзначаўся стогадовы юбілей Васіля Віткі. Мне выпала многа разоў сустракацца са слынным пісьменнікам, першым рэдактарам часопіса «Вясёлка». Да слаўнай даты я напісаў эсэ «Мудрасць і шчодрасць душы», якое надрукаваў «ЛіМ».

Неспадзявана атрымаў бандэроль з раманам «Палыновы вецер» з вёскі Пятрылава Вілейскага раёна ад Левановіча. Ён станоўча ацаніў напісанае і выказаў жаданне сустрэцца. Такая сустрэча адбылася ў тым жа годзе, на з'ездзе пісьменнікаў Беларусі. Пасля гэтага перапісваемся, перазвоньваемся і нават падчас сустракаемся.

Да васьмідзясятых Левановічавых угодкаў, якія прыпадаюць на сёлетні верасень, захацелася напісаць крыху пра яго. Я паслаў ліст з пытаннямі, на якія атрымаў грунтоўны адказ. Другі ліст — зноў удача! Так што, па сутнасці, атрымалася інтэрв'ю даўжынёю ў трыццаць пяць гадоў.

### Ад Лявонава да Левановіча

Сапраўднае прозвішча Леаніда Кірэевіча было Лявонаў. Ён пачынаў пісаць і нават першую кнігу «Гаспадар зямлі» выдаў па-руску і пад «дзявочым», як жартуе пісьменнік, прозвішчам: Л. Леонов. Але сустрэча з настаўніцай Рагнедай, якая стала ягонай жонкай, і яе бацькамі — шчырымі беларусамі — змусіла задумацца, што ён, таксама беларус, абавязаны пісаць на роднай мове і пара выбраць сабе псеўданім, каб не паўтарацца з рускім цёзкам.


Леанід Левановіч
Фота www.vialejka.info

Яшчэ тады ў Жабінцы я пацікавіўся, як журналіст Лявонаў стаў пісьменнікам Левановічам, і Леанід Кірэевіч, адказваючы, распавёў пра доўгі і не зусім просты шлях да роднай мовы, назваўшы Івана Мележа хросным бацькам. Сапраўды, народны пісьменнік Беларусі шмат дапамог маладому калегу, нават псеўданім падказаў.

А было ўсё так. Прыехаў Леанід у Дом творчасці ў Каралішчавічы. Абедалі за адным сталом з Мележам. Іван Паўлавіч часам пасмейваўся з маладога:

— Ну й дагадзілі вам бацькі: поўнае супадзенне з класікам рускай літаратуры Леанідам Лявонавым. Яму ваш ганарар могуць пасылаць у Маскву, а вам ягоны — аніколі...

— Мне аднойчы пра гэта казаў Андрэй Макаёнак, — прызнаўся Леанід Кірэевіч. — Калі ў часопісе «Нёман» я надрукаваў нарыс «Беларускі мёд», нехта пазваніў яму, рэдактару, і пацікавіўся: «Няўжо сам Леанід Лявонаў прыязджаў у Беларусь і гэтак хораша напісаў пра наш мёд?»

— Вось-вось, вам трэба ўзяць псеўданім! — зазначыў Мележ.

— Думаў я пра гэта, Іван Паўлавіч, ды не выберу сабе новае прозвішча.

— А што тут выбіраць?! — паціснуў плячыма Мележ. — Леанід Левановіч.

— Дык быў жа паэт Павел Левановіч.

— Ён паспеў выдаць толькі адну кніжку і загінуў на вайне. Вось і працягвайце яго справу.

А пасля выхаду другой кнігі «Зялёны трохкутнік» Іван Паўлавіч рупіўся, каб Левановіча хутчэй прынялі ў пісьменніцкую суполку. Дый пазней, аж да смерці, ён пастаянна сачыў, над чым працуе малодшы калега і пры сустрэчы не шкадаваў добрага слова ў падтрымку.

### Шлях да галоўнай кнігі

Што б ні рабіў, што б ні пісаў Леанід Левановіч, ён пастаянна насіў у сваім сэрцы вёску Клеявічы Касцюковіцкага раёна і сваіх землякоў, раку маленства — Бесядзь, так хораша апетую народным паэтам Беларусі Аркадзем Куляшовым.

Задума напісаць аповесць пра сваё дзяцінства ў пісьменніка з'явілася яшчэ ў 70-я гады. У 1976-м Левановіч атрымаў пуцёўку ў Дом творчасці «Кактэбель» на Чорным моры. Ён узяў з сабою паперу і шэсць алоўкаў, каб кожны дзень спісваць шэсць аркушаў.

Хаця не заўсёды ўдавалася вытрымліваць графік працы, надта ж прываблівалі сонца і мора, але, вяртаючыся, ён вёз каля ста старонак спісанай паперы. Дома прачытаў напісанае — і застаўся незадаволеным. Бо пра цяжкае, басаногае дзяцінства лепей, чым Міхась Стральцоў у аповесці «Адзін лапаць, адзін чунь», не напішаш.

Давялося ўсё перарабляць, уводзіць новых герояў, так што аповесць пра пасляваеннае маленства вылілася ў раман «Шчыглы», прыхільна сустрэты чытачамі і крытыкай. Пасля будуць напісаны яшчэ шэсць раманаў, у якіх аўтар павядзе сваіх герояў з саракавых гадоў мінулага стагоддзя ў нашыя дні.

У адным лісце да мяне Левановіч напісаў: «Андрэй Сахута — гэта я!» Тым самым Леанід Кірэевіч імкнуўся даказаць, што ягоны герой вельмі блізкі яму як па характары, так і па ўчынках. Гэта з аднаго боку, а з другога — аўтар разумеў, што ягоныя раманы — гэта дакументы часу, аднак гэта мастацкая, а не дакументальная проза, — значыць, ён мае права на вымысел.

Леанід Кірэевіч памятае наказ бацькі быць ляснічым, але стаў спачатку культасветработнікам, а затым — журналістам і пісьменнікам, хаця вельмі любіў лес. Андрэй жа Сахута выбраў сабе прафесію ляснічага. Далей яго чакала камсамольская і партыйная кар'ера, а Левановіча партыйная работа не спакушала.

Андрэй у рамане «Палыновы вецер», калі не было магчымасці працаваць сакратаром абкама КПБ па ідэалогіі, папрасіўся ляснічым у самыя забруджаныя Чарнобылем лясы. Справядлівы і сумленны, ён адчуваў вінаватасць чалавека за тую бяду, што прынёс на зямлю.

### Беларус на сямі вятрах

Творчасць Леаніда Левановіча ўражвае, так бы мовіць, геаграфічна-тэматычным абсягам і жанравымі асаблівасцямі. Герой аповесці ў пісьмах «Якар надзеі» — матрос. Ён служыць на субмарыне ў паўночных марах.

«Валанцёр свабоды» — аповесць-маналог, напісаная ад першай асобы. Заходнебеларускі хлопец едзе ў Аргенціну, каб зарабіць грошай, а лёс закінуў яго ў Іспанію, дзе ён змагаецца супраць фашызму ў атрадзе Макі. Пабло Варанецкі мае прататыпа Фадзея Варанішчу.

Чатыры вандроўкі ў Казахстан далі пісьменніку магчымасць стварыць кнігу нарысаў «Хлеб і мужнасць» пра беларусаў на цаліне. Затым Леанід Левановіч адкрываў для сябе Амерыку.

Першы пералёт цераз Атлантычны акіян ён ажыццявіў у 2000 годзе, калі паехаў у госці да меншай дачкі Вольгі. У той прыезд адбылася незабыўная сустрэча з самым паважаным пісьменнікам беларускага замежжа Масеем Сяднёвым, пра якога напісаў эсэ «Самародак».

Пасля не раз Левановічы ездзілі ў амерыканскі горад Бостан, каб з жонкай дапамагаць дачцэ расціць сына Максімку. Засталося столькі ўражанняў ад сустрэч з суайчыннікамі, што ўрэшце нарадзілася кніжка «Усмешлівая Амерыка». Выпала пабываць і на Віргінскіх выспах, якія абмывае цёплае Карыбскае мора. Аднак, будучы на самым краі Амерыканскага кантынента, Леанід Кірэевіч успамінаў сваю Беларусь, свае Клеявічы і раку Бесядзь, дзе прайшло маленства...

Героі Левановічавых твораў дзейнічаюць на розных канцах свету, але сам аўтар лічыць сваім галоўным здабыткам сем раманаў «Прыдняпроўскай хронікі», дзясяткі апавяданняў, нарысаў і эсэ аб людзях Прыбяседдзя. Калі ён бярэцца за пяро, каб расказаць пра сваю малую радзіму, часта думае: «Няшчасная, гаротная зямля! Чаму табе выпала столькі бедаў? Чаму чорны Чарнобыль сагнаў адсюль людзей?!»

Вось і яны, Левановічы, як захацелі пакінуць сталічныя паверхі і жыць бліжэй да зямлі, мусілі шукаць вёсачку ў Вілейскім раёне, а не ў Касцюковіцкім, бо ні Клеявіч, ні суседніх паселішчаў даўно няма на карце. Аднак родныя мясціны памятаюць свайго летапісца: нездарма землякі надалі Леаніду Кірэевічу Левановічу званне Ганаровага грамадзяніна Касцюковіцкага раёна.

### Яшчэ дзве сустрэчы

Даўно ўжо Леанід Кірэевіч запрашаў нас з жонкай да сябе ў госці, спакушаючы свежым мядком, бо ён не толькі цудоўны пісьменнік, але й добры пчаляр. Мінулым летам нарэшце мы сабраліся паехаць у Левановічава Пятрылава.

Праўда, у Мінску Леанід падхапіў нас і на старэнькім «Жыгулёнку» завёз у свой, як часам жартуе, чабаровы рай. Мясціны, і праўда, уражваюць: дзесяць хат з усіх бакоў акружылі смалістыя сосны, пасля дажджу густы і цёрпкі чабаровы пах доўга трымаецца ў паветры. Ён зліваецца з водарам іншых кветак і жывіцаю. Нават дарога парасла травою, бо тут стала жывуць толькі шэсць сем'яў, астатнія зімуюць у горадзе і прыязджаюць на вясну ды лета абрабляць градкі.

Дзве ночы правялі мы ў Левановічаў. Мы не толькі адпачывалі, як дома ў дзяцінстве ў вясковай хаце, і знаёміліся з цудоўнымі мясцінамі, але й дапамаглі гаспадарам выкачваць мёд з вулляў. Занятак быў новы, а таму вельмі цікавы для нас. Дадому ехалі з мядовай «прэміяй» і незабыўнымі ўражаннямі.

Другая, «планавая» сустрэча адбылася на чыгуначным вакзале ў Брэсце 16 лютага 2018 года, калі Леанід і Рагнеда вярталіся з санаторыя «Белая вежа», што ў Камянецкім раёне. Дзве гадзіны шчырай, нязмушанай гаворкі праляцелі непрыкметна. Левановічы падаравалі нам аршанскі ручнічок «Беларусь — краіна шчырых сяброў». На льняным палатне Леанід Кірэевіч зрабіў свой дароўны надпіс.

Мы расталіся, каб сустракацца зноў, перапісвацца, перазвоньвацца.

### Васьмідзясятая восень

Вось неўзабаве на падворку і васьмідзясятая Левановічава восень. І трэба ж было нарадзіцца якраз у пару бабінага лета, калі кожнае дрэва ў залатым ці чырвоным сарафане радуе вока. Калі непаседа-вецер, нібы кот-свавольнік, доўга гуляе з яркім лістом, пакуль той не ляжа на цёплую яшчэ зямлю...

Як бы падводзячы вынікі зробленага, Леанід Левановіч стварыў артыкул пра свае кнігі, дзе выказвае аптымізм і надзею, што ягоныя творы могуць быць запатрабаванымі і ў будучым, і ў першую чаргу імі зацікавяцца сямейнікі. Нехта з унукаў ці праўнучка Алінка прачытае гэтыя ягоныя запісы і захоча зняць з паліцы дзедаву кнігу...

У будучым, можа, стагоддзі аматар прыгожага пісьменства ў горадзе ці аддаленай вёсцы возьме ў рукі томік Леаніда Левановіча і будзе з ахвотаю чытаць, зачараваны праўдай Жыцця і сілай Слова. Як сёння чытаюць Пушкіна і Талстога, Шаўчэнку і Горкага, Купалу і Багдановіча, Быкава і Караткевіча...

Дадамо яшчэ: у адным з лістоў Леанід Кірэевіч пісаў: «Прайшло ад нараджэння нямала гадоў! Але я не стаміўся жыць і радавацца жыццю. Значыць, будзем жыць і працаваць далей!»

Будзем жыць!..

**Расціслаў Бензярук**

# Загад



Міхась ЗІЗЮК

Кабінет начальніка райаддзела Сагдзевіча знаходзіўся на другім паверсе. Малады ўчастковы Корзун хуценька прабегся па затаптанай наведнікамі лесвіцы, пастукаў у дзверы і, не чакаючы адказу, увайшоў. Каля Сагдзевіча сядзелі аператыўнікі старшы лейтэнант Мыскавец і маёр Жалібоўскі з аддзялення крымінальнага вышуку. Корзун хацеў далажыць, што з'явіўся па загадзе, але начальнік спыніў яго і кіўнуў, каб ён сеў побач з аператыўнікамі.

— Значыцца так, — Сагдзевіч падцягнуў да сябе нейкую паперу. — Я вызваў вас вось чаму. Вы ведаеце, што хутка выбары. Мы павінны забяспечыць грамадскі парадак на выбарчых участках, не дапусціць зрыву выбараў. Гэта зразумела?

Падначаленыя згодна кіўнулі. Корзун таксама хітнуў галавою, хоць да яго пакуль не дайшло: куды ж хіліць сваю прамову падпалкоўнік? Вядома, міліцыя забяспечвае грамадскі парадак, міліцыянты пачалі ўжо дзяжурствы на выбарчых участках, але чаму яго выклікалі сюды? Ён і так гэта ведае. Зрэшты, Мікола тут чалавек новы, служыць толькі паўгода, можа, і пачуе штосьці спецыфічнае, міліцэйскае. Насамрэч Корзун не надта хацеў служыць у міліцыі, ды выйсця не было. Вышэйшую адукацыю атрымаў на платнай аснове, на працу нідзе не бралі — у невялікім раённым гарадку адшукаць годны заробак складана. У сталіцы ні жылля, ні радні, з працай па спецыяльнасці таксама няпроста. Дзядзька Стась, матчын брат, прапанаваў пайсці сюды, абяцаў дапамагчы. Маці ўзрадавалася: а як жа, стабільны і неблагі заробак, нейкія ільготы, дый на адзенне грошай менш пойдзе. Угаварыла яго. І вось цяпер участковы інспектар міліцыі лейтэнант Корзун сядзіць у кабінеце начальніка РАУС Сагдзевіча.

— Дык вось. З абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў прыйшла папера. У ёй нам прадпісана правесці ўсе неабходныя мерапрыемствы па недапушчэнні розных эксцэсаў, акцый пратэсту з боку так званых апазіцыянераў. У нашым горадзе знайшоўся такі, як бы гэта мовіць, «свядомы», які каламуціць і псуе нам усю справаздачу. Ён, Корзун, жыве на тваім участку. Мяркую, ты ведаеш пра каго я?

Так, Мікола зразумеў, пра каго вядзе гаворку падпалкоўнік. На вуліцы Савецкай у шматкватэрным доме жыў былы настаўнік матэматыкі Цішынін. Некалі ён вучыў і Корзуна. Акрамя таго, што Павел Іванавіч выдатна ведаў саму матэматыку, ён так захапляльна і даступна ўмеў выкласці матэрыял, што яго разумелі нават цяжкадумы. У школе яго паважалі. З Цішыніным у Корзуна ў адзінаццатым класе адбылася адна гісторыя. А ўсё з-за дурнога дзіцяча-юнацкага «а табе слаба».

Перад дыскатэкамі, якія праходзілі па суботах у мясцовым Доме культуры, хлопцы заўсёды спрабавалі знайсці нешта для «тонусу». Калі задавальняліся півам, а калі знаходзілі і што мацнейшае. Неяк Корзун ляпнуў, што ён яшчэ той «мацак», што можа выпіць хоць паўбутэлькі і не захмялець. Дайшло да спрэчкі, прыйшлося трымаць слова. Захар Хмялеўскі (і прозвішча якраз жа ў тэму) на агульныя грошы набыў бутэльку гарэлкі. Перад дыскатэкаю Мікола выжлукціў палову. Як — і сам не разумее. Пасля пайшлі ў Дом культуры. Корзуна, канешне, хутка «разабрала», але ён трымаўся. Хвілін праз дваццаць зразумеў, што сюды хутка з'явяцца дзяжурныя педагогі і міліцыя, якія заўсёды трымалі дыскатэку пад кантролем, і ён загрыміць у міліцыю. Мікола здолеў выбрацца на вуліцу, там яго званітавала. Трапіла і на адзенне, і на чаравікі. У такім стане яго знайшоў Цішынін. Павел Іванавіч дапамог дайсці да калонкі, адмыцца, пасля адвёў да сябе, адпаіў нейкімі таблеткамі і моцнаю гарбатаю, на таксі адвёз дахаты. Больш пра тое здарэнне так ніхто і не даведаўся, нават маці нічога не зразумела, а Цішынін нікому не сказаў. Аўтарытэт Корзуна ў вачах аднакласнікаў узняўся: сапраўды «мацак», пратрымаўся.

Цішынін па нацыянальнасці рускі, некалі прыехаў сюды за жонкай, мясцовай жыхаркай. Асеў у райцэнтры, пайшоў на працу ў школу, вывучыў беларускую мову, стаў яе актыўным прыхільнікам і ўступіў у апазіцыйную партыю. Безумоўна, такога раённае кіраўніцтва дараваць не магло. Цішынін застаўся без працы. Але ён знайшоў выйсце: стаў індывідуальным прадпрымальнікам, заняўся рамонтамі, а заадно і рэпетытарствам. Цішыніна ведалі як добрага майстра, здольнага педагога, да яго ішлі і кліенты, і дзеці, таму без працы ён не сядзеў. Хапала Паўла Цішыніна і на грамадскую дзейнасць. Ён збіраў подпісы пад рознымі заявамі аб парушэнні правоў жыхароў горада, удзельнічаў у акцыях пратэсту ў сталіцы, спрабаваў арганізоўваць пікеты і пратэсты ў райцэнтры. Усім гэтым ён псаваў нервы раённаму начальству, якое змянялася ў твары пры адным толькі ўспаміне аб Цішыніне.

— Дык вось, — зноў паўтарыў Сагдзевіч, павысіўшы голас, — на вас ускладаецца абавязак правесці прэвентыўнае затрыманне гэтага самага «свядомага». Да выбараў застаўся тыдзень. Цішынін павінен сесці сутак на дзесяць — тады ніхто не будзе баламуціць і падбухторваць народ. І каб камар носу не падтачыў. Гэта зразумела?

Падпалкоўнік утаропіўся ў падначаленых. Аператыўнікі згодна заківалі галовамі. Мікола не мог уцяміць: на якой падставе яны затрымаюць Цішыніна, якія доказы супраць яго прадставяць у судзе?

— Корзун у нас пакуль што малады, аператыўную абстаноўку разумее слаба. Таму старшым прызначаю капітана Жалібоўскага. Да зыходу дня далажыць мне аб выкананні. Можаце ісці.

Сагдзевіч апусціў паголеную лабатую галаву ў паперы, даючы зразумець, што інструктаж скончаны. Міліцыянты спыніліся ў прыёмным пакоі.

— Так, пайшлі на вуліцу, пакурым, там усё і абмяркуем. А то тут вушэй шмат, — буркнуў у пракураныя рудыя вусы Жалібоўскі, скіроўваючы на выхад.

Жалібоўскі быў вопытным супрацоўнікам, пачынаў з самых нізоў, пасля завочна скончыў Акадэмію МУС, на дадзены момант служыў на пасадзе старшага оперупаўнаважанага ў крымінальным вышуку. Мікола ўжо не раз перасякаўся з ім па працы. Жалібоўскі яму не падабаўся: аматар выпіць на «дурніцу», сваё не ўпусціць, скрытны, але работу аператыўніка ведаў добра. Ягор Мыскавец маладзейшы, працуе ў міліцыі таксама нядаўна. Як і Корзун, ён мясцовы, але вучыліся хлопцы ў розных школах, да таго ж Ягор старэйшы за яго на два гады. Па працы Мікола з ім перасякаўся ўсяго некалькі разоў і ведаў менш, чым Жалібоўскага.

Усе выйшлі на ганак, закурылі, моўчкі ўглядаючыся на няспешнае жыццё правінцыйнага гарадка. Па дарозе праехала некалькі легкавікоў, ляніва круцячы педалямі, прасунулася жанчына на веласіпедзе, і на нейкі час рух заціх. Насупраць, праз дарогу, франтавата пабліскваў новымі шклопакетамі будынак райвыканкама — там нядаўна скончылі рамонт. Жалібоўскі пстрыкнуў недакуркам у сметніцу, але не патрапіў.

— Так, хлопцы, загад вы зразумелі. Па-першае, нам трэба разабрацца, дзе цяпер знаходзіцца гэты Цішынін. Ведаеш, дзе ён можа быць? — звярнуўся Жалібоўскі да Корзуна.

**— Значыцца так, — Сагдзевіч падцягнуў да сябе нейкую паперу. — Я вызваў вас вось чаму. Вы ведаеце, што хутка выбары. Мы павінны забяспечыць грамадскі парадак на выбарчых участках, не дапусціць зрыву выбараў. Гэта зразумела?**

— Мяркую, што дома. Хутчэй за ўсё, будзе займацца рэпетытарствам — з дзецьмі ён займаецца ў асноўным у другой палове дня, — патлумачыў Мікола.

— Гэта добра, не трэба будзе яго адлоўліваць, як зайца, — засмяяўся Жалібоўскі. — Усё, садзімся, едзем. Ягор, паедзем на тваім аўтамабілі — менш свяціцца будзем.

Мыскавец не стаў пярэчыць старэйшаму таварышу. Корзун таксама моўчкі сеў: маёр старэйшы, добра ўсё ведае — хай кіруе. Але ўсё ж цікава — як яны будуць затрымліваць Цішыніна. Па дарозе Жалібоўскі сам раскрыў усе карты:

— Ты, Корзун, праз дамафон даведаешся, ці дома ён. Калі ў кватэры, то мы ўсе заходзім у пад'езд, ты выклікаеш яго на пляцоўку. Там мы яго пакуем і дастаўляем у аддзел. Пасля пішаш пратакол, кідаем яго да раніцы ў «малпоўнік» і дакладваем Сагдзевічу аб вырашэнні задачы. Усё зразумела?

— Не, — крыху падумаўшы, адказаў Мікола, — мне не ўсё зразумела. А за што я складу на яго пратакол?

— Молада-зелена, — паблажліва ўсміхнуўся Жалібоўскі. — Ты навічок, таму табе дарую гэтыя пытанні. Як за што — за парушэнне грамадскага парадку. Брыдка лаяўся на вуліцы, гучна крычаў, чапляўся да людзей. Для вас, участковых, самы просты артыкул.

— Дык ён жа ў кватэры будзе. Як жа напішу, што ён да некага чапляўся і лаяўся? Я не буду складаць такі пратакол.

— Ты што, тупы?! — ужо зазлаваў маёр. — Ты загад начальніка чуў? Чуў. Вось і выконвай, не задавай мне дурных пытанняў. А то пойдзеш з воўчым білетам. А што такое мець яго ў нашым горадзе, мне табе тлумачыць не трэба. Так што рыхтуй пратакол і асадку.

— Вам лёгка гаварыць, — зноў заўпарціўся Корзун, — а мне прышыюць парушэнне законнасці. Дый нядобра гэта: хлусіць, фальсіфікаваць справу, невінаватага кінуць на дзесяць сутак.

— Не хвалюйся, ніхто цябе не зачэпіць, — больш спакойна, але халодна адказаў Жалібоўскі, — за гэта толькі пахваляць. У судзе праблем не будзе — гэта дакладна. Мы з Ягорам выступім сведкамі, усё пройдзе як па маслу. Так, Ягор?

— Так, Алег Іванавіч.

Машыны спынілася каля патрэбнага пад'езда.

— Ідзі, чаго сядзіш! — гукнуў маёр.

Мікола нехаця вылез з машыны. Каля пад'езда, насупраць адзін аднаго, сядзелі два каты, руды і чорны, енкатам запалохваючы суперніка. Руды спрабаваў ударыць лапаю чорнага, а той пачынаў енчыць яшчэ гучней.

Рой думак круціўся ў галаве ў Корзуна. Што ж рабіць? Адмовіцца? З'ядуць жыўцом, Жалібоўскі выдасць Сагдзевічу ўсе падрабязнасці, стоадсоткава вытурацць з адпаведным запісам. Лепш сказаць, што Цішыніна няма дома — хай шукаюць. Але калі ён націснуў на кнопку дамафона, то заўважыў, што за спіною стаіць Мыскавец. Так, Жалібоўскі не дурань.

— Хто там? — адазваўся мужчынскі голас.

— Цішынін Павел Іванавіч?

— Так.

— Гэта ваш участковы Корзун. Мне патрэбна задаць вам некалькі пытанняў.

— Заходзьце.

Дзверы адчыніліся. На Міколу глядзеў хударлявы мужчына год сарака пяці з гладка паголеным тварам і ранняю сівізною на скронях.

— Слухаю вас.

— Павел Іванавіч, вам прыйдзецца праехаць з намі, — з-за спіны Корзуна выйшаў Жалібоўскі.

— Гэта з якой яшчэ нагоды? Мяне ў нечым абвінавачваюць? — спакойна і ветліва спытаў Цішынін.

— Не, мы проста павінны высветліць некаторыя пытанні, якія маюць дачыненне і да вас. Таму вы павінны праехаць з намі, — настойліва паўтарыў маёр.

— Я знаходжуся ў сваёй кватэры, нічога не парушаю. Да таго ж у дадзены момант я праводжу заняткі. На вашыя пытанні я магу адказаць у іншы час. Выпісвайце павестку, я прыйду, — гэтак жа спакойна адказаў гаспадар.

— Вы не падпарадкоўваецеся законным патрабаванням супрацоўніка міліцыі. Ягор, бранзалеты.

Мыскавец выцягнуў кайданкі і ў адно імгненне зашчапіў іх на руках Цішыніна. Той не стаў супраціўляцца, адно спакойна сказаў:

— Вы дарма так робіце. Я буду скардзіцца на вашыя дзеянні.

— Ды калі ласка, — ухмыльнуўся маёр. — Колькі заўгодна. Давай, апранайся.

Цішынін сабраўся, пазваў з пакоя напалоханую дзяўчынку, нешта шапнуў ёй на вуха, тая хуценька пачала апранацца.

Цішыніна адвялі ў кабінет Жалібоўскага. Мікола выцягнуў паперы, паклаў перад сабою.

— Афармляйце, — сказаў Жалібоўскі і некуды выйшаў.

— Можа, нарэшце вы мне ўсё патлумачыце, маладыя людзі? — Цішынін запытальна паглядзеў на міліцыянтаў.

Корзун, не падымаючы галавы, моўчкі стаў пісаць.

— Вы абвінавачваецеся ў парушэнні грамадскага парадку на вуліцы, брыдкаслоўі і непадпарадкаванні законным дзеянням супрацоўнікаў міліцыі, — адказаў Мыскавец. — Вы будзеце затрыманы да раніцы, а заўтра суд разгледзіць вашу справу.

— Вось як, — горка ўсміхнуўся Цішынін. — Няўжо вы не разумееце, хлопцы, што некалі вам давядзецца адказваць за свае дзеянні? А табе, Мікола, не сорамна?

— Адкажам, калі спатрэбіцца, — Мыскавец выцягнуў з шафы нейкую папку і зрабіў выгляд, што паглыбіўся ў чытанне.

У Корзуна гарэлі вушы. Счырванелы, як бурак, угнуўшы галаву, ён моўчкі пісаў пратакол. Скончыўшы, працягнуў паперу Цішыніну на подпіс.

— Я нічога падпісваць не буду, — заявіў Цішынін.

Корзун пакінуў пратакол на стале і сказаў Мыскаўцу:

— Самі адпраўляйце яго ў малпоўнік. Мне трэба ісці, у мяне яшчэ справы.

Выходзячы, ён ціха сказаў Цішыніну:

— Прабачце, Павел Іванавіч.

На наступны дзень Корзун зайшоў у кабінет да інспектара па кадрах, працягнуў яму ліст паперы. Прачытаўшы яго, той здзіўлена ўтаропіўся ў Міколу:

— Ты што, забыў пахмяліцца? Што ты напісаў?

— А ты што — не бачыш? Рапарт. Там жа чорным па белым напісана: прашу звольніць мяне па асабістым жаданні.

— Ды гэта я бачу. Але ж ты працуеш толькі паўгода. Чаму ты вырашыў звольніцца? Што здарылася?

— Проста не хачу служыць, і ўсё.

— Не, так не пойдзе. Давай ты пачакаеш яшчэ паўгодзіка, а? А то мне начальства ў каршэнь усыпле, што ў мяне ёсць супрацоўнікі, звольненыя да года службы. А, можа, пасля яшчэ і перадумаеш, га?

— Не, чакаць я не буду, рапарт назад не забяру. І не перадумаю. Ніколі. Разумееш — ніколі.

Мікола выйшаў на ганак. Ён з палёгкаю ўздыхнуў, пастаяў у задуменні, нечаму ўсміхнуўся і пакрочыў па вуліцы да шматпавярховак.

# Пастаўскі шлях



Юрка ГОЛУБ

*Станіславу Маеўскаму*

*…Чарнеюць бярозы з марозу.*
*Спыняе ваколіцу дуб.*
*Імчацца таемныя крозы,*
*Нібы маладыя на шлюб.*

*…Стаяць міжазёрна Паставы,*
*Рыпяць у аеру суставы.*
*Схіляцца дзюбата над ставам*
*Тут буслава мкнецца пастава.*

*…Паправіць дзяўчына касынку,*
*І сцежка яе не міне.*
*Раптоўна цябе і мяне*
*Паклічуць ад возера: «Сы-ынку!»*

*…І згадкі цяжараць кішэнь,*
*Нібы залацінкі бліскуча,*
*Дзе зоры не ў зморы кішэць*
*Сышліся на воблачнай кручы.*

*…Дыміцца ўчарнелы касцёл,*
*Напэўна, для поўнага шчасця.*
*І велічна неба касцёл*
*Прычасце дае аднача сна.*

*…Нам ціснулі рукі шматкроць.*
*І кварта была не пустая.*
*У словах гарачая кроў:*
*Паставы — паўсталі.*

### Бадзянне

*Дзе ў пошаптах месяц відзён,*
*Не сцяты замкамі,*
*Як вецер з разбураных дзён,*
*Раптоўна знікаю.*

*Мінаю дамы і тамы*
*З надзеяй не схібіць.*
*Вось гэтак дрэйфуе Таймыр,*
*І шлях той не гіблы.*

*Пакінуў пабоку раку:*
*Счарнела на вугаль.*
*Вісіць на іржавым цвіку*
*Стажар-аблавуха.*
*І рыпнулі зоры якраз,*
*Як снег пад галёшам.*
*Каму надалася хоць раз*
*Такая раскоша!*

### Знак выраю

*Не шануем птушак?*
*Можа сам шэрыф*
*Рве з-за іх у Новым свеце пэйсы?*
*Вырай пацягнуў туды шнуры —*
*Астравы сушыць на іх павесіў.*

*Нервы ўскалашмаціў акіян.*
*Пастку засярodзілі Бярмуды.*
*Посах з Зэльвы весці караван*
*Бусел захапіць не замарудзіў.*

### Пахвалёнка калгасніку

*Наперад нёс узорны лёс.*
*Каб зоры на грудзях не згаснулі,*
*Дык клічнік стос праграмаў трос:*
*Любіў ён лозунгі з калёс,*
*Найболей — прагна і ўзасос! —*
*Любіў у поцемках калгасніка.*

*І бразгацелі рот і дрот:*
*— Віват шаноўнаму таварышу!*
*І браўся дрот у абарот —*
*У абарот наадварот —*
*Каб дакумекаць —*
*дык запарышся.*

*Неверагодна! Але факт:*
*Сабе з калгаснага кубельчыка*
*І штат, і сват, і апарат,*
*Самтрэст, сампіт і самвыдат*
*Грунтоўна, бач, — не напракат —*
*На сале жытку забяспечылі.*
*Яму ж каб смаку паспытаць,*
*Не дастаткова лашчыць зычныя.*
*На дзірах вунь страха, пята…*
*Даўно халодная пліта…*
*Адной уцехі: ёсць пятак,*
*І той на вэксаль запазычаны.*

*Ды вобзем бразнуўся калгас,*
*Бы ў дамавіну, злегла класіка.*
*Не варухнуўся ласы клас.*
*Не заікнуўся, хто паграз.*
*Цішком рыхтуе вестку час:*
*«Знайшлі, як маманта,*
*калгасніка».*

### Страты

*У маленстве згубіў*
*сцізорык*
*і, балесны, не ведаў,*
*як пазбыцца шкады.*

*Неўзабаве не далічыўся*
*цялушкі ў статку,*
*ды мацней пастуха*
*трэсла ад страху*
*зладзеяў.*

*У бездань неба*
*аднойчы рынула*
*прыхільная зорка,*
*але я не крыўдую,*
*замшэлы.*

*І вось, захлынаючыся віной,*
*не магу здагадацца:*
*куды і чаму схавалася*
*мора.*

### Заўвага

*Даўно карцела зрабіць*
*табе, браце,*
*заўвагу.*
*А менавіта: чаму ты*
*не спяшаешся крыкнуць «ура».*
*Акрамя таго, не цураешся…*
*не грэбуеш…*
*не паважаеш…*
*не верыш у…*
*(Пералік, зразумела, няпоўны.)*
*Дый ці гэтага мала, каб*
*бачыць перад сабою нацдэма?*
*Але пра што тут казаць,*
*калі васпан*
*ужо і так паспеў давесці*
*сябе*
*да пячорнага стану.*

### Конкурс

*Працьму спаборніцтваў*
*прыдумала на сваю галаву*
*няўрымслівае чалавецтва.*
*І падчас іх узнікае*
*жаданне*
*дагнаць і перагнаць,*
*адужаць і ўзнесціся,*
*а ў выніку проста акалпачыць*
*суперніка.*
*А нядаўна зусім*
*з належнай пыхай*
*аб'яўлены конкурс крыку.*
*Навыперадкі кінуліся*
*туды*
*варона з пачварным карканнем,*
*вераб'іха з бязглуздай*
*балбатнёй,*
*сарока далучылася,*
*як падносчыца боепрыпасаў.*
*І ніхто з небаракаў, мабыць,*
*і не падазрае,*
*што нават у падгалоскі*
*нявартыя*
*цётцы з суседняга панадворку,*
*асабліва ў намінацыі*
*«Працягласць ляманту».*

### Маналог пітака

*З апахмелам — бяда!*
*Нездароўю — не рады,*
*Віна-думцаў будан*
*Не склікае на раду.*

*Бач ты, скурвіўся свет,*
*І кішэнь — як нямая.*
*Жарты — нацыі квет*
*На паўлітру не мае!*

*А бывала, пілі:*
*Дробязь — бутлю агараць:*
*Стойма стаў — і смалі,*
*Значыць, з горла — у горла!*
*І не тое, што спрыт,*
*У пашане — пачатак!*
*Спрыт і жонцы абрыд,*
*Як даведцы пячатка.*

*Смык кранаецца струн —*
*Чарка смагу палошча.*
*Твой начальнік хітрун:*
*Ён жа п'е, як падпольшчык.*

*А сказаць, што сусед*
*Насабачыўся ў трэсце:*
*На бутэльку ў абед*
*З падначаленых трэсці.*

*Цюцька костку грызе*
*Не для нашай карысці.*
*Яўна, ён цверазей*
*З бадуна трактарыста.*

*Цесць (і той!), далібог,*
*Сам пад цешчай скуголіць.*
*Каб праверыцца змог,*
*Дык — лічы — алкаголік!*

*А капнуць, мой галуб:*
*Ды ранейшую продаж*
*Бочкі выгнуты клуб*
*Мацаў з прагнасцю продак.*

*Лоб уласны напні,*
*І дакладна ўцяміш,*
*Што цвярозыя пні*
*Пазнікалі з «канцамі».*

*Ёсць напраўду, дзівак:*
*Зубр пад назіркам пушчы*
*На лабаціну знак*
*Прыляпіў: «Непітушчы!»*

*І зашыўся, пабач,*
*За наклейкі тапонім.*
*(Як сябе не інач,*
*Знак наўрад ці тыповы…)*

*І ў адказе за час,*
*Вопыт маю, нібыта:*
*У народны запас!*
*У дзяржаўны набытак!*

*Вось прайду па радах:*
*Мкнуцца, бачу, па веды!*
*Вопыт свой перадам*
*За барыш адпаведны…*

# Фарбы лёсаў



Таццяна КАЛЕНІК

*Фарбы лёсаў…*
*Пяро — успамінаў…*
*Мы чытаем з мінулага ліст!*
*Дзякуй Богу, што гэта пасланне*
*Не згубіў зачарнелы чэкіст!*
*Хто раней…*
*Хто пазней…*
*Шлях адзіны,*
*Ды — у кожнага свой чамадан,*
*Але ж хто дакрануўся вытокаў,*
*Той пульсацыю часу пазнаў.*

### Подых Напалеона Орды

*Дакрануцца рукой да вытокаў*
*І пульсацыю часу адчуць:*
*Пад далонямі дыхае Орда;*
*Акварэльна маёнткі цвітуць…*
*Нешта пэндзаль сказаць яго хоча.*
*Можа, думкі данесці людзей,*
*Што ідуць у шляхецкіх адзеннях*
*Па зрыжэлых сцяжынах алей?..*
*З той пары, дзе цяпер пад асфальтам*
*Замураваны часу сляды,*
*Пад цяжарамі сведчанняў стогнуць*
*Пірамідьі тапаляў, дубы.*
*Вось яны, на малюнку пабляклым.*
*Маладзенькія зграбна стаяць*
*І праводзяць карэты здарэнняў*
*У бясконцы і прывідны шлях.*
*Хто раней…*
*Хто пазней…*
*Шлях адзіны,*
*Ды — у кожнага свой чамадан,*
*Але ж хто дакрануўся вытокаў,*
*Той пульсацыю часу спазнаў;*
*Той цяпер разумее: дарога*
*Не вядзе ў адзін бок…*

### Вірус

*Заразілася вірусам шчасця,*
*Восьмы месяц пад сэрцам нашу!*
*Пашыраецца ў целе хвароба,*
*Ды лячыць я яе не хачу!*
*Але толькі ад гэтай хваробы*
*Больш за ўсё існуе дактароў:*
*Доктар-зайздрасць;*
*Дацэнт-перашкода;*
*Ўрач-сурочнік;*
*Прафесарка-злосць…*

*Ў эпікрызе дыягназ адзіны:*
*«Шчасце.»*
*— Вось Вам, жанчына, рэцэпт…*
*Вы заразная страшна! Лячыцеся,*
*Вірус лезе амаль на гарсэт!*

*Хто хваробы такой не баіцца,*
*Заражайцеся — і часцей,*
*Тады стомяцца дактары-небаракі —*
*Дзе ж ім вылечыць столькі людзей?!.*



### Восеньскі букет

*Падары мне — у вазе восень,*
*Я пастаўлю яе на стале,*
*Частавацца з ёй буду гарбатай,*
*Калі ты паляціш ад мяне*

*У смугу над блакітным*
*люстэркам*
*Нарачанскіх азёраў-вачэй,*
*Да манхэтанаўскіх хмарачосаў,*
*Ці ў туман еўрапейскіх начэй.*

*Я пастаўлю яе каля ложка*
*І скручуся пад коўдрай клубком.*
*Паплыву да цябе ў тваe мроі,*
*Каб напоўніць табою свой сон.*

*Каля ганку яе пастаўлю,*
*Ноч ліхтарыкам запалю.*
*Дзе б ні быў ты, — свяціць ён будзе*
*Праз гады, праз туман,*
*праз смугу.*

### Гарсэт

*Звязала дачушцы маці*
*З воўны павольных рэк*
*Бела-чырвоны гарсэт:*
*У чырвані аеру ззялі*
*Крынічак гаючых каралі —*
*Прыстані нашай маяк.*
*Калі іх абрэзалі?*
*Як?*
*У росах у белых купалі*
*Каровак. Яны і давалі*
*Белае малако!*
*Калі яго выпілі?*
*Хто?*
*А можа, белыя вежы*
*Тым малаком палівалі*
*Дзяды, бо дзядоў шанавалі?*
*Цяпер не растуць яны тут, —*
*Лінулі зялёных атрут…*
*Пашкодзілі белае поле,*
*Чырвоны пакрыўдзілі фон.*
*Зляпілі з бруду й падману*
*Дзявочыцы той балахон.*

# Калі прыгледзецца —

**Фрагмент рамана**



Зміцер ВІШНЁЎ

Частка пра таемнага асілка, які падняў рукамі цэлы горад і трымаў яго, пакуль не скончылася паводка

**1.**

Я ўсміхаюся вам. Я ўсміхаюся кожнаму. Усміхаюся штодня. Усміхаюся штохвілінна. Я, напэўна, ідыёт? Ці я проста выхаваны чалавек? «Ты — алкаголік!» — ускрыкне мой тлусты сябрук. Дзякуй, сябрук, я аніколі не сумняваўся ў тваім шчырым вызначэнні маёй асобы. Маленькая рэмарка: мой тлусты сябрук таксама шмат п'е і прыкідваецца гісторыкам — не верце яму!

Я ўсміхаюся, бо не магу інакш. Я ўсміхаюся, бо я напраўдзе раззлаваны. А калі я злуюся, дык раблю выгляд, што ў мяне ўсё добра! Я ўсміхаюся сінімі ад віна вуснамі. І мая ўсмешка нагадвае хучтэй шчыліну ад кулямётнага бруствера. Мае зубы зіхцяць, нібы рулі зброі. І вочы мае таксама вузяцца і ператвараюцца ў баявыя агеньчыкі. Я папраўляю капітанскую фуражку, і жыццё наладжваецца. Сёння і больш ніколі! Менавіта сёння я вып'ю мора да самага дна!

**2.**

Ровар паклалі ў снег. Ён тут заінеў і ператварыўся ў лядзяш. Але мне патрэбны не аб'ект — інсталяцыя. Без раварыста гэта будзе падман, інсінуацыя. Падбіраю суб'екта вельмі патрабавальна. Вывучаю ягоныя рысы твару. Мне патрэбны валявы. Каб падбароддзе было ўпартай цаглінай, каб вочы выпіралі і патрабавалі супу. Мне патрэбны камікадзэ! Знаходжу такога ў карчме — бяру за каўнер і кідаю на ровар у снег! Брам! Заледзянелая рама гучыць векавечнай брамай. Я-ха! Відавочна, што інсталяцыя ўжо амаль падрыхтаваная.

**3.**

Верыш у поспех? Поспех чаго? Большасць з нас верыць у нейкі міфічны поспех. З чым ядуць гэты поспех? Поспех. Поспех. Прыдбаў боты — поспех? Нарадзіў дзіця — поспех? Стаў дэпутатам — поспех? Але ж пасылаў усіх далёка-далёка — да такой знаёмай маці — можа, таксама поспех? Гэты міфічны поспех — гідра, якая бярэ нас у палон. Мы мусім жыць іншымі катэгорыямі. Не поспех — шчасце! Я не думаю, што яно нараджаецца ад поспеху. Нават упэўнены. Можна быць шчаслівым і непаспяховым з пункту гледжання большасці. Не хачу быць паспяховым! Хачу быць п'яным, дурным і старым, як мох, каб слухаць цішыню дрэў і быць шчаслівым.

**4.**

ты вясёлы
я вясёлы
мае вусны распаўзаюцца быццам ртутныя цягнікі
зубы квітнеюць гарошынамі Сонца падае на дно глоткі
Кадык пляскае вёсламі Празрыстыя валошкавыя вочы
перакочваюцца хваламі На захад бягуць не спыняючыся радзімкі Падаюць у ваду стрэлы Свішча паветра
Перакочваецца паветра нібы студзень Пераварочваецца нібыта кісель Крык «Га!» І зноўку ты хаваешся на дно лодкі Прыціскаеш рукі да грудзей Подлая муха паўзе па носе Нехта цябе шукае і крычыць: «Га!» Ты маўчыш і спрабуеш адмахнуцца ад надакучлівай мухі «Га-га! Га-га!» — «Пурга!» — шэптам адказваеш ты.

**5.**

Трупы. Трупы. Хацелася ванітаваць. Яшчэ ўчора гэтыя людзі думалі, марылі — жылі. Некалі іх нарадзілі бацькі, якія цешыліся, што іх маленькі чалавечак ідзе ў свет. Песцілі гэтага чалавечка, даглядалі яго — верылі ў ягоны светлы лёс. І хто ж ведаў, што гэтага чалавека праз шмат гадоў напаткае лёс сустрэцца з забойцам?

**6.**

Чалавек. Чалавек без галавы і без ног, але ўвесь белы і цукровы, як крэм . І ўвогуле можа быць — гэта быў не чалавек, а ягоны прывід? Гэты самы прывід, без галавы і ног, выкаціўся з пад'езда шматпавярховіка і заспяваў пузам: «Мур-мур-мур!» І каціўся ён вельмі доўга, і спяваў усё гучней і гучней, пакуль яму не сустрэлася вялікая кітайская сцяна. Тады ён напружыўся і прамармытаў: «Пусці! Пусці! Пусці!» Сцяна зморшчыла свой каменны лоб, падумала, пачухалася і адказала: «А навошта?» «Я — добры», — канстатаваў прывід. «Адкуль я ведаю?» — засумнявалася сцяна. — Учора тут таксама праходзілі адныя і казалі пра братэрства, дык у мяне дагэтуль усё балісць і колецца. Не! Не пушчу!» Прывід падумаў-падумаў — і як скочыць! Быццам пончык ці гумовы мячык. І лавіла яго сцяна сценамі-серпанцінамі, і спрабавала засмактаць шматлікімі байніцамі. Не — збег прывід. «Мур-мур-мур.» Гэта казка пра тое, як не варта пісаць вершы.

**7.**

Капітан паклаў галаву на стол і прысеў побач. Я прыгледзеўся і пабачыў у вачах галавы знаёмыя хуліганскія агеньчыкі.

— Даўно не бачыліся, — заўважыў я.

— Угу, — адгукнулася старая знаёмая.

— І як табе новы статус? — пацікавіўся я.

— Абавязвае.

— Абавязвае да чаго?

— Шмат клопатаў.

— Не прыдумвай, — здзівіўся я. — Ты ж не служыш, а толькі тым і займаешся, што бухаеш ды дзецям казкі на ноч распавядаеш.

— Штодзённа, штохвілінна я нясу крыж пакутніка — крыж капітана, — заявіла галава.

Я зарагатаў:

— Віславухая, ды ты зусім з шарыкамі і ролікамі паблыталася. Ты ж пенсіянерка ці пенсіянер — нават не ведаю, як цяпер правільна.

Галава пачырванела і гучна забулькала.

— Булькай-булькай, — сказаў я. — Капітанская пенсіянерка.

Галава скокнула на шыю капітана. Капітан ускочыў і кінуўся на мяне з кулакамі.

**8.**

груз Груз Ты загрыз гарбуз Абуза Мазгоў няма Замест сейфа — Акварыум-пуза Выбіў пярэдні зуб Гэта значыць бузіна Буддзёнасць і ўсялякія наступствы Усё — лухта Толькі супрацоўнікі службы народнай бяспекі Прымаеш на душу кілішак настойкі І не знаходзіш прыназоўніка і прыметніка Бо вечар закаціўся манетай на рыпучую канапу Чухаеш за вухам Так — няхай усё пухам
бровы загарацца вогнішчамі
абвугленыя твары — крык паштальёна

Паглядзі на гэтага куртатага паштальёна! Ён няшчасны і закатаваны. Забеганы. А заробак малы. Часам ён нездаровы. Зрэдку п'яны. Можа, гэта Чарльз Букоўскі ў маладосці? <…>

**9.**

— Чалавек абураецца, разумееш, — сказаў Крывы.

— Ён заўсёды абураецца. Ты згадай адваротнае. Колькі памятаю, ён заўсёды быў панкам. А цяпер начапіў пінжак і акуляры, вырасціў сівую барodку і думае, што схаваў панка ў шафе. Ні фіга! Шкілет — яшчэ не шкілет. Варушыцца панк! Ён яшчэ жывы! — крыкнуў я.

Крывы заўсміхаўся — ад вуха да вуха:

— Ён такі. Яму трэба канфлікт. Патрэбны адрэналін. Штодня ён выпальвае цыгарэтку і нешта запісвае ў нататнік — інакш ён не можа.

— Можа, ён вялікі інтэлектуал? — раптам выказаў я меркаванне.

— «Ле» ў слове ёсць. А «ін» — згубілася. Ён «тэле»...

— Фон! — крыкнуў я.

— Фон-барон, — падхапіў Крывы. — Барон — Нуф-Нуф, Ніф-Ніф і Наф-Наф.

— Пат! — крыкнуў я. — Факс!

— Тэлеквас, — зарагатаў Крывы. — Дакладна ён. Ін-блін.

— Быў інтэлектуал — стаў тэлеканал. Інжынер — інжыр. Жаўнер ператварыўся ў жоўтую нерпу!

**10.**

— Усім заняць свае месцы! Я паспрабую аддрэсіраваць гэтых зялёных гадаў!

Караліна вылазіць з шафы. Каралінка-Каралінка. Караліначка. Мая маленькая дачка. Каралінка палічыла на руках пазногці і папярэдзіла:

— Усім ляжаць! Я сказала. Не рыпацца! Мне надакучыў Шэкспір. Сёння я прыхільніца Генры Мілера. Таму рэкамендую са мной не жартаваць. Жарты могуць скончыцца сумна!

**11.**

Кнігарня Марс

Я сядзеў у крэсле. Праглядаў кнігу аўтара-дэбютанта, як заўважыў, што побач матэрыялізаваўся нехта знаёмы. Чалавек проста ўзнік з ніадкуль. Я прыгледзеўся: побач сядзеў Ярыла Пшанічны. Ружовашчокі і вясёлы.

— Вітаю, — сказаў я. — Рады бачыць. Як нам цябе не хапала...

— Вітаю! Ну што, нешта прыдумаем? — запытаўся Ярыла і ў прадчуванні прыемнага працэсу выпівання — відавочна намякаў пабухаць — пацёр рукі.

— А што будзем? — запытаўся я.

— Што заўгодна, — адказаў Пшанічны. І раптам закрычаў: — Я — Вова! — і рашуча расшкамутаў сваю кашулю. Хрась! Матэрыял разляцеўся крыламі.

**12.**

Ты завітваеш у гэты пакой. З жырандолі звешваецца вараны бурак. Тым не менш, ён рэагуе на тваё з'яўленне; з бурака вылузваецца нос, потым — вока, рот, які ашчэрваецца і паказвае мармеладавыя зубы. Потым рот паказвае барвовы язык, які нагадвае смактульку. Рот пачынае вібраваць, і чуваць: «Жывёла, давай скачы! Ты куды прыйшоў? Ты прыйшоў у культурную ўстанову! Скачы, падла!»

Аднекуль у цябе ляцяць гнілыя памідоры. Ты па інэрцыі пачынаеш выконваць патрабаванні — скачаш. Бурак звальваецца на падлогу ў...

На язык паклалі пігулку, і яна запішчала, забалбатала, зашаптала, забулькала і прапаліла. Прапаліла язык! «Ква-ква-мана-ба-ба-рукалла-мукалла»... Пігулка, нібыта куля, прабіла язык. Цяпер будзе шлях да пірсінга. «Гэй, пігулка! — закрычаў ты. — Не прабі мой страўнік! Вярніся ў ангар-бутэлечку!»

Трафарэт чалавека застаўся на сцяне. Тынкоўка счарнела і абвалілася. Лямпачка ў пакоі згасла і выбухнула астрай. Я расфарбаваў свой твар баявымі палоскамі. Потым узяў у рукі тамагаўк і з разбегу кінуўся на сцяну. Сцяна мяне засмактала, нібыта чорная дзюрка, і выплюнула з адваротнага боку. Я выскачыў на сонечную паляну.

З люка выпаўз янот і заспяваў: «Пятнаццаць чалавек на куфар нябожчыка! Ёхо-хо-хо! І бутэлька рому!» Янот закашляўся і выплюнуў жабу. Пайшоў дождж. Разам з кроплямі падалі бублікі. Жаба крумкала.

У ката Сірыуса былі дзіўныя спартовыя практыкаванні. Яны заключаліся ў гімнастычных занятках з пузам. Сірыус выпучваў і напружваў пуза — у гэтыя моманты яно выглядала вялікім і чырвоным, нібыта надзьмуты геліем балонік. Часам кот са свістам уцягваў у сябе паветра, і тады пуза ператваралася ў сухую грушу. І тады Сірыус свяціўся ад шчасця чыгуначным ліхтаром.

З прынтара выскачыла слова, якое курчылася і танчыла; яно праспявала: «Ты хворы не мной! Я хворае не табой!» Слова было чорным, але мела квяцісты сонечны гальштук. У памяшканні, куды трапіла слова, за сталом сядзеў Майкл Крывы і піў гарбату з мёдам. Па ягоным твары поўзалі мушкі, якія зляталіся на салодкі пах. Слова паглядзела на Крывога, булькнула, шмогнула і паведаміла:

— Лайно.

— Што? — не зразумеў Майкл. — Ты адкуль узялося?

— Я гляджу на цябе і задаю такое ж пытанне, — паведаміла слова.

**13.**

Кнігарня Марс

Дробс пракрычаў:

«Выйшаў месяц на парог! І давай крывіць свой рог! Буду рэзаць, буду біць — усё адно табе вадзіць!»

**14.**

Што такое лапа вусяка? Лапа. Лапа, акрэсленая атрамантам ці алоўкам. Афсетная папера, апырсканая адэкалонам, выступае ў якасці добрага матэрыялу. Паглядзіце: з лапы вылузваюцца залацістыя кіпцюры. А вось ужо і вока выцыркнулася. Фантастычная лапа — вусякамутант. <…>

**15.**

Зноўку прыдумалі ворага. Прага да крыві — яна ў чалавека на падсвядомым узроўні. Гэта такія драпежніцкія паводзіны. Што можа быць больш важным за чалавечае жыццё?!! Якая ідэалогія? Я — па-за кантэкстам. Гульні ў вайнушкі ператвараюцца ў звычайныя забойствы. Герой вайны для мяне звычайны забойца.

**16.**

Сінія шпалы. Бліскучыя рэйкі.

Гном напружыўся і выцягнуў з кішэні мабільны тэлефон, які заліваўся музыкай з мульціка пра Свінку Пэпу.

— Слухаю, — сказаў гном.

— Што ты слухаеш?!! — хрыпла крычаў невядомы. Што ты слухаеш, гнамяціна недабітая?!! Я цябе пытаю?!. Ты калі вернеш мне смарагды?!!

— Вы, можа, памыліліся? Якія смарагды? — здзівіўся гном. — Я анікому і анічога...

— Гэй ты, гнамяціна!!! — роў невядомы. — Якія смарагды, кажаш?!! Такія-разгэтакія! На маім рудніку мусяць быць смарагды! Інакш табе будзе каюк! Я цябе папярэдзіў, каўпакападобны!!! Мы капаем тыдзень, і смарагдаў няма!!! Калі яны тут не з'явяцца, я за сябе не адказваю!!! Рыхтуй драўляную скрыню, гнамяціна!!!

**17.**

— Я вельмі хачу дранікаў, — сказаў чалавек.

— Ты хто такі? — спытаў яго Майкл Крывы.

— Я — звычайны чараўнік.

— І што, ты не можаш начараваць сабе дранікаў?

— Не, чаму? Магу. Але будзе не тое — баюся сапсаваць смак.

**18.**

— Маральна я падрыхтаваны да горшага, — сказаў Майкл Крывы. — Можа, гэтую гарэлку нельга змешваць з парэчкавым напоем?

— Не бойся, — супакоіў я. — Мінулы раз ты бляваў нядоўга — недзе палову гадзіны.

— Ты думаеш? — засумняваўся Майкл. — Штосьці мяне твае высновы не натхняюць.

# Марс сіні

**19.**

— Кіліманджара, Кіліманджара, — сказаў Майкл Крывы.

**20.**

— Вы мне не падабаецеся. Больш за тое, вы мне непрыемны як чалавек. Мяне ванітуе ад вас. Мне хочацца ванітаваць, калі я чую вашы крокі. У творчасці павінны быць творца. Таму калі адсутнічае мастак — твора не можа быць!.. Тое, што вы дэманструеце, нагадвае экскрэменты волата. Вас нельга пускаць у прыстойныя месцы. І ўвогуле — я думаю, што вы не чалавек. Вы — пародыя на яго. Вы пабочны эфект нашай шматпакутнай прасторы. Але я вас знішчу. Спакойна і без пэўных высілкаў. Я вас расцісну, як атрутнае насякомае. У мяне дужыя і цяжкія боты — тое, што трэба ў дадзенай сітуацыі.

**21.**

— Разумееш, Крывы, трамваі я люблю. Яны мне нагадваюць падводныя лодкі, якія рассякаюць надводны свет. Едзеш у такой капсуле, быццам плёскаешся ў паветраных хвалях. Гэта з аднаго боку. А з другога — жыць з вокнамі, якія выходзяць на трамвайныя лініі, — адны праблемы. Грукат стаіць гэткі, нібыта рота вайскоўцаў грыміць пустымі бляшанкамі. Калі прапаўзаюць гэтыя прыгажуны, тэлевізар не чуваць. Што там тэлевізар!.. Я жонку не чую! А ейны пранізлівы голас не пачуць — гэта трэба быць напраўдзе глуханом. Тады мы з жонкай пачынаем разважаць... Можа, нам змяніць не месца дыслакацыі, а рытм жыцця? Днём наглуха зашпільваемся ў кватэры — вокны, дзверы, фіранкі — і спім, а ўначы бадзёра жывем і слухаем цішыню?!! Ператвараемся ў начных жыхароў!.. У дзве гадзіны начы транспартныя артэрыі заціхаюць, і падаеца, што ты знаходзішся ў нейкай забытай усімі вёсцы!.. Чым не рамантыка? Не, мне даспадобы такія ідэі. Трэба змяняць графік жыцця. Днём спаць — уначы весці актыўны лад жыцця!..

Адразу прымроіўся замест кватэры велізарны аквярыум. Кветачкі сінеюць на паверхні вады, слімакі поўзаюць па сценках... а ў цэнтры плаваем мы з жонкай — блiскучыя паласатыя рыбінкі.

Крывы паглядзеў на мяне, сплюнуў і заўважыў:

— Купі паласатую піжаму і не пакутуй.

— Ды навошта?

— Будзе прасцей абгрунтаваць грукат. Маўляў, мы жывем не ў кватэры — нас трымаюць у каталажцы.

— І дзе лагічны ланцуг? Нешта не даганяю...

— Піжамы — гэта робы вязняў.

**22.**

знікаюць танкі Вядуць размовы з імі безгалосыя рамонкі Сіні і жоўты цісонуць флегматычных людзей Захлынаюся вобразамі Магчыма выцягваю праз пятку апошнюю вяроўку нерваў Укусіць Разгрызці Раструшчыць Мезазойскі перыяд Надакучылі

**23.**

Прызнанні Майкла Крывога напярэдадні юбілею Кастрычніцкай рэвалюцыі:

— Раней я быў вясёлы. Я ўсміхаўся, як амерыканец. Усміхаўся ўсімі дзесяццю зубамі, якія былі ў наяўнасці. Я рагатаў, нібыта каліфарнійскі конь. Рогат быў гучным і разносіўся паўсюдна. Гэты конепадобны рогат быў бясконцым і цягнуўся, нібыта гумка, і быў здольны абляпіць гарады і горы, лясы і палі. Рогат гучаў настолькі выразна і пераканаўча, што мог заглушыць гудкі паравоза і рокат трактара. І ў адначассе ўсё знікла. Быццам памёр чалавек. Быў — і няма. Цяпер я заўсёды пахмурны. Дзень за днём я прымушаю сябе выглядаць сумна. Часам я нават выпускаю слязіну. Маска няшчаснага і закатаванага чалавека мне не вельмі пасуе, але яна падабаецца маёй жонцы. Яна, праўда, у гэтым не прызнаецца наўпрост, але ўсім сваім выглядам пра гэта сцвярджае. Бо мой шчаслівы выгляд правакуе жонку да свідравання. І тады мой мозг не вытрымлівае — ён расколваецца на фрагменты шэрага рэчыва. І ў пэўны момант рашэнне надышло само сабой: з вясёлага чалавека я мушу ператварыцца ў сухар з цвіллю. Дык калі паспрабаваць разабрацца — дзе крыніца праблем? У чым сутнасць здарэння? Пэўна, мой заўсёдны добры настрой правакаваў вечна сумную жонку на бязлітасныя паводзіны. А цяпер сум нас аб'яднаў. Жыццё, карацей, забадала і злучыла нас у шчаслівым карагодзе.

**24.**

Сосны сплюнулі і сказалі:

— Чаго стаіш? Руш наперад! Тут няма чаго стаяць.

Майкл Крывы скрывіўся і пайшоў. Ісці яму было цяжка — ногі не слухаліся. Размаўляць было таксама цяжка — язык быў непаслухмяным і нагадваў чэрствы піражок.

— Майкл, як ты дакаціўся да гэткага жыцця? — запытаў я.

Майкл наважыўся нешта сказаць, але не мог. Не атрымоўваліся ў сябра словы. Разбягаліся літары па ўсе бакі.

— Майкл, — сказаў я. — Як ты пішаш кнігі, калі нават размаўляць не можаш?

Майкл заўсміхаўся і замармытаў:

— Какманду, Какманду — афрыканскі шлях. Непал. Пальмы, какосы, бананавая гарэлка і верш у гонар вялікага Мугабэ. Зімбабвэ. Ы-ы-ы-ы. Я — чорны марпех!

— Гэх, Майкл-Майкл, — паспачуваў я. — Мабыць, твой мозг высмактала п'яўка чорнага бальзама. Дарма ты захапіўся гэтым небяспечным напоем.

**25.**

— Час ідзе, — сказаў чалавек. — Ты не маеш маральнага права ўхіляцца ад дзеяння. Ты проста абавязаны нешта рабіць. Сітуацыя, калі ты робіш выгляд, што цябе гэта не тычыцца, непрымальная! Не пройдзе. Усе мы ведаем, чаго ты варты і на што здатны. Таму адмовы не прахoдзяць.

**26.**

Кнігарня Марс.

Час абмеркавання літаратурнага працэсу.

Хто пукнуў гучна, той і атрымаў прэмію. Не па таленце, а па тусовачнасці. Як кажуць добрыя людзі: «Капялюх не па Рыгору».

«Паэтка павінна быць прыгожай знешне, тады і радкі загучаць надзвычайна», — заяўляе нехта пыхлівы. Я запярэчу гэтаму пыхліўцу. Не! Паэтка абавязана быць моцнай і страшнай, як гаўбіца. А калі яна будзе менавіта такой, там недзе ўнутры будзе ліхтарык цеплыні таленту. Знешняя прыгажосць лялькі Барбі ёй відавочна не патрэбная! Але ж у нас што ні ногі ад вушэй — паэтка! Нават вушэй ужо не бачна за тымі нагамі. Затое гэтыя ногі натхняюць удзельнікаў журы розных прэмій да пэўных высноў: «Талент! Безумоўна — талент! Гэткае гучанне! Такая моц радка!» І калі прыгледзецца, разумееш, што напраўдзе ў гэтым калыханні клубоў гучыць непаўторны рытм верша. Геніяльна! Проста фантастычна. І не трэба пісаць! Адбярыце паперу і асадкі, камп'ютары і тэлефоны! Не трэба ствараць! Усё ўжо ёсць! Ногі! Ногі! Трохкроць крыкнуць: «Ногі!» Якія яшчэ аргументы? Маленькія свінападобныя гурткі ствараюць свых куміраў. Нараджаюць міфы. Адно аднаго ўзносяць і хваляць. Раздаюць кампліменты і лаўры.

— Феміністкі, шыхтуйцеся! Прыйшоў вам капец! — крыкнуў вусень і папярхнуўся. Аднекуль выскачыла бочкападобная фраў з кухоннай сякерай.

Вусень круціўся, нібы на вуглях, а фраў старанна малаціла сякерай: «Бам-бам-бам!» Але кожны раз прамахвалася. Вусень заліваўся ваўчыным воем. Фраў цяжка дыхала і прыгаворвала: «Паразіт зялёны!.. Гэта табе за феміністак!.. Распну гада!..»

«Феміністка — сябра чалавека!» — роў вусень і выкручваўся ад сякеры.

«Сякера — сябра вусеня», — адказвала фраў.

У нейкі момант, калі фраў стамілася, вусень даў нырца ў шчыліну, што была ў падлозе.

«Стой! — зараўла фраў. — Куды?!!»

«На танцы!» — адказаў здалёк вусень.

Фраў села на крэсла, адкінула сякеру і змрочна працадзіла:

— Ужо хутка. Нашыя сёстры вырашаць праблему. Нядоўга ўжо.

**27.**

— Што такое вышыванка, капітан Барада?

— Вышыванка — гэта добра. Кепска быць вышываначнікам, бо адразу ператвараешся ў люстраную воблу.

— Гэта як?

— Падыходзіш да люстэрка і паказваеш язык. Адразу спрацоўвае. Тут на цябе цуд і навальваецца. Думаеш пра чысціню каранёў. Выцягваеш з абутку ногі і пачынаеш націраць пальцы наждачнай паперай — кшталту я крышталёвы і чысцюткі. Быццам я — арыец!

— Арыец — гэта ад рыльца і яец?

— Мабыць, так.

— Дык што ў выніку?

— У выніку, калі адбываецца люстрацыя, свіны лыч ператвараецца ў дзюбу пеўня, а бывае і наадварот.

**28.**

— Ён напісаў кнігу на дзевяцьсот старонак, — сказаў фазан і заклекатаў.

— Ён што, шызануўся? — здзівіўся капітан Барада.

— Не, ён вырашыў паказаць усім нам сваю велічыню, — замармытаў фазан.

— А гэтая велічыня выяўляецца ў колькасці старонак тэксту? — падсумаваў Барада.

— Не, яна выяўляецца ў колькасці напісаных сімвалаў.

— Аптымістычна, — пагадзіўся Барада. — Мабыць, гэтыя сімвалы шліфуюць складаны жыццёвы сюжэт.

— Так-так — яны шліфуюць.

— Што?

— Штосьці дакладна. Прынамсі, цягам некалькіх старонак апісваецца запор.

— Ну што ж — годная справа. Вельмі патрэбная, мабыць, у медычных даследаваннях.

Барада выцягнуў люльку, запаліў, выпусціў клубы дыму і ў задуменнасці рэзюмаваў: «Ад запору дапамагае дзюфалак».

**29.**

Дрывасек махаў сякерай: «Вжы-ы-ык!» — і дрэва ляцела, нібыта спілаваны вораг! «Чмы-ык!»– яшчэ адно дрэва ляцела ніцма. «Бр-ы-ык!» — наступнае грымела і валілася. «Хрась!» — яшчэ і яшчэ. «Хрусь!» Хамякі і вераб'і разбягаліся і разляталіся. Ваўкі ціха вылі і адпаўзалі ў глыбіню леса. Лісы давалі нырца ў таемныя норы. Спалоханыя пугачы накрывалі галовы крыламі. Вожыкі прыкідваліся шышкамі. Мядзведзь прыпадабняўся да гары.

**30.**

І калі джала захрасла ў горле, надышло разуменне існасці. Вось яно. Мае пляўкі больш не шкварчэлі. Атрута з мяне не вылівалася. Здавалася, што я быццам тая гадзюка, якую пазбавілі зброі.

**31.**

Думкі разбягаюцца і сыходзяцца ў карагоды. Абмацваеш твар і задаеш пытанне: няўжо гэта я? Здаецца, што раней скура абцягвала гэты чэрап лепей. Магчыма. Час бяжыць няўмольна. Не стрымаць. Не схапіць. Ён толькі здзекуецца. І паказвае язык.

— А што ты хацеў? — пытаецца галава. — Толькі так.

— Ты зноўку беспрытульная? — здзіўляюся я. — Цябе пазбавілі тваёго шыкоўнага цела?

— Не, —пярэчыць старая знаёмая. — Я ажыццяўляю ранішні шпацыр. Так бы мовіць — трымаю сябе ў тонусе. І табе не зашкодзіла б, бо цябе ўжо не пазнаць. Губляеш форму. Пуза выпеставаў, нібы курган славы.

— Гэй, — кажу я. — Валі адсюль, свінападобная!

— Ты чаго завёўся? — здзіўляецца галава. — Выпусці пару. Ты ж не імбрык — звычайны асацыяльны тып.

Я люблю футбол. Гы-гы.

**32.**

Мяне хвалюе. І хвалюе вельмі моцна. Да дрыжыкаў у пазногцях. Да перхаці ў горле. Да стрэлаў у левым вуху. І калі я хвалююся, нібы вада ў тазіку, мне трэба нейкім чынам браць сябе ў рукі. Лёгка сказаць — складана зрабіць.

**33.**

Я спыніўся каля кнігарні і доўга ўглядваўся ў ейныя бліскучыя вокны. Бясконцыя шэрагі кніг. Мітусіліся рэдкія пакупнікі. Здавалася, што гэтая маленькая прастора па-за кантэкстам краіны. Здавалася, што гэта фурункул, які варта выдаліць з чыстага беласнежнага цела дзяржавы. А потым мне падалося, што вокны і не бліскучыя зусім — брудныя і заляпаныя. Не зашкодзіла б тут памыць і папрыбіраць.

**34.**

Кнігарня пракашлялася, вытыркнула з-пад шафаў чырвоную дзюбу, выцягнула з пяску курыныя лапкі і абвесціла:

— Ну што, мурзацікі, колькі можна мяне гнабіць? Кнігі купляць будзем ці працягнем займацца марнатраўствам часу? Яшчэ трошкі, і я буду з вамі размаўляць інакш!

Кнігарня напружылася і выштурхнула сваё распухлае цела з будынка былога завода. Страсянулася, скідваючы з сябе пыл і тынкоўку, прайшлася дзюбай па сценах, нібыта па пёрках, і задаволена зафыркала.

**35.**

Я складаю гарбузы на падваконні. Развешваю часнык па кутах кватэры. Раскідваю цыбуліны пад батарэямі.

— Няўжо дапаможа?

— Мінулы раз мне, здаецца, дапамагло.

Гном паглядзеў на мяне і пакруціў каля скроні:

— У цябе сапраўды не ўсе дома. Яшчэ трошкі — і цябе прыме ў свае абдымкі жоўты дом.

**36.**

Я люблю холад. Я люблю снег. Зіма — гэта цуд! Белыя сумёты натхняюць на подзвігі. Так-так, але ёсць адна непрыемнасць — куртка. Брытанцы кажуць, што кепскага надвор'я няма — ёсць кепская вопратка. Я згодны, бо цяпер холад мяне прыщіскае; ён мяне пляжыць. Вопратка надзьмулася на мне бурбалкамі. Я дыхаю на замерзлыя бледныя пальцы. Я выпускаю пару. Мой твар ахутвае туман — верагодна, ператвараюся ў снегавіка? Што вынікае? Любоў і нянавісць аб'ядналіся ў вялікія белыя шары.

**37.**

Скрозь. Наскрозь. Спаўна. Ціха, як у склепе. Капітан Барада прыслухаўся — здавалася, што ён чуе ўдары сэрца. І больш анічога. У цямрэчы ён мог толькі разгледзець камод, і на ім узвышалася нейкая скульптурка. Мяркуючы па ценях — выява анёла. Капітан уздыхнуў і, стараючыся не шумець, падышоў да акна. Там, за фіранкамі, было шмат машын. Але ягоны позірк сфакусаваўся на адной — вялікай, падобнай да джыпа. Было ўражанне, што ў ёй анікога няма. Так, трэба на вуліцу!.. Доўга не думаючы, Барада пстрыкнуў замком, прыадчыніў дзверы кватэры і адразу атрымаў удар, у вачах пацямнела. Кулак незнаёмца прыйшоўся ў галаву. Капітан паваліўся. «А, сцука, — прашыпеў незнаёмы голас. — Ляжы спакойна».

**38.**

Мы прачнуліся. Нас многа. — Ярыла! Ты тут?!! — Тут. — Міхал! А-ау-у-у! Тут?!! — Так, тут. — Васіль?!! І ты тут?!! Хлопцы, хадзем вып'ем!..– Сонечны дзень. Стол сярод дрэў. Стравы і рознакаляровыя пляшкі. І папугай Фенікс праспявае нам пра вечнасць...

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 8 (144) | 31 жніўня 2018 | № 31 (594) Новы час

# Нішто не ператворыцца ў пыл...



Анатоль ДЭБІШ



Фота www. belhot.by

## Кат

*Чалавек пазірае маўкліва з-за кратаў:*
*Сёння — вязень!*
*А быў яшчэ ўчора ён катам,*
*Валадар — вырашаў чалавечыя лёсы:*
*Каму ў золаце быць,*
*каму — голым і босым.*
*Каму можна караць,*
*а каму быць ахвярай...*
*І навісла над ім непазбежная кара.*
*Па вязніцы кутах ён панура блукае,*
*Яго заўтрашні дзень і гнявіць*
*і лякае:*
*— Як пасмелі яго за цямніцы парог*
*Кінуць тыя, хто ўчора згінаўся да ног.*
*Той, хто гучна, у знак вернасці,*
*біў сябе ў грудзі, —*
*Заўтра будзе судзіць і караць яго будзе.*
*Можа, гэта памылка? І толькі — не болей!*
*І чакае яго прабачэнне і воля,*
*Бо ў жыцці не рабіў ён нічога благога:*
*Так — караў, так — судзіў.*
*Дык ад імені Бога*
*Суд вяршыў над людзьмі,*
*каб народ не сваволіў,*
*Каб пазбегнуць хаосу і хцівай юдолі...*

*У гэты час найстрашнейшымі*
*сталі для ката:*
*Не вязніца сама, не жыцця нават страта,*
*Не пагарда сяброў,*
*ні праклацці народа —*
*Згуба моцы і ўлады,*
*якімі валодаў.*
*Ён не верыў да самай апошняй хвіліны,*
*Што адрокся нат сын ад яго і пакінуў...*

*І тады толькі,*
*як усцягнулі на плаху,*
*Нібы скуру — сарвалі з грудзей*
*апранахі,*
*Ён убачыў, мо толькі ўсяго*
*на імгненне,*
*Як душа яго побач*
*стаіць на каленнях, —*
*У слязах і крыві —*
*перамешаных з брудам...*
*Ды за ўчынкі свае не пакаяўся —*
*Юда!*

***

*Калі паэта гоняць з дому,*
*Пагудзяць твор яго і род,*
*Плююць на мову — дык, вядома,*
*Што наплююць і на народ.*

*Ім усё роўна: чым мы сеем,*
*Расцім які духоўны плод.*
*Адна турбота ў фарысеяў —*
*Набіць кішэні і жывот.*

*Крычаць: віноўнікі паэты,*
*Што снег ідзе сярод вясны*
*І град палеткі нішчыць летам.*
*Яны ўсяму віной, яны...*

*Без іх жылі б мы ўсе шчасліва,*
*Квітнелі б — горад і сяло.*
*Яны стапталі нашы нівы*
*І ўсё святое — што было.*

*Дык з іх зрывайце апранахі*
*Ды рэжце, гадам, языкі!*
*І вось адзін ідзе на плаху.*
*Другі — да Чорнае ракі.*

*І мы не цямім нават — хто мы?*
*Бо побач — здрайца і сексот.*
*Калі паэта гоняць з дому —*
*За ім пагоняць і народ.*

## Сабачая просьба

*Проша, пане-гаспадару,*
*Мне прызначыць злую кару:*
*Маю грэх — аб волі мару.*
*Жыць інačай не магу.*
*Вінаваты: стаў вар'ятам,*
*Шэры воўк мне ў лесе — братам,*
*Як пракляты, каля хаты*
*Я сяджу на ланцугу.*

*Там начую я і дню ю,*
*Дождж і град мяне лупцуе,*
*Сталі моваю маёю —*
*Брэх хрыпаты і выццё.*
*І штодня з нудой чакаю,*
*Калі костку атрымаю*
*З вашых рук... благаслаўляю*
*Вас на шчаснае жыццё!*

*Пакарайце, вінаваты:*
*Тузаю ланцуг зацята.*
*Як вы церпіце дагэтуль*
*Мой сабачы злосны рык.*
*Хлусіць, пан мой, я не ў стане:*
*Тут, у нэндзе, у падмане*
*Цяжка жыць мне...*
*Просьба, пане,*
*Даць змяіны мне язык.*

## Падман

*Дзень пачынаўся радасны і чысты,*
*Усё наўзбоч — свяцілася і зззяла.*
*З-за шатаў лесу гэтак прамяніста,*
*Як пані з ложку, сонейка ўставала.*

*Яно пялёсткі росныя кранала,*
*Кідала пацалункі-промні долу,*
*Будзіла сны...*
*Ды раптам цёмна стала,*
*Ды раптам пачарнела ўсё*
*наўкола.*

*Дыхнуў калючай золлю ціхі ранак.*
*Град сыпануў —*
*жыццё знішчаў са здзекам...*
*Парой так цяжка разглядзець тырана*
*У светлым і ціхмяным чалавеку.*

***

*Садом, гамора... Сёння, як і ўчора..*
*Нячысцік правіць баль —*
*і весяляцца блазны,*
*і гуртам пазіраюць непрыязна*
*на тых, хто застаецца не ў гуморы.*

*А я гляджу, адрынуты, на зоры:*
*там — неба ззяе чысцінёю ясной,*
*між хмар вяслуе месяц непагасны,*
*душа з душой пра вечнасць*
*там гаворыць.*

*Там ценніцца садоў вішнёвых мора.*
*Бязважкія ў валошкавых уборах,*
*сірэны весяляцца там штоночы...*
*Ах, як бы я туды хацеў аднойчы.*
*..............................*
*Ці да блюзнерства,*
*калі край мой хворы?..*

***

*Чалавек пабачыў свет:*
*Безліч сімвалаў і знакаў,*
*Бацькі след і маці след —*
*І ад радасці заплакаў.*

*Паміраe чалавек,*
*Дні жыцця яго мінаюць.*
*Слёзы капаюць з павек*
*На знямелы мармур раю.*

*Чалавек — плыве да зор.*
*Нарадзіўся... І — памёр.*

## На мальберце

*На мальберце спіць ноч*
*чорнай кошкай ля плота.*
*Вока поўні мігціць*
*між ружовых аблок.*
*І гусцее паветра, і сее самоту*
*Белай фарбай і чорнай —*
*світанак і змрок.*

*У прасторы і часе*
*жыццём паядналы*
*Рухі, гукі, —*
*адзіным крананнем рукі.*
*І крывёю цячэ з незагойнае раны*
*Боль душы мастака —*
*праз гады і вякі.*

## Ілюзія

*Да ісціны жыцця мы —*
*ані кроку.*
*Ратунку просіць плоць,*
*і мучыць — Дух,*
*І тое, што сягоння цешыць вока,*
*Зруйнуе заўтра час у прах і пух.*

*І ўсё, што мела быць*
*святым і блізкім,*
*У што мы верылі і чым жылі,*
*За тою раптам*
*застанецца рыскай,*
*Якую мы бясcрэбнымі прайшлі.*

## Вязень

*Буру́ адчайна мур турэмны,*
*Пакуль яго я не парушу.*
*На волю выбрацца я мушу.*
*Так дзень за днем... але дарэмна.*

*Крышу за каменем я камень.*
*Крываваяць збітыя калені.*
*Сціскаю камяні рукамі,*
*Кідаю прэч... а іх не меней.*

*Я чую подыхі віхуры...*
*Вось рухнуў мур — свабода блізка.*
*Бягу — упаў на доле слізкім*
*Перад вышэзным новым мурам.*

## Рэгрэс

*Я не ўтрымаўся і — упаў,*
*Прабіў аб востры камень скроню.*
*Дух спешна цела пакідаў,*
*Нібыта страшыўся пагоні.*

*О людзі! Так я вас любіў!*
*Плявалі вы ў мой бок са злосцю.*
*Я чалавекам, творцам быў*
*І сам сабе калісь зайздросціў.*

*Цяпер, бяздушны, на другіх*
*Забыўся я, зусім не чую*
*Ні радасцяў, ні жаляў іх...*

*Што мне яны... цяпер жыву я,*
*Як мне падказвае рэгрэс:*
*Не дабрынёй, а моцай гневу....*

*...Яшчэ нядаўна з дрэва злез —*
*А сёння зноў скачу на дрэва.*

## Совы

*Там, дзе пануе драпежная згуба,*
*Не адшукаць ані следу людзей.*
*На вершаліне магутнага дуба*
*Змрочны вякамі хаваюць свой цень*
*Хцівыя совы, каведныя совы.*
*І з надыходам цямрэчы начной*
*З гнёздаў сваіх узлятаюць на ловы*
*Тых, хто падмануты дня цішынёй,*
*Тых, хто ў бяспеку і шчасце паверыў,*
*Сонцам сагрэты і ласкай вясны...*
*Гэтак і ў нас, як у птушкі ці ў звера.*
*Час свой не цэнім і ў ноч, як яны,*
*Мкнем за здабычай бяздумна на ловы,*
*Не ўсвядамляем хвілінаю той,*
*Што нас цікуюць каведныя совы,*
*Хіжыя совы між цішы начной.*

## Нішто не ператворыцца ў пыл

*1*
*У старой бажніцы Белай Вежы*
*Выява продка мне відна.*
*Стаіць, нязрушная, яна*
*У старой бажніцы Белай Вежы.*

*Звон стрэл чужацкіх слых мне рэжа,*
*Ды непрыступная яна.*
*У старой бажніцы Белай Вежы.*
*Выява продка мне відна.*

*2*
*Растуць, як дрэвы, курганы.*
*Так — дзень за днём,*
*і век за векам,*
*Не паміраюць з чалавекам...*
*Растуць, як дрэвы, курганы.*

*З зямлі дзядоў растуць яны.*
*З душ нашых продкаў,*
*не аднекуль.*
*Растуць, як дрэвы, курганы.*
*Так — дзень за днём,*
*і век за векам,*

*3*
*Нішто не ператворыцца ў пыл*
*І продкаў прах аднойчы —*
*уваскрэсне, —*
*Каб стаць малітвай,*
*музыкаю, песняй...*
*Нішто не ператворыцца ў пыл.*

*Яны паўстануць з ямаў і магіл.*
*Як сонейка з-за хмар*
*дзянёчкам веснім.*
*Нішто не ператворыцца ў пыл*
*І продкаў прах*
*аднойчы ўваскрэсне.*

# Бойня на Паліку



Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

**Возера Палік знаходзіцца на поўначы Барысаўскага раёна, на мяжы Віцебшчыны і Міншчыны. Рака Беразіна з аднаго боку ўпадае ў возера, а з другога выцякае, мясцовасць моцна забалочана. Дзеля ліквідацыі Барысава-Бягомльскай партызанскай зоны гітлераўцы двойчы цяснілі партызанаў да возера. Першая аперацыя, «Котбус», прыпала на май–чэрвень 43-га.**

«Першую блакаду мы перанеслі лёгка, бо немцы не дайшлі да Паліка», — сцвярджае *Ада Леановіч* (Нікалаева), жыхарка Плешчаніцаў. Пра другую — і апошнюю — удзельніца вайны гаварыць не магла: плакала ў трубку. Тое, што адбылося на Паліку годам пазней, падчас самай страшнай аблогі, без перабольшання можна назваць партызанскай трагедыяй.

Немцы балотаў не любілі і баяліся. Гэта партызаны выкарысталі: на выспах забалочанай поймы ўдала размясціліся некалькі атрадных і брыгадных базаў. Да шпіталя прыкамандзіравалі жонку палітрука Нікалаева, яна гатавала ежу для раненых і хворых, а большыя з дзяцей пасвілі кароў.

Лагер і шпіталь абсталявалі на сухім узвышшы, дзе раслі тры веліканы-дубы. На іх арыентаваліся савецкія самалёты: прызямляліся на паляне, выгружалі медыкаменты, забіралі цяжка параненых. Перавозілі за лінію фронту дзяцей-сірот. У пачатку лета 1944 года партызанам «прыпякло». На невялікай тэрыторыі апынуліся ў акружэнні 16 брыгад: «Жалязняк», «Народныя мсціўцы», «Бальшавік», «Дзядзі Колі», атрады «Смерць фашызму», імя Панамарэнкі, імя Кірава, многія спецгрупы. Заканчваліся боепрыпасы, не стала прадуктаў, раненыя не мелі меддапамогі. А галоўнае — адступаць не было куды.

Немцы кінулі на барацьбу з «бандытамі» некалькі дывізій групы армій «Цэнтр» і карныя фарміраванні пад кіраўніцтвам пераемніка Кубэ Карла Готберга. З некалькіх абласцей нагналі паліцэйскіх. Гітлераўцы ішлі сцяной, іх падтрымлівалі артылерыя, танкі, авіяцыя. З боку Віцебска, ад Плешчаніц, ад Халопенічаў партызанаў ціснулі да Паліка. Кола няўхільна звужалася...

Насельніцтва партызанскай зоны раёнаў таксама шукала ратунку ў багністых балотах. Сем'і з дзецьмі размяшчаліся побач з атрадамі. Жанчыны хадзілі даглядаць параненых, мыць бялізну, гатаваць ежу. Дзецям таксама знаходзіўся занятак: яны збіралі шчаўе і заечую капусту.

Успамінае *Яўген Пашукевіч:* «Маці разлічвала, што будзе карміць мяне жабамі, якіх у балоце і каля ракі звычайна шмат. Але ад бамбёжак, пастаяннай страляніны жабы і вужы зніклі з балота. Давялося абыходзіцца каранямі жоўтай лотаці; адварыўшы, іх можна было есці».

У безвыходнай сітуацыі, калі на кон ставіліся жыцці многіх, матулі ахвяравалі немаўлятамі. Разведгрупа, у якой ваяваў будучы пісьменнік Уладзімір Карпаў, аказалася блізка ад жанчыны з немаўлём. Дзеля бяспекі сябе і групы яна мусіла дзіця ўмярцвіць. *(Паводле Людмілы Карпавай)*

З малым на руках адступала разам з атрадам «За Радзіму» шматдзетная жыхарка спаленай Карпілаўкі Зося Давідовіч. У гэтай калатнечы згубілася яе 15-гадовая дачка. Колькі ні шукалі, ні крычалі — не абзывалася. Толькі праз месяц, калі ўжо не спадзяваліся яе дачакацца, дзяўчынка здолела вярнуцца ў сваю вёску. *(Паводле Сяргея Давідовіча)*

У атрадзе імя Кірава на тэрыторыі былога Халопеніцкага раёна ваяваў 18-гадовы Аляксандр Мардас з Крамянца. Ветэран па стане здароўя не змог распавесці пра драматычныя старонкі сваёй маладосці. Адну з іх я запісала ад жонкі, настаўніцы Ірыны Іванаўны. Атрад, дзе ваяваў Мардас, адышоў у топкае балота, туды немцы не палезлі. Адно варожыя самалёты кружылі над галовамі, і таму небяспечна было распальваць вогнішчы — пагрэцца ці штосьці згатаваць.

«Сядзелі-сядзелі гэтак, і адчуваюць, што сілы на зыходзе. Сітуацыя рабілася крытычнай. Камандзір Шаркоў рашыўся ісці на прарыў, але на ўсялякі выпадак паслаў байцоў у разведку. Падабралася зборная група: і зялёныя юнакі, і сталыя, вопытныя мужчыны. Глядзяць у бінокль і вачам не вераць: з лесу выпаўзаюць нямецкія абозы. Партызаны зразумелі, што вораг знімае блакаду, што яны вытрымалі! А каб пайшлі направа, то невядома, як бы ўсё скончылася» *(Ірына Мардас).*

Быў, аднак жа, чалавек, які ўзяў на сябе адказнасць павесці групу направа, праз трайны ланцуг ачаплення. Маю на ўвазе бясстрашнага разведчыка Дзімку-Невідзімку, як яго звалі ў атрадзе. Атрад Мядзведзева, дзе ваяваў Васюкевіч, быў пад Вілейкай расфарміраваны, так яны з сястрой-падлеткам апынуліся ў брыгадзе імя Кутузава.

«На Палік мы адступалі цераз вёску Беразіно. Немцы ішлі трайным ланцугом, цяснучы нас да возера. Мы пераходзілі рэчку Цну па слізкіх кладках. З іх лёгка было зваліцца, таму адзін аднаго падтрымлівалі і выцягвалі, як хто аступіцца.

Каб атрад мог выйсці з акружэння, нас разбілі на групы, па чалавек 13-15. Кожная ішла сваім шляхам. Дзіму прызначылі камандзірам нашай групы. Сярод нас быў чалавек, які ўвесь час сумняваўся: ці так ідзем, ці туды, а можа вернемся, і Дзіма строга ўсіх папярэдзіў: «Панікёраў нам не трэба, я за ўсё адказваю». Чалавек нас пакінуў, і больш мы яго не бачылі.



Прабіраліся ад вострава да вострава. Пад нагамі булькала балота. Вылезем на сухое — і падаем, як нежывыя, на плашч-палатку. Ішоў абстрэл з дальнабойных гармат. Снарад упадзе ў багну, а ўзрыва не чуваць, толькі купіны трасуцца.

Камандаванне, між тым, скеміла, што прасачыцца мы ўсе не зможам. Трэба прарывацца штурмам. Адправілі пасыльных, а наш атрад ужо мінуў першы ланцуг ачаплення. Дзіма не стаў вяртацца, хоць гэта было рызыкоўна. Як прабіліся праз трэці ланцуг, то пападалі на зямлю хто дзе стаяў. Так моцна спалі, што нават не чулі кананады. Прачнуліся ад шоргату ног, гэта беглі партызаны з іншых груп...» (З успамінаў сястры Васюкевіча *Ніны Сталяровай*)

Першымі здолелі прарваць варожае кола ўдарныя групы брыгад «Народныя мсціўцы», «Жалязняк» і спецатрада Іванова. Гэта адбылося з 7 на 8 чэрвеня 1944 года каля вёскі Акалова.

15 чэрвеня ў раёне вёсак Макоўе і Халмоўка пайшлі на прарыў партызаны брыгад імя Калініна, імя Кутузава, «Бальшавік», імя Фрунзэ, «Смерць фашызму», спецатрады І.Ф.Залатара, «Гром» і «Дапамога». Народныя мсціўцы вырваліся з блакады, але панеслі значныя страты (толькі забітымі каля 600 чалавек). Яны не мелі дакладных звестак пра размяшчэнне праціўніка. Пайшлі з крыкамі «ўра» на Макоўе, а немцы секанулі агнём з узлеску, адразу з двух бакоў.

Да Ушачаў на прарыў партызанскае кіраўніцтва вырашыла адправіць добра ўзброеную брыгаду Гіля-Радыёнава, якая ў 1943 перайшла на бок партызанаў і звалася Першай Антыфашысцкай. Большасць байцоў там і палегла. Жывымі засталіся мо чатыры сотні з амаль двух тысяч. Так «змывалі крывёю» сваю здраду былыя савецкія ваеннапалонныя.

**Да Ушачаў на прарыў партызанскае кіраўніцтва вырашыла адправіць добра ўзброеную брыгаду Гіля-Радыёнава, якая ў 1943 перайшла на бок партызанаў і звалася Першай Антыфашысцкай. Большасць байцоў там і палегла**

*Ніна Сталярова* запомніла падрабязнасці прарыву.

«Брату Юлькі Казлёнак адарвала руку. Юлька цягне яго за здаровую, потым ад страху забяжыць наперад і крычыць паміж стрэламі: «Пракоп! Пракоп!» Вернецца і зноў вядзе, так яны выбеглі на пакатам ляжачую, цудам ацалелую нашу групу.

Я ў гразі пагубляла боты, ішла босая, з распухлымі нагамі. Мужчыны, каб не зачэрпваць ваду, свае боты завязвалі вяроўкамі. Калі выйшлі, то ва ўсіх былі праблемы з нагамі — у абутых, можа, і большыя, бо язвы доўга не зажывалі. Мае ногі паправіліся праз тыдзень.

Пасля прарыву мы ішлі праз вёску Лясіны. Выходзілі жанчыны насустрач і плакалі, такімі ўсе былі змучанымі і страшнымі. Кармілі нас, мылі, адагравалі ў лазнях... А я не магла забыць сустрэтых у балоце дзеда з бабай, а з імі мо трыццаць вясковых дзяцей. Бацькоў не то пахапалі, не то яны хаваліся асобна.

Брата пасля Паліка ўзнагарадзілі ордэнам, а маглі б пакараць за непадпарадкаванне, калі б усё атрымалася па-іншаму».

На Паліку абарвалася жыццё венгерскай антыфашысткі, разведчыцы Тацціяны Бауэр. Апошнімі бачылі дзяўчыну жыхары вёскі Бабры. Раненай апекаваўся «паходна-палявы» сябра з былых ваеннапалонных. (Тацціяна іх перацягвала ў атрад з Мінска). Баброўцы пачулі непадалёку адзінкавы стрэл. *(Паводле Любові Ваўчок)*

Падрабязныя звесткі аб падзеях канца акупацыі знайшла я ў мемуарах вядомага кіраўніка партызанскага руху *Рамана Навумавіча Мачульскага.*

Апошнімі ў варожым атачэнні заставаліся брыгада «Дзядзі Колі», атрады імя Кірава і імя Панамарэнкі. Яны ахоўвалі штаб Барысаўска-Бягомльскай партызанскай зоны. Немцы хацелі захапіць Сялецкую грэблю — дарогу да выспы. Пяць дзён з высоткі абараняў базу атрад «Бура». Мсціўцаў бамбілі самалёты, абстрэльвалі гарматы і мінамёты.

18 чэрвеня ў 9 раніцы з'явілася варожая авіяцыя. Бамбёжка працягвалася больш гадзіны. Потым пачалася артылерыйска-мінамётная падрыхтоўка, якая працягвалася да ночы. Тады ж асколкам авіябомбы быў паранены сам Мачульскі.

Круг за кругам праходзілі лясныя байцы пекла пад назвай «блакада». 19-га зноў пачаліся паветраныя налёты. Партызаны налічылі 48 самалётаў. З іх скідваліся лістоўкі з заклікам здацца. «У адваротным выпадку палікскае балота стане для вас агульнай магілай», — пагражалі фашысты.

20-га ў наступ пайшлі нямецкія аўтаматчыкі. І тут знясіленыя байцы памянялі тактыку: ад цэнтра, які паліваўся агнём, яны перамясціліся да кальца акружэння. Немцы баяліся багны, ішлі не ланцугом, а натоўпам, ледзьве за рукі не трымаліся. Можна было залегчы, прапусціць іх у глыб балота, а потым нападаць знянацку.

Восем сутак пад беспераплынным агнём! Адбіваючы па дзесяць атак за дзень! У адну з такіх хвілін камбрыг Лапацін звяртаецца да Мачульскага:

— Карнікі рыхтуюцца да рашаючага штурму. Ці нельга папрасіць дапамогі ў фронта?

Мачульскі адказаў, што з гэтым пытаннем у Цэнтральны штаб партызанскага руху ўжо звярталіся, і не раз. Зноў па рацыі выйшлі на сувязь з Масквою, і ноччу ўрэшце прыляцелі доўгачаканыя савецкія самалёты, павесілі ў небе свае ракеты.

Колькі б жыццяў было выратавана, прыляці яны тыднем раней!

Амаль да сярэдзіны ліпеня некаторыя з мірных жыхароў заставаліся ў балоце, не ведаючы сітуацыі і перабіваючыся падножным кормам.

Новы камандзір атрада «Імя Дзімы» прыняў рашэнне перасядзець блакаду ў Руднянскім лесе. Тактыка сябе апраўдала: хоць і бегалі, «як зайцы», але большасць засталіся жывымі. Цяжка паранены ленінградзец *Юрый Волкаў* ведаў пра бойню на Паліку з чужых слоў. У сваіх успамінах, выкладзеных сынам у інтэрнэт, ён піша:

«За всю партизанскую эпопею в нашей зоне погибло партизан меньше, чем в эту последнюю самую обширную блокаду, причём буквально перед приходом советских войск, перед освобождением. Не хочу пересказывать то, что слышал от уцелевших — сам я на Палике не был — но чего-то более ужасного уже не придумаешь.

Это была в полном смысле резня загнанных в болота, оставшихся без боеприпасов тысяч партизан и мирных жителей, отходивших с ними. Увы, до сих пор никто не решился изложить на бумаге (по крайней мере мне не встречалось прочесть) все ужасные перипетии этой кровавой бойни начала лета 1944 года».

Адметна, што папяровы варыянт кніжкі беларускага партызана ў Расіі выдаць не ўдалося...

23 чэрвеня 1944 года пачалося наступленне трох Беларускіх франтоў. Бліскучая наступальная аперацыя была названа імем грузінскага князя Баграціёна і разгортвалася па двух накірунках — на Віцебск і на Бабруйск.

Яшчэ тыдзень — і экіпаж грузіна Чыгладзэ, чыім імем назавуць мінскую вуліцу, адзін з першых прарвецца ў сталіцу Беларусі...

# «Буду долю кавацьb»: вершы Язэпа Лявіцкага

**(З папераў Баляслава Грабінскага ў архіве БІНіМа)**

**У эміграцыйных архівах часам знаходзіш нечаканыя рэчы.**

Дзеля прыкладу, у зборах Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку, часткова перададзеных ужо ў мінскі Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, сярод дакументаў уласна інстытута (пратаколаў, абвестак і інш.), захаваліся цэлыя комплексы творчай і эпісталярнай спадчыны больш ці менш вядомых сябраў БІНіМа. Але і не толькі...

Адным з удзельнікаў БІНіМа быў Баляслаў Грабінскі, народжаны 3 жніўня 1899 года ў вёсцы Урачыншчына Раманаўскай воласці Сакольскага павета Гарадзенскае губерні (сёння Падляскае ваяводства Польшчы). У 1920-х гадах ён атрымаў спецыяльнасць лекара-дантыста. У 1930-х і пачатку 1940-х жыў у Вільні, быў старшынём Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, Беларускага нацыянальнага камітэта ў Заходняй Беларусі, намеснікам старшыні Беларускага навуковага таварыства. Працаваў на кафедры анатоміі медыцынскага факультэта Віленскага ўніверсітэта. У 1942–1944 гадах Грабінскі быў старшынём Беларускага нацыянальнага камітэта ў Вільні. У 1943 годзе ледзь не расстраляны літоўскай адміністрацыяй. Ад лета 1944 года дзеяч апынуўся ў Нямеччыне. У лагерах для перамешчаных асобаў па заканчэнні вайны займаўся грамадскай дзейнасцю, быў сябрам Аб'яднання беларускіх лекараў на чужыне, аўтарам артыкулаў у часопісе «Мэдычная думка». У 1950-х перабраўся ў ЗША. Быў сябрам Беларуска-Амерыканскага задзіночання, удзельнікам кіраўніцтва Чыкагскага аддзела арганізацыі, радным БНР, сабрам БІНіМа. Памёр 20 жніўня 1991 года ў Лонгвудзе (Фларыда).




У архівах нью-ёркскага інстытута захаваліся ўспаміны Грабінскага «Сакольшчына–Гродна–Вільня», якія некалі падрыхтаваў да друку Зміцер Саўка («ARCHE», 2000, №5), а таксама некаторая карэспандэнцыя. Сярод лістоў дзеяча ёсць і такі:

*«29 траўня 1987 г.*
*Да Рэдакцыйнай Калегіі.*

*Пасылаю Вам успаміны аб Гродзенскім Гуртку Беларускай Моладзі, якія даўно ўжо абяцаў напісаць.*

*Дзеля таго, што я ніколі ня быў у беларускай школе і выгадаваўся на запушчанскім дыялекце, які далёкі ад клясычнае беларускае мовы, ваш лінгвіст павінен перагледзіць, што паправіць, а што выкінуць, каб не было памылак.*

*Назоў Гродно я сумысна ўжываю не як часта бачу Горадна, бо ўсе беларусы кругом гэтага места называюць «Гродно».*

*Залучаю тож вершы Я. Лявіцкага. Самі судзіце, ці варта іх друкаваць. Вершы тыповыя для Нашаніўскага пэрыяду з нараканьнем і вялікаю надзеяй.*

*Мова вершаў тож не надта гладкая, бож Езік (для «Язэпу» запушчан) паходзіў з-пад Сухаволі, захадні рубеж этнічны Беларусі. Знаў ён добра расейскую мову, бо скончыў гімназію з залатым мэдалём. Быў ён слаўным юнаком. Найлепшы гімнаст у школе. Настаўнік-гімнаст чэх часта дэманстраваў школе вычыны Лявіцкага на трапэзе-паралелях.*

*Па скончанай гімназіі ў 1913 г. быў прыняты ў Ваенную Медыцынскую Акадэмію ў Пецярбургу. У пачатку вайны паслаты на фронт і [ў] 1916 на 23 г. жыцьця загінуў на вайне.*

*З вершаў відаць, якую гарачую любоў меў аўтар да Беларусі.*

*Б. Грабінскі.*

*P. S. Вершы Язэпа Левіцкага (псэўдонімы: Юрка Снапко, Дзядзько), адбіваныя на шапографі ў аднаднёўцы «Колас Беларускай Нівы», Гродно, 1913 г.»*

Да ліста дададзеныя і колькі вершаў згаданага маладога беларуса. Магчыма, даследчыкам і аматарам беларускай літаратуры нашаніўскага часу будзе цікава пабачыць гэтыя ўзоры тагачаснай творчасці, захаваныя дзякуючы земляку-эмігранту.

## Язэп Лявіцкі

### Барацьба

*Як пачаў толькі жыць,*
*я ўжэ долю сваю*
*Зненавідзеў, абрыдзіў яе.*
*Чуў я ворага ў ёй, знаў,*
*што толькі ў баю*
*Зваяваць магу шчасьце сабе.*
*Кроў бурліцца пакуль*
*ў цёплых жылах маіх,*
*Барацьбы пакуль просіць душа,*
*Сэрца стрункаў заўсім*
*не парвала сваіх*
*Буду з доляй змагацца ўсягда.*
*Хоць і я не ўцякаў перад ёй,*
*ды й яна*
*Мне не вырвецца з рук*
*ў барацьбе...*
*Я прайду цэлы сьвет,*
*збуру мора да дна —*
*Адшукаю яе у зямле...*
*З ветрам ў сполку ўвайду,*
*буру ў помач клікну,*
*Заварушацца сосны на зоў,*
*Зямлю-матку сваю —*
*пацалую, гукну*
*І пайду на сьмяртэльны я бой.*
*Ці жыцьцём прыплачу*
*і ў магілу зыйду*
*За свой сьмелы шалёны пагляд —*
*Ці яе пагублю, лепшу долю знайду,*
*Ці праробллю яе на свой лад.*
*Ды пакуль кроў кіпіць,*
*сэрца б'ецца маё,*
*Пакуль чую сябе маладым,*
*Буду долю каваць,*
*долю-шчасьце маё,*
*Буду з лёсам змагацца сваім!*

### Песьня

*Каб песьню родную мне даці,*
*Не чутай ў месьці панам,*
*Хацеў бы яе засьпяваці.*
*О, не! Засьпяваў бы я там,*
*Дзе змучаны цяжкай работай*
*Мужык, брат сярмяжны жыве,*
*Пазнаўшыся з горам,*
*цямнотай*
*І дарма пацехі ён жджэ.*
*Я ў хатцы яго засьпяваў бы*
*Аб цяжкай нядолі яго,*
*І сьлёзы яго абціраў бы,*
*Туліўшы, як брата свайго.*
*Да сьвету я шлях паказаў бы*
*Навукі, як жыць, навучыў.*
*І песьняй, душою жадаў бы,*
*Каб край ён свой родны любіў.*

***

*Не даў мне бацька ні багацьця,*
*Ні славы, здольнасцяў якіх,*
*Не! Сілы даў з бядой змагацца*
*І хлеб здабываць з рук сваіх.*
*Не ўмеў ён чытаць на паперы,*
*Не знаў навукі ён і сам:*
*Умеў зрываць сахой папары*
*І хлеб свой аддаваць панам.*
*Не знаў ён шчасьця,*
*лепшай долі,*
*К зямлі сагнуўшыся, хадзіў.*
*Труд-працу цяжкую у полі*
*Любіў, мяне любіць вучыў.*
*І з гэтай мне бядой, нядоляй,*
*І з сілай, працай бедака*
*Даў скарб вялікі, можа, болей —*
*Даў імя-званьне мужыка!*

**Падрыхтоўка да друку Наталлі Гардзіенка**

# Разгадаў Генадзь Кісялёў...

**У 2002 годзе ў «ЛіМе» я апублікаваў невялікі матэрыял «Невядомы аўтограф на кнізе Уладзіслава Сыракомлі».**

Рэч у тым, што тады мне трапіла ў рукі кніга Уладзіслава Сыракомлі «Маргер», якая была выдадзена ў Вільні ў друкарні Рубэна Рафаловіча ў 1855 годзе. Паэма была напісана на польскай мове з прадмоваю аўтара, якая так і называлася «Слоўца ад аўтара». Але самым каштоўным у згаданай кнізе з'яўляўся загадкавы аўтограф на тытульнай старонцы кнігі. За гэты час напісанае цяжкавата было прачытаць, а тым больш расшыфраваць: «Памятка па шаноўным... Светлай памяці Пану Ол..., настаўніку геаграфіі ў гімназіі ў... лістапада 1860 г.» Прачытаўшы напісанае, адразу паўстала пытанне: ці не аўтограф на кнізе самога Уладзіслава Сыракомлі? Яшчэ ў 1860 годзе ён быў жывы, шмат падарожнічаў па Бацькаўшчыне, спрабаваў пісаць вершы на беларускай мове. І толькі праз два гады пасля таго, як з'явіўся вышэй названы аўтограф на першым выданні паэмы, восенню 1862 года паэта не стала.

Дарэчы, на кнізе захаваўся штамп, на якім па-французску было напісана: «З бібліятэкі Антона Плянсона з Дабраміля». У гісторыі нашай літаратуры я не прыпомніў прозвішча Антона Плянсона. Што гэта быў за чалавек? Як трапіла кніга Уладзіслава Сыракомлі ў асабістую бібліятэку пана Плянсона, а пасля ў Слонім? Ці магчыма расшыфраваць сам аўтограф на кнізе? Гэтыя і шмат іншых пытанняў узнікла ў мяне, пасля знаёмства са старой кнігай з аўтографам. Пра гэта я ў 2003 годзе запытаўся ў нашага слыннага даследчыка беларускай літаратуры XIX стагоддзя Генадзя Кісялёва (1931–2008). Ды і ён сам бачыў публікацыю ў «ЛіМе». А таксама задаў яму яшчэ некалькі пытанняў. На мае лісты хутка прыйшлі і два адказы.



**Генадзь Кісялёў:**

**«Я прачытаў усё, што ўдалося адкапаць у друку, і напісаў артыкул. І больш да Янука Дарашкевіча не вяртаўся. Ёсць, праўда, у мяне яшчэ выразка з беластоцкай беларускай «Нівы»**

*Лісты Генадзя Кісялёва*
*29 ліпеня 2003 года*
*Шаноўны Сяргей!*

*Сардэчна дзякую за добрыя, прыхільныя словы. Ваша імя, канечне ж, мне добра вядомае. Сустракаў дзясяткі Вашых публікацый, найперш па краязнаўству Слонімшчыны і шырэй. Дарэчы, не так даўно ў «ЛіМе» чытаў Вашу зацемку, помніцца, пра кнігу Сыракомлі з дарчым надпісам. Тады ж па свежых слядах у нашай акадэмічнай бібліятэцы з дапамогай Памятнай кніжкі Мінскай губерні на 1860 год я расшыфраваў указанае на рэпрадукцыі імя настаўніка, здаецца, Пінскай гімназіі. Адразу ж хацеў Вам паведаміць, але не ведаў Вашага адраса, некуды паклаў выразку з Вашай публікацыяй і сваю выразку. І цяпер не магу знайсці ні таго, ні другога. Калі Вы прышлеце мне ксеракопію публікацыі ці хаця б нагадаеце бліжэй, пра што там гаворка, я Вам паведамлю свае меркаванні.*

*Што да Янука Д. (Янук Дарашкевіч (1890–1943) — беларускі пісьменнік «нашаніўскага» перыяду), то пра яго я не ведаю больш, чым напісаў у слоўніку «Беларускія пісьменнікі». Гэта было тэрміновае заданне Інстытута літаратуры, дзе я працую, — напісаць такі артыкул для слоўніка. Часу адводзілася няшмат. Я прачытаў усё, што ўдалося адкапаць у друку, і напісаў артыкул. І больш да Янука Дарашкевіча не вяртаўся. Ёсць, праўда, у мяне яшчэ выразка з беластоцкай беларускай «Нівы» з Вашым артыкулам «Прыгадаем Янука Дарашкевіча». Каб скласці зборнік, Вам трэба абавязкова дабрацца да матэрыялаў Цэнтральнай бібліятэкі АН Літвы, ф.21, адз. захавання 83. Цікавая цытата адтуль у кнізе: Хромчанка К. Р. Беларуская мастацкая проза. Мн., 1979. С.47. Поспехаў.*

*З павагай і прывітаннем Генадзь Кісялёў.*

*23 жніўня 2003 года.*
*Шаноўны Сяргей!*

*Шчыра дзякую за дасланую цікавую для мяне кнігу. Буду чытаць-знаёміцца.*

*Што да сюжэта з кнігай У. Сыракомлі, то паводле атрыманай ад Вас ксеракопіі я адразу ж, як спадзяваўся, адшукаў у сваім архіве і выразку з «ЛіМа», і картку са сваёй колішняй нататкай.*

*Дык вось, у Мінску ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы НАН Беларусі ёсць надзвычай рэдкая «Памятная книжка для Минской губернии на 1860 год». На старонцы 37 сярод настаўнікаў Пінскай гімназіі (Пінск уваходзіў у Мінскую губерню) названы «младший учитель географии Иосиф Андреевич Ольпинский. Акурат ён і фігуруе ў надпісе на кнізе Сыракомлі. Больш нічога пра гэтага Ольпінскага або Альпінскага не ведаю. Цікава толькі, што ў «Пінскай шляхце» Дуніна-Марцінкевіча ёсць персанаж Цімох Альпенскі. Альпень або Ольпень — шляхецкая ваколіца паблізу Давыд-Гарадка. Там нібыта і адбывалася дзеянне знакамітай камедыі. Пра гэта прачытаеце ў кнізе Уладзіміра Ліпскага «Я: Праўдзівы аповед пра твой і мой радавод».*

*Трэба разабрацца, ці Сыракомлеў гэта аўтограф. Сітуацыя мне ўяўляецца так. У лістападзе 1860 года Альпінскі памёр. Сярод кніг знайшлі паэму Сыракомлі, нехта з калегаў напісаў на ёй: «Памятка пасля шаноўнага святой памяці пана Альпінскага, настаўніка геаграфіі ў гімназіі ў Пінску. Лістапад 1860 года».*

*Пакуль у мяне ўсё. Жадаю поспехаў у Вашых пошуках і даследаваннях. Ваш Генадзь Кісялёў.*

**Сяргей Чыгрын**

# «У родным слове адгукаецца душа…»

**Так называецца кніга Мікалая Іванавіча Пашкевіча, навукоўца і пісьменніка.**

Ён аўтар навуковых артыкулаў, навукова-метадычных прац для студэнтаў-філолагаў, стваральнік «Рубельскага лексіка-фразеалагічнага слоўніка» і арыгінальнай дакументальна-мастацкай прозы.

Кнігай «У родным слове адгукаецца душа» М. Пашкевіч працягвае ўнікальны творчы вопыт стварэння ў слове жывых воблікаў родных: маці, бацькі, вяскоўцаў, той адметнай дарагой прасторы, якая назаўсёды застаецца ў душы, у сэрцы. Вёска Рубель — непаўторная, прыгожая, ахрышчаная Уладзімірам Караткевічам як «наш Кітай» — паўстае праз слова М. Пашкевіча, які нарадзіўся і вырас тут, зведаў смак і цяжар няпростай сялянскай працы ў вялікай і такой «мужчынскай сям'і» (у бацькоў — сем сыноў і дачка). Воблік роднае вёскі і яе краявідаў з прыгожай, шырокаю рэчкаю Чаквай ствараецца аўтарам кнігі праз прэзентацыю матчынага слова, слова сузямельцаў — рубельцаў-працаўнікоў, азартных рыбаловаў, дасціпных і хуткіх на трапнае слова, жарт, іронію.

У першым раздзеле кнігі, названым «Вяртанне да вытокаў», у нешматслоўных, аднак яркіх і гаваркіх абразках паўстаюць родныя мясціны. Памяццю дзяціннага сэрца, чыстым пачуццём уражлівай душы адкрывае аўтар душу тых мясцінаў, адкуль пачынаецца чалавек, — месца нараджэння, прасторы, у якой асэнсоўвае чалавек сябе і наваколле, сябе і сям'ю, сябе і грамаду. Абразкі-згадкі-малюнкі — гэта аповед пра мінулае і сучаснае Рубля і рубельцаў, пра гісторыю і традыцыі вясковай супольнасці, людзей, якія засвоілі звычай сваіх бацькоў — працаваць, не быць гультаямі, паважаць іншых, быць годнымі — і якія ў традыцыях народнай педагогікі, навукі сваіх бацькоў, імкнуцца выхоўваць дзяцей. З прыхаваным пачуццём суму і шкадавання гучаць шмат якія абразкі гэтага раздзела, бо незваротна знікаюць ці зніклі дарагія сэрцу аўтара многія знакі-вобразы Рубля і яго ваколіцаў: хутары, калодзеж, паром, чайная, малачарня ды, вядома ж, ранейшыя дзіцячыя забавы і гульні…

Гарманічна і самавіта жыве на старонках кнігі роднае матчына слова, слова рубельцаў. Яно здзіўляе сваёй ёмістасцю сэнсу і эмоцый, трапных характарыстык. Гэтае мясцовае, сваё, беларускае слова не згубілася праз гады, яно не толькі стала дзейнай асобай у абразках М. Пашкевіча, але і ягонай душой, што прамаўляе-выяўляецца маміным словам ужо ў асабістых мастацкіх мініяцюрах, а таксама ў паэтычных творах. Невыпадкова ў кнізе ёсць частка, якая мае загаловак «Роднае слова натхняе». Аўтар адкрываецца як мастак, які паказвае багацце жывога народнага слова, у якім — і вобраз, ацэнка, і досціп, назіральнасць, і дарагі ўспамін.

Багаты другі раздзел кнігі — гэта слоўнік рубельскай гаворкі, які ўключае адметныя словы, фразеалагізмы, рэдкаўжывальныя асабовыя імёны і формы, прозвішчы і мянушкі, мікратапонімы. У хуткаплынным часе М. Пашкевічу ўдалося занатаваць і зберагчы дарагое слова, якое чуў з маленства і якое імкліва знікае з ужытку ў гаворцы сучасных рубельцаў, аднак якое захоўвае ў сабе не толькі ўласны вопыт, набытак аўтара. Гэты слоўнік — зберажоная лінгвістычная мазаіка, каштоўная і цікавая для захавання таго пракаветнага вобліку і духу нацыянальнай мовы, што жыве ў народных гаворках. Гэты слоўнікавы матэрыял цікавы не толькі аматарам роднага слова, але і навукоўцам, даследчыкам жывой народнай мовы і беларускай літаратурнай мовы, яе гісторыі. Гэты слоўнік — каштоўны набытак для вывучэння беларускай мовы ў кантэксце іншых славянскіх моў, ён можа зацікавіць еўрапейскія славістаў.

Своеасаблівым дапаўненнем да «Рубельскага лексіка-фразеалагічнага слоўніка» ўспрымаюцца артыкулы М. Пашкевіча, у іх — навуковае асэнсаванне лексікі і фразеалогіі рубельскай гаворкі, прэзентацыя найбольш адметнага і цікавага слова і выразу, асэнсаванне іх эмацыянальна-экспрэсіўнага напаўнення, выяўленне аманімічных і сінанімічных суадносінаў. Фактычны моўны матэрыял стварае добрыя перспектывы для далейшых навуковых росшукаў і высноў як самога аўтара кнігі, так і іншых навукоўцаў.

Гарманічна звязаныя часткі кнігі ствараюць адметную карціну-воблік Рубля і рубельцаў праз жывое і арыгінальнае слова. І гэта выклікае захапленне: слова, зберажонае ў душы і мове аўтара, слова, якое жыве і сёння ў мове рубельцаў, слова, якое запрашае кожнага да павяртання да сваіх вытокаў.

Працяг мастацкай творчасці М. Пашкевіча — у кнізе «Вера». Гэта кніга пра рэальнага чалавека — Сцяпана Данілавіча Кажаноўскага, вясковага «дыпламата», «філосафа», «жыццяведа», жыхара вёскі Рубель. Гэтая кніга — і пра гісторыю, культуру, побыт роднай вёскі. На гэты раз аўтар выяўляецца не толькі як знаўца і захавальнік мовы і культуры сваёй радзімы, але і як таленавіты мастак-апавядальнік, які на аснове ўспамінаў-расповедаў Сцяпана Данілавіча стварыў дакументальна-мастацкую аповесць пра лёс рубельскага доўгажыхара, які прайшоў праз жорсткія выпрабаванні XX стагоддзя. У сваім узросце (94 гады!) Сцяпан Данілавіч вёў нетаропкія гаворкі з аўтарам будучай кнігі, які чуў і разумеў яго, суперажываў



і «жыў» разам з ім радасцю і болем былой маладосці, сталасці і старасці. Менавіта тонкае адчуванне М. Пашкевічам дум, перажыванняў, разважанняў свайго суразмоўніка дазволіла стварыць жывы і псіхалагічна багаты вобраз, намаляваць рэальныя падзеі, рэальных людзей у адпаведнасці з жыццёвай праўдай і адначасна з высокай мастацкай культурай выказвання.

Лёс Сцяпана Данілавіча, пэўна ж, шмат у чым тыповы не толькі ў рубельскіх рэаліях, але і ў больш шырокім кантэксце: нацыянальным, агульначалавечым. Лёс гэтага чалавека, аднак, паўстае на старонках кнігі «Вера» як выразна індывідуалізаваны, бо ў мастацкай тканіне твора жыве праўда фактаў, сітуацый, эпізодаў з жыцця менавіта гэтага палескага вясковага філосафа. Натуральнасць жывога маўлення героя аповесці ствараецца найперш перадачай жывой рубельскай гаворкі ў дыялогах і палілогах. Трэба адзначыць, што жывое маўленне гарманічна ўключаецца ў мастацкую плынь аўтара дакументальна-мастацкай аповесці. Каларыт прыроды Рубля і яго наваколля ствараецца таксама праз увядзенне характэрных мясцовых назваў вуліцаў, урочышчаў, звычаяў. Адметна перадае М. Пашкевіч і тое сацыяльнае размежаванне: мужыкі-шляхта, характэрнае для Рубля і рубельцаў. Каларытна, з адчуваннем унутраных душэўных перажыванняў напісаны старонкі пра каханне, сватаўство і вяселле маладога Сцяпана. Лёс пасылаў яму дзяўчат, якіх звалі Верамі, ды толькі адна з іх стала яму, нягледзячы на тое, што была не «маентніца», адзінай Вераю на ўсё ягонае доўгае і няпростае жыццё.

Цікава і адметна распавядаецца пра побыт палескай вёскі 20–30-х гадоў, у якой існавалі моцныя шляхецкія правілы, няпісаныя законы: маладыя павінны быць «роўняю», «шляхціч жаніўся са шляхцянкай, мужык — з мужычкай». Змаганне за сваё каханне і парушэнне традыцыйных падыходаў да захавання шляхецкага гонару пры заключэнні шлюбу абумовіла і пераадоленне Сцяпанам Данілавічам шэрагу перашкодаў ва ўзаемаадносінах з дарагімі і блізкімі людзьмі. Герой аповесці выбірае каханне, а не «добрую рэзку зямлі», і ў гэтым выяўляецца моц і сіла ягонага характару, воля жыць па шчырасці, без падману.

Большая частка аповесці «Вера» адкрывае трагічныя падзеі: вайну 1941–1945 гадоў. Пра вайну ў лёсе рубельцаў і найперш пра ваенныя дарогі Сцяпана Данілавіча распавядаецца даволі падрабязна, з апісаннем шматлікіх дэталяў, хоць, вядома, шмат што застаецца нявыказаным… Гэта своеасаблівая споведзь, агучаная памяць, якая ажывае з вуснаў апавядальніка і адкрывае не толькі ягоную ўласную дарогу жыцця, але і многіх, хто зведаў ваенныя ліхалецце: палон, фронт, страты родных, сяброў. М. Пашкевічу ўдалося перадаць рэальнасць тых падзей і перажыванняў Сцяпана Данілавіча, удзельніка вайны. І хоць апавяданне вядзецца ад трэцяй асобы, адчуваецца, што сам герой дакументальна-мастацкай аповесці вельмі падрабязна і шмат распавядаў аўтару пра дарогу жыцця ў гады вайны, пра свае ўнутраныя перажыванні, пра асэнсаванне ўбачанага і перажытага на фронце, у шпіталі. Голас апавядальніка тут надзвычай моцны, адчувальны. Відаць, што гэтая суровая праўда засталася ў памяці стойкага рубельца назаўсёды. Аўтару аповесці ўдалося перадаць перажытае Сцяпанам Данілавічам фактурна, эмацыянальна, ён успрымае пачутае не збоку, а знутры, як бы пераўвасобіўшыся ў самога героя-апавядальніка. Гэтаму спрыяе не толькі даволі дэталёвае аўтарскае апісанне месца падзей, удзельнікаў, іх паводзінаў, але і перадача жывых дыялогаў, унутранай мовы. Відаць, што Сцяпан Данілавіч быў таленавіты апавядальнік, ягоная памяць захавала асаблівасці абставінаў, у якіх апынуўся і мусіў выстойваць — на фронце, дзе зведаў страты, дзе атрымаў раненне; у шпіталі, дзе зноў вучыўся хадзіць; у дарозе дахаты і падчас сустрэчы з папялішчам роднае вёскі… Гэтыя старонкі кнігі напісаны надзвычай жыва, эмацыйна, яны адкрываюць унутраны свет Сцяпана Данілавіча-апавядальніка і майстэрства аўтара аповесці, які звязвае ў адзіную плынь тыя нетаропкія, разумна-разважлівыя і эмацыйна-ўзрушлівыя аповеды, якія слухаў, пэўна, не адзін раз, і кожны раз яны дапаўняліся новымі дэталямі.

Цікава распавядаецца і пра пасляваеннае жыццё Сцяпана Данілавіча. І зроблена гэта ў такіх выразных трох частках, загалоўкі якіх вызначаюць сутнасце ў лёсе героя аповесці ў гэты перыяд жыцця: «Хата», «Доўгі рубель», «Службовая дыпламатыя». Гэтыя старонкі адкрываюць характар Сцяпана Данілавіча, моц і сілу ягонага духу, здаровы гумар, назіральнасць, крытычнае стаўленне да падзей, што адбываліся ў Рублі ў пасляваенны час — падчас адбудовы свае хаты, падчас калектывізацыі, а таксама ўжо напрыканцы XX стагоддзя. Каларытна напісаны гэтыя старонкі, з якіх паўстае чалавек з моцным характарам: яго гартавала нялёгкая сялянская праца, вайна, савецкае разбурэнне традыцыйнага ўкладу жыцця, вядзення гаспадаркі. Гонар і годнасць, мудрыя і сумленныя адносіны да чалавека склалі аснову ягонага маральна-этычнага кодэксу. У канцы кнігі паўстае Сцяпан Данілавіч каларытным паромшчыкам на беразе роднае рэчкі і сімвалічна яднае два берагі — былога і сучаснага, мінулага і будучага, ён паўстае яднальнікам не толькі свайго роду — ад свайго дзеда — да сваіх шматлікіх унукаў і праўнукаў, але і яднальнікам традыцыйнага і новага ў жыцці сваіх сузямельцаў, часовага і вечнага.

Каштоўнаю часткаю кнігі з'яўляюцца дыялогі М. І. Пашкевіча са Сцяпанам Данілавічам. Тут чытач пачуе не толькі асобныя рэплікі апавядальніка, моўленыя рубельскай гаворкаю, але і маналогі-разважанні Сцяпана Данілавіча на разнастайныя тэмы. Гэта голас мудрага чалавека, які захаваў веру ў сілу і моц чалавечага духу, веру ў незнікомасць вечных агульначалавечых каштоўнасцяў — сумлення, дабра, справядлівасці, спагады...

Кніга пра лёс рэальнага рубельца адкрывае не толькі гісторыю ягонага жыцця. Праз ягоны лёс адкрываецца жыццё чалавека ў драматычным XX стагоддзі, адкрываецца гісторыя, культура каларытнай палескай мясціны — Рубля, гісторыя і культура беларускага народа. Гэта арыгінальная кніга прозы, якая папаўняе здабыткі беларускай дакументальна-мастацкай літаратуры.

Лёсам суджана быць і жыць цяпер Мікалаю Іванавічу далёка ад роднай «поселі», ля неабсяжнага і таямнічага акіяна, ды ў душы застаецца дарагая мілая Чаква, паўнаводная Гарынь, дарагое матчына слова… І тут, як і раней, запісваецца і назапашваецца яшчэ і яшчэ, бо, будучы душой з роднай зямлёю, думаючы-ўспамінаючы, можна «і будаваць, і араць, і касіць», і плыць паромам…

Няхай светла будзе Мікалаю Пашкевічу ў ягоны юбілейны Дзень нараджэння, няхай будуць новыя кнігі, выдадзеныя ўжо не за ўласны кошт… Гэтых кніг чакаюць не толькі рубельцы… Віншаванне і ўдзячнасць яму, сумленнаму, годнаму чалавеку, зберагальніку роднага слова. У гэтым слове — і подых мінулага, далёкага, і працяг яго… У ім «адгукаецца душа…»

**Марыя Новік**

# HBO і «451 градус па Фарэнгейту»

**На афіцыйным Youtube-канале паўночнаамерыканскай кабельнай і спадарожнікавай тэлесеткі HBO апублікаваны першы эфектны трэйлер чарговай экранізацыі знакавай антыўтопіі — класічнага навукова-фантастычнага рамана Рэя Брэдберы «451 градус па Фарэнгейту» («Fahrenheit 451»).**



Галоўныя ролі ў новай тэлевізійнай адаптацыі атрымалі Майкл Б. Джордан у ролі Гая Мантэгю і оскараўскі намінант Майкл Шэнан — у ролі брандмайстра Біці. Рэжысёрам і сцэнарыстам стужкі стаў Рамін Бахрані.

Па словах стваральнікаў тэлефільма, ён будзе адрознівацца ад зыходнага матэрыялу аўтара, але застанецца «тэматычна выверанымі».

Раман «451 градус па Фарэнгейту», які ўваходзіць у лік самых вядомых твораў Рэя Брэдбэры і сусветнай фантастыкі, упершыню апублікавалі на пачатку 50-х гадоў мінулага стагоддзя ў часопісе «Playboy». У цэнтры рамана — гісторыя грамадства будучыні, дзе кнігі знаходзяцца пад забаронай, а іх чытачоў лічаць ворагамі. Пры гэтым барацьбу з «заразай» грамадства вядуць пажарныя, чыю прафесію вывернулі навыварат: яны не тушаць пажары, як у наш час, а, наадварот, спальваюць «іншадумства».

Нечакана, што ў самым пачатку трэйлера да свежай экранізацыі фільма можна заўважыць, што гарыць кніга «Злачынства і пакаранне» Фёдара Дастаеўскага…

# Украінскі ўдар па расійскай прапагандзе

**Дванаццаць расійскіх выдавецтваў патрапілі пад санкцыі і не змогуць займацца распаўсюджваннем сваёй прадукцыі на тэрыторыі Украіны.**

Пра гэта ў эфіры праграмы «Підсумки» на ObozTV заявіў віцэ-прэм'ер Украіны Вячаслаў Кірыленка.

«Гэта тыя выдавецтвы, якія спецыялізуюцца на антыўкраінскай літаратуры. Цяпер Дзяржкамітэт, СБУ, Мінфін, Мінэканомікі, Мінюст разглядаюць фармальную працэдуру. Потым яна будзе ўнесена ва ўрад, і мы прагаласуем і, думаю, аднагалосна падтрымаем», — распавёў ён. Паводле слоў віцэ-прэм'ера, урад сваю частку працэдуры завершыць да канца лета.

«Я думаю, праз некалькі месяцаў, але не больш. Думаю, што летам пытанне будзе вырашана на ўзроўні ўрада», — падкрэсліў чыноўнік.

В. Кірыленка адзначыў, што гаворка ідзе пра найбуйнейшыя выдавецтвы краіны-агрэсара.

«Не думаю, што спіс будзе павялічаны, паколькі ён і так тычыцца вядомых і буйных расійскіх выдавецтваў. Калі яны патрапяць пад санкцыі, то ўся іх прадукцыя ва Украіне будзе забаронена для распаўсюду. Усе называць не буду, але, напрыклад, «Эксма», «АСТ», гэта значыць выдавецтвы, якія аперуюць шматмільённымі накладамі. З іх добрых 20–30% — гэта антыўкраінская прадукцыя. Напрыклад, «Камандарм Стралкоў», «Зламаны трызубец» і г.д.», — канстатаваў віцэ-прэм'ер.

Акрамя таго, абмежаванні закрануць і электронныя кнігі.

«Ёсць тры парталы і 12 сайтаў, якія прапануюць кнігі ў электроннай форме. Значная частка іх кантэнту накіравана супраць Украіны. У выпадку ўводу санкцый супраць іх, правайдэры проста адключаць іх, і ва Украіне яны будуць недаступныя», — дадаў віцэ-прэм'ер Украіны. Пры гэтым В. Кірыленка падкрэсліў, што мэтай не з'яўляецца зачыніць доступ да расійскай літаратуры.

«Задача ў тым, каб зрабіць немагчымым доступ да нас расійскай прапаганды, якая робіць сваёй мэтай знішчэнне ўкраінскай дзяржавы», — падсумаваў чыноўнік.

Як паведамляў OBOZREVATEL, раней Вячаслаў Кірыленка заявіў, што ў мэтах нацыянальнай бяспекі і ў інтарэсах уласнага кінематографа, Украіна не павінна звужаць «чорны спіс» расійскіх акцёраў і фільмаў з імі.

# Дацкую літкласіку — у міні-серыял

**30 жніўня на экраны Даніі выйшла кінакарціна «Шчаслівчык-Пэр» («Lykke-Per»), якую знялі па матывах аднайменнага літаратурнага шэдэўра дацкага пісьменніка-раманіста Хенрыка Понтапідана (1857–1943), уганараванага Нобелеўскай прэміяй па літаратуры ў 1917 годзе «за праўдзівае апісанне сучаснага жыцця Даніі».**

Стужка была знята «аскараносным» рэжысёрам Білам Аўгустам, для якога здымкі рамана Понтапідана былі даўняй марай.

Гэтая праца дацкага майстра — ужо не першая кінаадаптацыя літаратурнай спадчыны сваёй радзімы: у 1989 годзе ён атрымаў «Оскара» за кінакарціну «Пеле-заваёўнік» — эпічную экранізацыю аднайменнага твора яшчэ аднаго класіка дацкай літаратуры Марціна Андэрсана-Нексэ.

Паколькі кінакампанія «Nordisk film» адстала ад вытворчасці самага вялікага мастацкага праекта тэлеканала TV2, было вырашана паралельна выпусціць мастацкі фільм «Lykke-Per». Таму пашыраная версія рамана ў выглядзе міні-серыяла рыхтуецца да выхаду ў наступным годзе. Трэйлер кінакарціны «Nordisk film» выклаў на афіцыйным Youtube-канале яшчэ месяц таму.

Біл Аўгуст упэўнены, што «Шчаслівчык-Пэр» з'яўляецца не толькі сучаснай і ў той жа час дзіўнай гісторыяй кахання, а таксама, магчыма, адным з самых бліскучых літаратурных раманаў. Галоўны герой Пэр Сідзеніус самарэалізуецца, ён — самаўлюбёны малады чалавек, які, нягледзячы на свае памылкі, выклікае сімпатыю. А яго нявеста Якобэ з'яўляецца адным з самых моцных жаночых партрэтаў, калі-небудзь створаных у сусветнай літаратуры.

Галоўную ролю іграе Эсбен Смед, уганараваны ў лютым мінулага года прэміяй «Shooting Stars» на Берлінскім кінафестывалі, а ў ролі Якобэ знялася Катрын Розэнталь, вядомая па фільме «Fasandræberne», серыялу DR1 «Мост» і серыялу TV2 «Лепш, чым ніколі».

Здымкі міні-серыяла «Lykke-Per» пачаліся ў Капенгагене, а таксама праходзілі ў Ютландыі, Фінляндыі і Аўстрыі.

# Добрае слова — і котцы прыемна…

**Коткі нязменна дэманстравалі шырыню поглядаў і добры літаратурны густ, таму нядзіўна, што многія пісьменнікі атачалі сябе гэтымі незалежнымі і грацыёзнымі стварэннямі.**

Напрыклад, амерыканскі пісьменнік Сэмюэл Клеменс, які вядомы ва ўсім свеце як Марк Твэн, заўсёды любіў котак: яны з юных гадоў былі побач з падшыванцам Сэмам. Калі ён стаў бацькам, пачаў настойваць, каб дзятва і жывёлы раслі разам; распавядаў сваім дочкам, што «браты нашыя меншыя» нашмат цікавей за людзей. Літаратар дазваляў сваім дзяўчынкам шмат часу бавіцца з чарапахамі, вавёркамі, сабакамі і катамі, якія жылі ў іх сядзібе ў Канэктыкуце. Пазней, калі да яго прыйшла слава, Марк Твэн адзначыў: «З усіх божых стварэнняў толькі адно не створана для рабства. І гэта котка. Калі б людзі маглі скрыжоўвацца з катамі, гэта моцна б палепшыла чалавека, але пагоршыла б котку». І стала зразумела, што з усіх жывёлаў ён аддае перавагу коткам, у прыватнасці, «ільвіная» доля ўвагі пісьменніка даставалася кацянятам. Ён тлумачыў: «Я проста не магу супраціўляцца котцы, асабліва вуркатанню. Гэта самыя чыстыя, хітрыя і самыя разумныя стварэнні, якіх я ведаю, за выключэннем жанчыны, якую люблю, вядома».

Сямейства кацінах у Сэмюэля Клеменса пастаянна было вялікае, прычым усе атрымлівалі вельмі арыгінальныя імёны: Апалінарыс, Гекльберы, Сейтан (Сатана), Блэтэрскайт (Балбатун), Сін (Грэх), Зараастр і іншыя. Пры гэтым ён тлумачыў падбор іменаў: «Зусім не з непрыязнасці, а проста дзеля таго, каб навучыць сваіх дзяцей прамаўляць доўгія і цяжкія словы». Родныя пісьменніка ўспаміналі, што калі ён злаваўся, то нават пырхаў як кот, а яго дочкі ў такія перыяды называлі тату «злосны шэры коцік», нярэдка нават спецыяльна правакуючы бацьку на пырханне.

А найбуйнейшы французскі літаратар, паэт, драматург і кінарэжысёр Жан Както быў перакананы, што коткам уласцівая містыка: яны разумеюць у гэтым жыцці значна больш за іншых людзей, паколькі бачаць звычайныя рэчы ў некалькі іншым святле. Тых, хто падтрымлівае гэтую думку, літаратар заклікаў уступіць у створаны ім «Клуб сяброў котак», спецыяльна для якога прыдумаў эмблему і значкі.

Нягледзячы на такое далікатнае стаўленне да котак, гэтыя стварэнні ў творах майстра не згадваюцца, выключэннем можна назваць толькі некалькі паэтычных радкоў…

Нобелеўскі лаўрэат Эрнэст Хэмінгуэй быў слынны і як вялікі «кашатнік». Пачаткам гэтай любові стаў выпадак, калі ў 1935 годзе яго сябар — капітан Стэнлі Дэкстэр — прывёз яму пацешнае кацяня пароды мэйн-кун, але з шасцю кіпцюрамі на лапах (такіх катоў лічаць талісманамі маракоў і паляўнічых, а знакаміты амерыканскі пісьменнік і журналіст захапляўся гэтымі заняткамі).

Да гэтага выпадку літаратар любіў небяспечныя для жыцця забавы і — выпіўку, але пасля таго, як яму падарылі кацяня, у Хэмінгуэя з'явілася і яшчэ адно захапленне. Пухнатага гадаванца пісьменнік назваў Сноўбол, што ў перакладзе азначае Сняжок. Літаратар сказаў: «У ката абсалютная эмацыйная сумленнасць: людзі з той ці іншай прычыны могуць хаваць свае пачуцці, але кот гэтага не робіць».

З таго часу ў сядзібе дзядзькі Хэма каты не знікалі, а да канца Другой сусветнай вайны іх было ўжо больш за дваццаць. Ён наогул не мог працаваць, калі на яго стале каля друкарскай машынкі не вуркатала якая-небудзь з котак. І калі ў 1920-я гады ён пісаў, што яны з жонкай былі настолькі бедныя, што нават «не маглі дазволіць сабе завесці котку», то да канца жыцця яго атачала 57 гадаванцаў — кацінае царства! Ды і сапраўднымі гаспадарамі ў яго доме заўсёды былі менавіта яны.

Паэт (і нобелеўскі лаўрэат) Іосіф Бродскі прызнаваўся Людміле Штэрн: «Звярні ўвагу — у котак няма ніводнага непрыгожага руху». Яго таксама з ранняга ўзросту атачалі гэтыя стварэнні. У хлопчыка жыла котка Маруся, з-за якой ён пачаў цягнуць у некаторых словах галосныя на каціны манер: «Мяса было адным з такіх слоў, і да маіх пятнаццаці гадоў у нашай сям'і стаяла суцэльнае мяўканне. Бацька быў да таго схільным, і мы пачалі зваць і абыходзіцца адзін з адным як «вялікі кот» і «маленькі кот»».

Пражываючы з бацькамі ў Ленінградзе ў камунальнай кватэры «Паўтары пакоі», ён таксама трымаў ката, прычым паказчыкам павагі паэта да госця было пытанне: «Хочаце, я пабуджу для вас ката?».

Калі Бродскі быў вымушаны з'ехаць з СССР і пачаў жыць у ЗША, яго пастаяннымі спадарожнікамі сталі жонка Марыя і кот Місісіпі. Пётр Вайль пісаў, што пісьменнік і Місісіпі не расставаліся, таму жонка так звала іх на абед: «Гэй, каты, ідзіце сюды!».

Скандальна вядомы амерыканскі аўтар, пісьменнік і паэт Чарльз Букоўскі таксама быў неабыякавы да сямейства кацінах: яго любоў да котак амаль пераўзыходзіла схільнасць да выпіўкі ці сэксу…

**Старонка падрыхтавана паводле матэрыялаў Gazeta.ua, prostokniga.com.ua, novostiliteratury.ru і Newsru.ua.**

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# Нечарговая пятая: сесія мужнасці

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Нечарговая пятая сесія Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання адбылася 24–25 жніўня 1991 года, на ёй абмяркоўваліся важнейшыя пытанні. Такіх сесій у Вярхоўнага Савета было шмат, але менавіта нечарговая пятая назаўсёды ўвайшла ў найноўшую гісторыю нашай краіны.**



**Дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання. Побач з Зянонам Пазняком — Яўген Новікаў.** Крыніца: vytoki.net

Некалькі гадоў таму сённяшні дэкан аднаго з факультэтаў БГУ, а па сумяшчальніцтве — трохі падзабыты Лукашэнкаўскі ідэолаг Вадзім Гігін у адным са сваіх артыкулаў сцвярджаў, што 3 ліпеня — адзіны «правільны» дзень незалежнасці Беларусі, і што яго перанос з 27 ліпеня — быццам бы акт гістарычнай справядлівасці. Гігін сцвярджаў, што наданне Дэкларацыі Вярхоўнага Савета аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі сілы канстытуцыйнага закону ўвогуле не вартае ўвагі і, маўляў, не трэба з гэтай нагоды глытаць архіўны пыл. Але гэта не так. Пра тыя славутыя дні жніўня 1991 года трэба ведаць. Пра гэта трэба памятаць.

## Павестка дня

Пасля паразы жнівеньскага путчу не кожны, напэўна, разумеў, што да скону СССР засталіся лічаныя месяцы, аднак кожны адчуваў, што Савецкі Саюз больш ніколі не будзе такім, як раней. Партыйнай і дзяржаўнай наменклатуры БССР было пра што задумацца: у папярэднія месяцы лета яна імкнулася авалодаць сітуацыяй, зацвердзіць антыдэмакратычныя законы.

24 жніўня 1991 года ў Мінску пачала працу нечарговая пятая сесія Вярхоўнага Савета. Адным з першых з палымянай прамовай выступіў дэпутат ад апазіцыі БНФ Валянцін Голубеў, які павіншаваў жыхароў рэспублікі з правалам камуністычна-фашысцкага путчу.

Словы словамі, але трэба было працаваць. Першы намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч агучыў павестку дня. Яна складалася з чатырох пунктаў: 1) аб бягучым моманце (аб адказнасці службовых асобаў, арганізацый і дзяржаўных структур за падтрымку ГКЧП; 2) аб артыкуле 72 Канстытуцыі БССР, які прадугледжваў наданне законам БССР першачарговай моцы; 3) аб дэпартызацыі і маёмасці КПСС-КПБ; 4) аб перападпарадкаванні МУС і КДБ пад юрысдыкцыю рэспублікі.

Апазіцыя БНФ абрынулася на Шушкевіча з рэзкай крытыкай, бо яе патрабаванні не былі ўключаны ў павестку. Голубеў спытаў, чаму ў павестцы адсутнічаюць пытанні аб забароне кампартыі, аб нацыяналізацыі яе маёмасці, а галоўнае — аб наданні Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце статусу канстытуцыйнага закона.



**Мітынг на плошчы Незалежнасці ў Мінску 25 жніўня 1991 года.** Крыніца: vytoki.net



**Сябра БНФ Віктар Івашкевіч на мітынгу супраць ГКЧП. Мінск, 25 жніўня 1991 года**

Дэпутат ад апазіцыі БНФ Яўген Новікаў заявіў, што Шушкевіч прадэманстраваў вяршыню «политического лицемерия». Новікаў абвінавачаў Шушкевіча ў тым, што той «заложил возможность революционных и кровавых событий».

Шушкевіч, у сваю чаргу, заявіў Голубеву, што наданне такога статусу Дэкларацыі будзе выглядаць «бязглуздзіцай», бо шэраг палажэнняў Дэкларацыі ўваходзіць у супярэчнасць з Канстытуцыяй БССР 1978 года.

Шушкевіча падтрымаў старшыня камісіі Вярхоўнага Савета па заканадаўстве Дзмітрый Булахаў, які назваў прапанову БНФ аб наданні Дэкларацыі «сырой и не выверенной». Большасць дэпутацкага корпуса паступіла адпаведна. Пытанне аб канстытуцыйным статусе не было ўключана ў павестку дня.

Вядомы дэпутат Віктар Ганчар назваў працу сесіі «обстановкой идиотизма» і прапанаваў вырашыць пытанне пра прыняцце Канстытуцыі: скараціць колькасць чальцоў Канстытуцыйнай камісіі да 10–15 чалавек (камісія налічвала больш за сто чальцоў), надаць ёй надзвычайныя правы і пачаць нарэшце займацца праектам новай Канстытуцыі.

Дапамагла палымяная прамова лідара БНФ Зянона Пазняка, які назваў Расію імперскай краінай, дзе кіруе бандыцкі крымінал. У выніку пытанне аб наданні Дэкларацыі статусу канстытуцыйнага закона было ўключана ў парадак дня.

Адначасова дэпутаты выключылі з павесткі дня пытанне пра Саюзны дагавор. Пасля правалу путчу яно губляла ўсялякі сэнс. Хаця, напрыклад, Аляксандр Лукашэнка заклікаў да іншага. Дэпутат лічыў, што Саюзны дагавор — важны: «Суверенитет — это кость, которую нам бросают, в результате мы можем быть отвергнуты Горбачёвым и Россией, окажемся на задворках формирования новых органов управления Союза».

## Чарга Дземянцея

Жнівеньскія падзеі не маглі не закрануць галоўную асобу краіны — старшыню Вярхоўнага Савета Мікалая Дземянцея.

Апазіцыя БНФ і шмат іншых дэпутатаў справядліва вінавацілі Дземянцея ў падтрымцы ГКЧП. Супраць яго выступілі народныя дэпутаты Генадзь Карпенка, Віктар Ганчар, Аляксандр Лукашэнка і іншыя. У выніку Дземянцей выказаў жаданне пайсці на пенсію. Яго выправілі ў адстаўку простым электронным галасаваннем.

## Правучылі Малафеева

25 жніўня 1991 года на нечарговай пятай сесіі слова ўзяў галоўны партыйны бос Анатоль Малафееў. Аднак здарылася нечаканае. Дэпутаты ад апазіцыі БНФ не далі яму слова і літаральна штурханулі з трыбуны.

Супраць Малафеева выступіла дэпутатка ад апазіцыі БНФ Галіна Сямдзянава. Гэтая прыгожая і мужная жанчына заткнула рот кіраўніку камуністычнай партыі.

## Грозная камісія

Дэпутаты вырашылі пакараць тых, хто, на іх думку, быў лаяльным да ГКЧП. Парламентарыі стварылі камісію Вярхоўнага Савета па ацэнцы дзеяннаў чальцоў ГКЧП і грамадска-палітычных аб'яднанняў, органаў дзяржаўнай улады, службовых асоб і грамадзян, што падтрымалі путчыстаў. Камісію ўзначаліў дэпутат ад апазіцыі БНФ Ігар Пырх.

27 жніўня 1991 года Прэзідыум Вярхоўнага Савета зацвердзіў спецыяльную пастанову аб часовай камісіі, якая атрымлівала даволі шырокія паўнамоцтвы: мела права «привлекать» да сваёй працы «народных депутатов всех уровней, специалистов, должностных лиц и граждан» (за час існавання камісіі да яе працы былі дадаткова прыцягнутыя 25 чалавек), а таксама «незамедлительного доступа к документам любой важности и секретности всех государственных и общественных органов, организаций и учреждений, расположенных на территории республики». Акрамя таго, службовыя асобы павінны былі ўсяляк дапамагаць камісіі, забяспечваць яе чальцоў транспартам.

## Прыструнілі камуністаў

25 жніўня 1991 года Вярхоўны Савет ухваліў пастанову аб часовым прыпыненні дзейнасці КПСС-КПБ на тэрыторыі Беларусі. Апазіцыя БНФ настойвала на канчатковай забароне дзейнасці камуністаў, але Вярхоўны Савет, які быў сам напалову камуністычным, адмовіўся. У выніку была прынята кампрамісная прапанова Шушкевіча наконт часовай забароны.

Праўда, у самым пачатку лютага 1993 года кансерватыўная большасць парламента дамаглася адмены гэтай пастановы. У выніку на Беларусь зноў прыйшоў прывід камунізму.

## Дапамагла Украіна

Галоўнай інтрыгай сесіі мужнасці стала пытанне аб наданні Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце статусу канстытуцыйнага закона. Гэтае пытанне ставілася апазіцыяй БНФ яшчэ на чацвёртай сесіі Вярхоўнага Савета БССР у маі 1991 года. Цікава, што Шушкевіч тады ўстрымаўся, а Лукашэнка прагаласаваў «за». Апошні нават выступіў у парламенцкай «Народнай газеце» з артыкулам «Диктатура: белорусский вариант?», у якім заявіў, што «дальнейшее отрицание нашего суверенитета будет продлением наших мук».

Таму большасць дэпутатаў вагалася: адны былі пад уплывам апазіцыі БНФ, іншыя верылі Булахаву. Аднак у справы ўмяшалася Украіна. 24 жніўня 1991 года яна рашуча абвясціла аб сваёй незалежнасці, што аказала ўплыў на беларускі асцярожны дэпутацкі корпус.

Так, дэпутат Міхаіл Жабрак, які раней даволі скептычна ставіўся да ідэі незалежнасці, заявіў 25 жніўня 1991 года: «Я до вчерашнего дня стоял за обновлённый Союз, но события на Украине заставляют меня сделать заявление: надо принимать этот закон или объявлять себя западным краем в составе Российской Федерации. Другого выхода нет, иначе Беларусь не будет существовать, Белоруссии абсолютно не будет».

Аднак незалежная Беларусь нарадзілася.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. Вакарчук не хоча быць прэзідэнтам?

Украінскі рок-гурт «Океан Эльзи» 24 жніўня даў традыцыйны канцэрт на Дзень незалежнасці краіны. Ад падзеі таксама чакалі адказу на важнае пытанне — ці абвесціць спявак Святаслаў Вакарчук пра свой удзел у выбарах прэзідэнта 2019 года. Пра магчымы ўдзел Вакарчука ў выбарах кажуць ужо трэці год. Прычым стартавы рэйтынг спевака вельмі някепскі. Так ці інакш, лічылася, што ён абвесціць пра сваё вылучэнне ў прэзідэнты менавіта на канцэрце 24 жніўня. Напярэдадні шоў украінскія букмекеры нават прапанавалі рабіць стаўкі на тое, ці варта чакаць такой аб'явы. Прычым, шанцы музыканта падаць ў палітыку яны ацэньвалі з верагоднасцю 50 на 50. Аднак Вакарчук на канцэрце так і не зрабіў чаканай заявы. Хіба што ў перапынку паміж песнямі звярнуўся да гледачоў і сказаў, што сапраўдныя змены пачынаюцца з самога сябе. Зараз дамінуе пункт гледжання, што Вакарчук падтрымае іншага кандыдата. Зрэшты, некаторыя лічаць, што лідар «Океана Эльзи» яшчэ зробіць заяву пра балаціроўку, але пазней.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. Рэгбі могуць забараніць



У Францыі ўсур'ёз абмяркоўваюць перспектыву забароны вельмі папулярнай тут гульні — рэгбі. Казаць пра яе забарону пачалі пасля таго, як 10 жніўня ад сардэчнага прыступу падчас матчу памёр 21-гадовы спартовец. У прынцыпе, падобныя прэцэдэнты мелі месца і раней. Першы выпадак смерці гульца рэгбі падчас матчу датаваны далёкім 1930 годам. Аднак з таго часу рэгбі эвалюцыянаваў у бок яшчэ большай агрэсіі гульцоў. У гэтай парадыгме смяротныя выпадкі на полі, як лічаць спецыялісты, папросту непазбежныя. Адсюль і дыскусіі пра забарону гульні. Хаця з улікам велізарных грошай, якія інвестуюць у рэгбі, наўрад ці варта сапраўды чакаць забароны. Хутчэй за ўсё, абмяжуюцца папраўкамі ў правілы гульні аж да таго, што будзе ўведзены ліміт на агульную вагу чальцоў каманды. Дарэчы, такія дэбаты ідуць і ў іншых краінах. Напрыклад, у Новай Зеландыі ў аматарскім дывізіёне ўжо забаранілі фізічныя кантакты паміж гульцамі.

**Паводле французскай прэсы**

### ЗША. Бонд. Міс Бонд

Як вядома, у здымачнай групе, якая працуе над новай серыяй пра прыгоды славутага шпіёна Джэймса Бонда, адбыўся раскол. Лаўрэат «Оскара», рэжысёр Дэні Бойл адмовіўся рабіць фільм. Версій дзве — супярэчнасці з прадзюсарамі або спрэчка з Дэніэлам Крэйгам, які выконвае ролю Бонда. Так ці інакш, крызіс відавочны, чым імгненна скарысталіся феміністкі. На старонках заходняй прэсы зноў узнятае пытанне пра тое, што вобраз Джэймса Бонда, які разглядае жанчын як аб'ект, не адпавядае крытэрам XXI стагоддзя. Праблему прапануецца вырашыць, зрабіўшы з містэра Бонда міс Бонд. Прапануецца таксама змяніць фабулу будучага Бонда. Замест таго, каб змагацца з пуцінскімі шпіёнамі (такая ідэя закладзеная ў цяперашні сцэнар), шпіёнку мяркуюць накіраваць на барацьбу з сексуальнымі вычварэнцамі ў Галівудзе. Нягледзячы на экстравагантнасць прапановы, нічога выключаць нельга. Апошнія эпізоды пра Бонда не вельмі цікавілі гледачоў, і франшыза відавочна патрабуе перазагрузкі.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ГРУЗІЯ. Моладзь не хоча ісці ў войска

Практычна ўсе назіральнікі адзначаюць імклівую вестэрнізацыю грузінскай моладзі. Аднак гэты трэнд мае і адваротны бок. Усё менш прэстыжнай становіцца служба ў войску. Каб пазбегнуць казармы, прызыўнікі шукаюць шчыліны ў законе. Найбольш папулярным спосабам «закасіць» стаў запіс у святары. Згодна грузінскаму заканадаўству, духоўная асоба не можа быць прызваная ў войска. Як вынік, толькі ў Хашурскім раёне Грузіі са 150 прызыўнікоў, якім прыйшлі позвы, 145 прадставілі даведкі, што з'яўляюцца святарамі. Не менш папулярны спосаб — адмова ісці ў войска па рэлігійных меркаваннях. Так, у Кутаісі падчас прызыву 245 чалавек скарысталіся магчымасцю не служыць у войску — яны запісаліся ў адну з пратэстанцкіх арганізацый. А ў Тбілісі ахвочых стаць вернікамі мясцовай секты «Біблейская свабода» аказалася больш за 1700 чалавек. Праўда, хутка такі спосаб пазбегнуць службы ў войску будзе неактуальны. З 2019 года набывае моц закон, згодна з якім асобам прызыўнага ўзросту, што адмаўляюцца служыць у войску, прапануюць альтэрнатыўную службу — у прыватнасці, у пажарна-выратавальных сілах.

**Паводле грузінскай прэсы**



Фота www.ukrinform.ru

# Геапалітыка і Канстытуцыя

*Алег НОВІКАЎ*

**Увосень Малдова і Украіна збіраюцца ўнесці ў свае канстытуцыі папраўкі, закліканыя не дазволіць краінам збочыць з курсу інтэграцыі ў Еўрасаюз і NATO. Гэта беспрэцэдэнтны выпадак у гісторыі канстытуцыйнага права.**

Не так даўно на Кубе былі ініцыяваныя папраўкі ў мясцовую канстытуцыю. Сярод іншага прапануецца прыбраць параграф пра тое, што кубінскае грамадства імкнецца будаваць камунізм. Да кубінскіх камуністаў дайшло, што палітычны вектар апрыёры не можа быць вечным. А ў постсавецкай зоне ідуць адваротныя працэсы. У Кішынёве і Кіеве дэбатуюць ідэю замацаваць у канстытуцыях імкненне абедзвюх краін стаць сябрамі ЕС. Ва ўкраінскім варыянце таксама гаворка ідзе пра сяброўства ў NATO.

У Малдове ўпершыню пра такую папраўку пачалі казаць у верасні мінулага года ў кіраўніцтве ўрадавай Дэмакратычнай партыі. Пры гэтым ініцыятары спасылаліся на папярэднюю пастанову Канстытуцыйнага суда. Згодна з гэтым рашэннем, КС канстатаваў, што арыентацыя на еўрапейскія дэмакратычныя каштоўнасці — вызначальны элемент канстытуцыйнай ідэнтычнасці Малдовы.

Нягледзячы на тое, што праеўрапейскія партыі маюць большасць у малдоўскім парламенце, праект дасюль буксуе. Прычынаў шмат. Перш за ўсё — беспрэцэдэнтны характар такой папраўкі. Ніводная з 11 усходнееўрапейскіх краінаў, якія сталі сябрамі ЕС, не адзначала ў канстытуцыі намер атрымаць там прапіску. Папраўкі ў законы гэтых краін уносіліся, зыходзячы з практычнай неабходнасці, а не з пажаданняў або фантазій. Менавіта таму на малдоўскіх форумах шмат жартаў наконт таго, што «каб больш не перапісваць канстытуцыю, адразу напішыце, што Малдова — сябар ЕС, або лепш — штат ЗША». Нарэшце, ніхто не ведае, якой будзе сітуацыя праз 15–20 гадоў, калі, паводле разлікаў спецыялістаў, той жа ЕС будзе гатовы раскрыць малдаванам абдымкі.

Віцэ-старшыня малдоўскай праеўрапейскай арганізацыі «Годнасць і праўда» Аляксандр Слусар лічыць, што ініцыятары канстытуцыйнай папраўкі «спрабуюць пусціць пыл у вочы грамадзянам і партнёрам па развіцці». «Еўрапейская інтэграцыя павінна ўкараняцца не словамі і напісанымі паперкамі, а адчувальнымі справамі для кожнага грамадзяніна», — каментуе Слусар. Увогуле, па сэнсе папраўка нагадвае яму артыкул 6 Канстытуцыі СССР 1977 года, які фіксаваў ролю КПСС як кіруючай сілы савецкага грамадства. Менавіта адмена гэтага артыкула была галоўным лозунгам аматараў переменаў у часы перабудовы.

Асобны блок пытанняў выклікала тое, якім чынам практычна рэалізаваць папраўкі. Паводле логікі, за публічнае адмаўленне еўрапейскага шляху Малдовы цяпер будуць саджаць за краты. А калі ўзгадаць, што Венецыянская камісія (орган па канстытуцыйным праве пры Савеце Еўропы) крытычна паставілася да ідэі папраўкі, то сітуацыя падаецца папросту ідыёцкай. Малдоўскі грамадзянін, якога асудзілі за антыеўрапейскія заклікі, можа смела звяртацца ў еўрапейскія судовыя інстанцыі, каб атрымаць апраўдальны вердыкт і патрабаваць ад Кішынёва кампенсацыю.

**Ніводная з усходнееўрапейскіх краінаў не адзначала ў канстытуцыі намер атрымаць прапіску ў ЕС. Папраўкі ў законы ўносіліся, зыходзячы з неабходнасці, а не з пажаданняў або фантазій**

Яшчэ адзін стрымліваючы фактар — пытанне Прыднястроўя. У выпадку канстытуцыйнага замацавання праеўрапейскага курсу Малдовы дыялог з прарасійскімі сепаратыстамі наконт аб'яднання краіны можа закансервавацца надоўга.

Між тым, пакуль малдаване чухалі патыліцы, ідэя пра замацаванне ў Канстытуцыі геапалітычнага азімута спадабалася пяршчыкам Пятра Парашэнкі. Як вынік, у выступе напярэдадні Дня незалежнасці 24 жніўня той паабяцаў праштурхнуць ва ўкраінскую хартыю папраўку, аналагічную малдоўскай.

Пры гэтым украінскім гарантам быў агучаны новы аргумент змены тэксту Асноўнага закона. «Сярод палітыкаў усё больш становіцца жадаючых паставіць пад сумнеў наш выразна выбераны еўрапейскі курс. Асобныя бездакказныя палітыканы малююць неабходнасці вяртання на Усход. Каб ніхто не думаў «віхляць», упэўнены, што гэта павінна быць прамым тэкстам зафіксавана ў Канстытуцыі», — заявіў Парашэнка. Хаця большасць назіральнікаў усё ж бачаць у словах прэзідэнта спробу піяру напярэдадні электаральнай кампаніі.

Паводле тамтэйшага закону, для такіх зменаў украінскаму прэзідэнту неабходна падтрымка канстытуцыйнай большасці ў Вярхоўнай Радзе, якая складае 300 з 450 дэпутатаў. У прынцыпе, набраць такую колькасць, напэўна, можна, але з улікам старту выбарчай кампаніі і нізкага рэйтынгу Парашэнкі план утрымлівае пэўныя рызыкі. Каб не асацыявацца з непапулярным прэзідэнтам, дэпутаты, як гэта ўжо здаралася, могуць сабатаваць прапанову. Пра такую пагрозу зваротнага эфекту папярэджвае Парашэнку выданне «Украінская праўда».

Зрэшты, усё гэта — здагадкі і прагнозы. Лёс ініцыятыў пра канстытуцыйную папраўку мы даведаемся напачатку верасня — пасля таго, як у Малдове і Украіне пачнуцца парламенцкія сесіі.

# Уся ўлада дыяспары!

Алег НОВІКАЎ

**Цікавай асаблівасцю апошніх антыкарупцыйных пратэстаў у Румыніі было тое, што іх актыўнымі ўдзельнікамі сталі румынскія гастарбайтэры — грамадзяне, якія раней выправіліся на заробкі за мяжу, аднак прыехалі падтрымаць акцыі пратэсту.**

Паводле дадзеных ААН, 17% румын працуюць у іншых краінах свету. Асноўная прычына эміграцыі — беднасць і карупцыя, узровень якой лічыцца самым высокім у ЕС. Між тым, зарабляючы пару тысяч еўра на месяц, напрыклад, у ФРГ, можна забяспечыць сваякам на радзіме нармальнае жыццё. У Румыніі сярэдні заробак — 520 еўра.

Пры гэтым працоўныя мігранты з Румыніі не абыякавыя да таго, што адбываецца на радзіме. На выбарах яны традыцыйна падтрымліваюць правыя палітычныя партыі. Менавіта галасы 17% дыяспары спрыялі перамозе правага кандыдата Клаўса Ёханіса на прэзідэнцкіх выбарах у 2014 годзе.

Не прайшла дыяспара і міма нядаўніх працэсаў. За некалькі апошніх месяцаў урад Партыі сацыял-дэмакратаў (PSD) правёў скандальную рэформу. Яе вынікам стала карэкціроўка артыкула, паводле якога кіраўнікоў, функцыянераў, дэпутатаў і палітыкаў, у тым ліку ад кіруючай партыі, раней прыцягвалі да адказнасці за карупцыю. Іншымі словамі, эсдэкі фактычна руйнуюць сістэму незалежных антыкарупцыйных органаў. Гэта і стала дэтанатарам жнівеньскіх пратэстаў, якія актыўна падтрымала замежжа.

Усё пачалося з відэазаклiку, змешчанага ў Фэйсбуку на пачатку чэрвеня румынскім зямляцтвам у Вялікабрытаніі. Потым з'явілася іншае відэа, аўтарам якога быў румынскі палітык Себасцьян Бурдужа, што і сам у свой час працаваў за мяжой. «Трэба падтрымаць дэмакратыю, судовую сістэму і працягнуць інтэграцыю з Еўропай. Прыязджайце дадому, таму што гэта неабходна. Шмат хто кажа мне: цяпер у Румыніі цёмныя часы. Дык прыязджайце — і запаліце святло!» Відэа сталася вірусным ды сабрала амаль два мільёны праглядаў.

Напярэдадні 10 жніўня — дня галоўнай антыўрадавай маніфестацыі ў Бухарэсце, — тысячы румын рушылі на радзіму з розных краін ЕС. Тыя, хто не здолеў прыехаць, арганізоўвалі пікеты пад амбасадамі Румыніі ў еўрапейскіх краінах. У самім жа Бухарэсце менавіта прадстаўнікі дыяспары павялі народ на штурм офіса ўраду. Сёння пратэстоўцы маюць намер працягваць ціск на ўрад і далей.


Фота www.washingtonpost.com


Фота www.rferl.org

**Дыяспары многіх краін Усходняй Еўропы ўплывалі на сітуацыю на радзіме, але апасродкавана. У румынскім выпадку гастарбайтэры ледзь не зладзілі рэвалюцыю**

З'яўленне дыяспары як прыкметнага палітычнага фактару стала для экспертаў сапраўдным сюрпрызам. Дыяспары ў многіх краінах Усходняй Еўропы і раней уплывалі на сітуацыю на радзіме, але, хутчэй, апасродкавана. У румынскім выпадку гастарбайтэры ледзь не зладзілі сапраўдную рэвалюцыю. Нагадаем, што 10 жніўня натоўп паспрабаваў прарвацца праз кардон паліцыі вакол будынка ўрада. Сілы правааxоўнікаў у адказ ужылі слезацечны газ і вадамёты. Больш за 450 чалавек былі параненыя.

Не дзіўна, што феномен румынскай дыяспары актыўна абмяркоўваюць у прэсе. Некаторыя бачаць у эмігрантах нейкіх ідэалістаў — рамантыкаў, якія мараць дапамагчы суайчыннікам пазбавіцца ад язвы карупцыі. Прычым ніякіх уласных інтарэсаў прадстаўнікі дыяспары, маўляў, не маюць.

Іншая частка палітолагаў лічыць, што дыяспара — новы інструмент Захаду для ціску на эліты ў краінах Усходняй Еўропы. Мясцовыя палітыкі, як правіла, карумпаваныя, і ў той ці іншай ступені зацікаўленыя ў суверэнітэце сваіх краін. Найбольш радыкальны варыянт такой мадэлі — аўтарытарная Венгрыя, якой кіруе Орбан. Не дапусціць з'яўлення новых Венгрый, нібыта, прапануецца за кошт арганізаваных дэсантаў гастарбайтэраў — групаў са сваёй ідэнтычнасцю, не звязаных агульнанацыянальнай павесткай дня.

Ёсць яшчэ адна пазіцыя. Яе прыхільнікі заклікаюць не пераацэньваць геапалітычны падтэкст апошніх падзей у Румыніі. PSD заўсёды была лаяльная Захаду. Ніводнага разу, у адрозненне ад Сафіі або Будапешта, Бухарэст не быў, напрыклад, заўважаны ў флірце з Масквой. Эсдэкі нават абяцаюць бліжэйшым часам увесці ў Румыніі еўра. Супрацьстаянне ў Бухарэсце — гэта барацьба старых посткамуністычных кланаў і алігархаў супраць сярэдняга класа, дзе шмат прадстаўнікоў дыяспары.

Прычым дыяспара — гэта былыя румынскія грамадзяне, якія зрабілі кар'еры ў тых краінах, куды яны прыехалі. Гэта студэнты еўрапейскіх універсітэтаў, людзі з добрымі прафесіямі, асобы, якія скарысталіся спрыяльным момантам, сталі дробнымі прадпрымальнікамі. Сёння ўнутры дыяспары папулярная ідэя — прыйшоў час вяртаць сабе краіну і будаваць Румынію па сваіх стандартах.

У чым згодныя прыхільнікі ўсіх версій, дык у тым, што дыяспары сапраўды становяцца важным палітычным суб'ектам ва Усходняй Еўропе. Для гэтага ў іх ёсць уся неабходная атрыбутыка — камунікацыі, палітычная матывацыя, рэсурсы, мабільнасць. Называюцца і краіны, дзе патэнцыйна магчымы наступны Майдан гастарбайтэраў. Сярод іх Малдова і, у перспектыве, Украіна.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Мехрыбан Аліева



Жонка прэзідэнта Азербайджана і віцэ-прэзідэнтка 26 жніўня адзначыла 54-ты дзень нараджэння. Дата, быццам, не круглая, але чамусьці ўвесь азербайджанскі афіцыёз кінуўся апяваць першую лэдзі.

Якія толькі словы пры гэтым ні гучалі! Мехрыбан называюць ідэальнай жанчынай нашай эпохі, другой Джакондай, эталонам прыгажосці і элегантнасці, прыкладам сапраўднай мусульманкі. Адначасова Мехрыбан Ханум (так называюць жонку Аліева) прыпісваюць самыя незвычайныя дасягненні. Напрыклад, рост эканомікі краіны ў 3,2 разы з 2004 года, поспехі айчыннага спорту і, нарэшце, тое, што Баку, нібыта, стаў самым прыгожым горадам у былым СССР.

Цяжка сказаць, што стаіць за такім шквалам ліслівасці. Так ці інакш, на памяць прыходзіць рашэнне партыі «Мір дэмакратычнага Азербайджана». У 2013-м палітсіла вылучыла Аліеву кандыдатам у прэзідэнты. Пры гэтым адначасова вядучая ўрадавая партыя «Малады Азербайджан» вылучыла ў прэзідэнты яе мужа.

Сітуацыя вонкава падобная на кур'ёз, калі не ўлічваць той факт, што партыя «Мір дэмакратычнага Азербайджана» блізкая да спецслужбаў. Магчыма, ім даручылі асцярожна закідваць у розум азербайджанцаў ідэю пра патэнцыял Мехрыбан падмяніць мужа на пасадзе гаранта. Цяперашняе ўсхваленне — працяг рэалізацыі плана раскруткі Мехрыбан.

### Фразер Анінг



Сенатар Аўстраліі трапіў у скандал, які зараз спрабуюць улагодзіць улады краіны.

У сваім выступе, прысвечаным праблеме міграцыі, сенатар перайшоў усе межы этыкету. «Мы, як нацыя, маем права настойваць на тым, каб тыя, каму дазволена прыязджаць сюды, у асноўным адлюстроўвалі гістарычную еўрапейска-хрысціянскую кампазіцыю аўстралійскага грамадства», — заявіў выступоўца.

Зыходзячы са сказанага вышэй, Анінг прапанаваў цалкам забараніць іміграцыю мусульманам. Пры гэтым сенатар ужыў выраз «канчатковае рашэнне», якое нацысты выкарыстоўвалі падчас Халакосту.

Каб неяк ратаваць імідж аўстралійскай дэмакратыі, усе, хто толькі можа, дружна кінуліся асуджаць Анінга. Адпаведныя крытычныя рэзалюцыі ўжо прынялі дзве палаты парламента, прэм'ер, арганізацыі нацыянальных меншасцяў. Далей за ўсіх пайшла мясцовая партыя «Зялёных», якая прапанавала ўвесці цэнзуру на выступы Анінга ў сенаце і ўвогуле пазбавіць яго акладу.

Што тычыцца самога Анінга, дык ён упарта адмаўляецца прасіць прабачэння за свой спіч. Самае цікавае, што колькасць мусульман у Аўстраліі не дасягае і пяці працэнтаў, аднак вакол гэтай абшчыны разгараюцца жарсці.

### Сара Вагенкнехт



Адна з лідарак нямецкай партыі «Левыя» запусціла праект «Aufstehen», старт якога нечакана апынуўся вельмі паспяховым. Яшчэ да афіцыйнага старту праекта на Facebook каля 60 тысяч чалавек выказалі гатоўнасць узяць удзел у яго мерапрыемствах.

Сутнасць «Aufstehen» у тым, каб стварыць агульныя дыскусійныя платформы прадстаўнікоў вядучых левых партый ФРГ — эсдэкаў, «Зялёных» і «Левых». Задача гэтых сустрэч — не ў стварэнні новай незалежнай левай партыі, а ў тым, каб вярнуць «Левым» сваіх выбаршчыкаў. Яна гучыць вельмі правакацыйна, паколькі многія былыя прыхільнікі сёння аддаюць перавагу правым папулістам з партыі «Альтэрнатыва для Германіі». Каб вярнуць гэты сегмент электарату пад левыя сцягі, трэба ўздымаць праблему мігрантаў, што супярэчыць ідэалагічным аксіёмам левага руху.

І, здаецца, Вагенкнехт гатовая ігнараваць шаблоны. Нядаўна палітык падкрэсліла, што ў яе і яе руху няма «рэсентыменту» ў адносінах да іншаземцаў. Так ці інакш, «Aufstehen» здольная ператварыцца ў платформу для левай кааліцыі, якая можа паўстаць па слядах наступных выбараў. Прычым, з улікам нізкай папулярнасці ўраду Меркель, чакаць выбараў можна вельмі хутка.

Цікава, што лідары ўсіх левых партый Германіі асудзілі праект Вагенкнехт, якая яўна мае амбіцыі канцлера.


Барнаул


Мурманск


Цаліна

# Беларусы — раскіданыя

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

**Неяк я спынілася на ноч у манастырскім гатэлі Вільні. Пазнаёмілася з дзяўчынай. Яна коратка расказала пра сябе: з сям'і ваеннага, жыла ў Літве, нядаўна перабралася ва Украіну, дзе памёр бацька-лётчык. У Луганск ездзіць да дзядулі, удзельніка вайны. Прагучала фраза, што дзед лічыць сябе ўкраінцам, бо доўга там жыве.**

**Гэтае «лічыць» мяне зацікавіла, і я занялася ўлюбёнай справай — роспытамі. Адкуль дзядуля родам? З Гомельшчыны. А бабуля? З Магілёўскай вобласці. Аднекуль пераязджалі? Не, іх продкі там жылі здаўна.**

Прыехалі! Забыцца, дзе табе абразалі пупок, — як гэта падобна на беларуса! Тлумачу дзяўчыне: «Твой бацька быў чыстым беларусам, а ты — беларуска напалову». Глядзіць няўцямна блакітнымі вачыма — першы раз пачула. Перадавай, кажу, прывітанне дзеду, і скажы, што радзіму змяніць можна, а нацыянальнасць не мяняецца.

Прыклад другі, з аўтабіяграфіі сусветна вядомага віяланчэліста. Піша ён пра сваю габрэйскую радню з Ваўкавыскага раёна, што пацярпела ад нацыстаў. Адну дзяўчынку падчас акупацыі схавалі ў сябе «рускія суседзі», а потым «рускія паліцаі» яе знайшлі і забілі. Ясная справа, з радзімы звезлі малым, потым Масква, эміграцыя ў ЗША… Новае асяроддзе, доўгае жыццё, багатае на падзеі і выпрабаванні. Але каб так заблытацца ў геаграфіі! Каб такую мець таўконку ў разумнай галаве!..

Студэнткаю я на Лагойшчыне, дзе тады жыла, запісвала народныя песні. (Заданне такое мелі на першым курсе.) Бабка Паўліна іх шмат ведала. Запяяла адну з рускамоўнай лексікай, давялося яе перапыніць: не трэба гэтую, яна руская… Бабка памаўчала і пытаецца: «А тыя — якія?»

Бабцы даравальна, яна непісьменная… І ці толькі яна ў вёсцы не ўсведамляла, на якой мове пяе і гаворыць?

Вёска заўсёды была носьбітам спрадвечнай, аўтэнтычнай беларускасці. Усё беларускае ў ёй няўхільна выцяснялася, пачынаючы з вайны. У першыя тыдні пасля нападу гітлераўцаў вярталіся на бацькоўскія сялібы гараджане, якія паспелі «хапнуць» рускамоўя. У час акупацыі аказалася на нашай зямлі нямала армейскіх акружэнцаў і «засланцаў» — разведчыкаў і дыверсантаў. Разам з мясцовымі партызанамі і партызанамі іх пасля паставілі ў нашых гарадах і раёнах на кіруючыя пасады. Так што гераічная «партызанка» нас добра-такі разбавіла — не горш, чым пасляваенная палітыка стварэння штучнага «савецкага народа».

Успамінае зямляк: «У Гаравых Якубавічах жылі дзве адзінокія сяброўкі, дзеўкі-векавухі Надзя Саўрыцкая і Валя Верамей. Яны часта збіраліся і спявалі. І што мяне здзіўляе: ніводнай беларускай песні ў іх рэпертуары я не чуў. Саратаўскія частушкі, якіясь прыпеўкі, «Вот кто-то с горочки спустился» і да таго падобнае».

Як пераймалі на вёсцы «рускі дух»? Праз радыё, спеўнікі, канцэрты і ад носьбітаў рускай культуры. Бабка Паўліна захавала аўтэнтыку, бо ўсё названае прайшло міма яе.

Перасаджаныя на чужую глебу беларусы лёгка трацілі ідэнтычнасць, лёгка забываліся пра сваё.

На прыкладзе якубаўскай сям'і бачна, як раствараліся на бясконцых расійскіх прасторах нашы людзі.

Мікалай Емяльянавіч Верамей, старэйшы сын згаданай Паўліны, пакінуў дом у 1939 годзе, мабілізаваны ў Чырвоную Армію. Пасля ранення пад Смаленскам яго лячылі ў шпіталях Масквы, Казані, Іркуцка. У пачатку 1943-га трапіў у склад запаснай брыгады ў Іркуцкую вобласць, дзе служыў начальнікам вучэбнага штаба, удзельнічаў у баях з Японіяй. Узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны І ступені. Дэмабілізаваўся ў 1948-м у званні капітана.

Беларус ажаніўся з медсястрой Нінай, якая яго лячыла. Пасялілася маладая сям'я на радзіме жонкі — станцыі Дуван Башкірскай АССР. Мікалай з 1949 года працаваў выкладчыкам фізкультуры, ваенруком, трэнерам па лыжах у мясцовым сельскагаспадарчым тэхнікуме. 12 яго выхаванцаў атрымалі званне майстроў спорту. Працу сваю вельмі любіў, яго паважалі падапечныя, ды на пенсію выйшаў ранавата: адкрыліся старыя раны.



Башкірыя

Ніна Чыгвінцава таксама была старшай у шматдзетнай сям'і. З яе біяграфіі мы даведваемся пра бурныя падзеі на башкірскай зямлі пасля рэвалюцыі: кулацкае паўстанне, у якім ледзь не загінулі бацькі, голад 1930-х гадоў… Дзед, Мацвей Дзмітрыевіч, скончыў сельгасшколу і адзін з першых у Башкірыі атрымаў ордэн Чырвонага Працоўнага Сцяга. (Паводле Сяргея Верамея.)

Тыповая для простага беларуса гісторыя… Жыў, гадаваў дзяцей, урастаў у іншы соцыум… На Беларусь не прыязджаў ні адзін, ні з блізкімі. Перапіска не заладзілася, бо з-за непісьменнасці родзічаў не было каму з ім ліставацца. Пра смерць маці хутчэй за ўсё не паведамілі.

Пасля 80-ці гадоў заныла ў ветэрана сэрца. На Дзень Перамогі, скарыстаўшыся бясплатным праездам, цягніком падаўся ў Мінск. Пазнаёміўся з пляменнікамі, расказаў пра сябе. І што мяне здзівіла — усё пра ўсіх памятаў! Адыходзячы на службу, прыхапіў з сабой фотакарткі бацькі, братоў і сясцёр, пранёс іх праз вайну, захаваў да канца дзён (як адчуваў, што ніколі больш іх не пабачыць). На адным здымку — малады бацька Емяльян. З шашкай — значыць, кавалерыст царскай арміі. Загінуў, меркавана, у Курапатах. Вёска знаходзілася паблізу старой польска-савецкай мяжы, дзе ўсіх пагалоўна мужчын забіралі і знішчалі як «польскіх шпіёнаў».

А колькі беларускай моладзі назаўсёды з'ехала на цалінныя землі?

Яскравы прыклад — другі сын Паўліны, Валодзя, якога мясцовыя звалі Палкоўнікам. Ён збудаваў у Якубавічах хату пры гары — балазе, умеў сталярыць. Паддаўшыся агітацыі, сам праехаўся ў Казахстан, агледзеўся, потым забраў сям'ю. Як там жылі — звестак нуль. Даведаліся толькі, што памерла жонка, Цімохава Волька. Ні ён, ні дзеці болей не абзываліся, нітачка роднасці была абарваная.

Меншую Паўлініну дачку, чарнявую, прыгожую Яніну, занесла ў горад Нікель, што ля Мурманска. Трохі пісала, прыязджала раз на пяць гадоў, пакуль, зноў жа, сувязь не перапынілася. Ніхто не ведае даты смерці і месца пахавання, лёсу яе сына.

Яшчэ адна дачка, Надзя, выйшла за партызана са спецатрада «Дзімы» Пятра Трашкова (імя гэта можна знайсці ў сувязі з ліквідацыяй Кубэ — падрыўнік перадаваў міну Марыі Осіпавай і вучыў ёю карыстацца). Пераехалі ў Гродна, са сваімі кантактавалі рэдка. Такім чынам дома засталася адна замужняя дачка Каця, і бабуля гадавала яе пяцёх дзяцей.

Заўважце: у гэтай сям'і ніхто нікога не шукаў. Крэўныя сувязі беларусаў лёгка рвуцца пры ўсталяванні адлегласці — нават родныя браты і сёстры становяцца як чужыя. Што ўжо казаць пра родзічаў другой, трэцяй стрэчы! Такая з'ява наводзіць на роздум і патрабуе свайго асэнсавання.

Агітацыя за асваенне цалінных земляў ішла праз парткамы і райкамы камсамола. На дзяржаўным узроўні ствараўся арэол рамантыкі, гераізаваўся намер кінуць усё і падаца на край свету будаваць светлае будучае. «Вьётся дорога длинная, Здравствуй, земля целинная…» Па-рознаму складаліся лёсы, але дамоў вярталіся нямногія.

У 1958 годзе выправіўся ў Казахстан па камсамольскай пуцёўцы і Дзмітрый Лявончык. Умовы былі вельмі выгаднымі: бясплатны праезд туды і назад, 50% зарплаты па месцы ранейшай працы плюс усё, што заробіш. Трапіў на какчытаўскі элеватар. Спалі проста ў зерняховішчы на драўляных насцілах, працавалі пазменна па 12 гадзін у суткі. Элеватар не спраўляўся чысціць і сушыць зерне, яго ссыпалі ў бурты. На бурты выпадаў снег, тады зерне прэла, гінула. «Бесгалкоўшчына, — каментуе Дзмітрый Дзмітрыевіч. — Замест таго, каб падымаць Расію, пракладваць дарогі, яны разорвалі выпасы казахаў».

Я спытала, хто з ім працаваў увесь гэты час. «У адной брыгадзе былі эстонцы, пензенцы і мы, камсамольцы з Мінска і Барысава. Жылі дружна. Ніводнай бойкі за чатыры месяцы, ніводнай крадзяжы. Усе нашы заробленыя грошы ляжалі ў незамкнёных чамаданах. Усе размаўлялі па-руску, ніхто тэму нацыянальнасці не кранаў».

Вярнуўшыся, Лявончык вывучыўся ў аэраклубе на лётчыка… і зноў узяў курс на Какчытаў. Спадабалася яму там. Скончыў фізфак Карагандзінскага педінстытута, меў сям'ю, прэстыжную пасаду і прыстойны заробак… Праз 20 гадоў кінуў усё і вярнуўся дадому, на Беларусь. Чаму? «А на радзіму пацягнула», — такім быў кароткі адказ.



Караганда, вул. Леніна

# па свеце

Не ўсё сказаў Лявончык. У яго былі непрыемнасці на асабістым фронце. Такім чынам, ведаю ўжо два выпадкі, калі беларусаў «цягне» на радзіму: а) калі смерць на парозе; б) калі бурыцца сям'я.

Уся дзяржаўная палітыка Савецкага Саюза скіроўвалася на перамешванне этнасаў у адным вялікім плавільным катле. Прыкладаў далёка шукаць не трэба. Мой брат Мікалай Каржанеўскі ў вучылішчы пры Светлагорскім хімкабмінаце набываў спецыяльнасць электраслесара. У сярэдзіне 1970-х на камбінаце адбылося скарачэнне выбворчасці, выпускнікам прапануюць на выбар... Барнаул на рацэ Об і Балахова на Волзе. «Па жаданні, — падкрэсліе брат. — Ніхто сілком не прымушаў». Выехалі сто чалавек з выпуску — тры групы.

«Ніхто не ведаў, дзе гэты Барнаул. Думалі, што едзем «на юг», бо гэта ж Паўднёвая Сібір. Выбраліся ў лёгкіх плашчыках, а праз трое сутак выйшлі з вагонаў у снежную буру, якая там завецца пургою. Інтэрнатаў не хапала, і нас часова засялілі ў жаночы».

Практыку беларусы праходзілі на хімкамбінаце, дзе выпускалі капронавыя ніці, з іх выраблялі тканіну. Стаяў ён на беразе ракі Об. Туды ж, натуральна, ішлі забруджаныя сцёкі. Халодная і бурная гэтая Об, бо сцякае з алтайскіх леднікоў. Алтайскія горы — маладыя, гэта не Урал, што пераедзеш і не заўважыш...

Клімат там кантынентальны: 1 мая яшчэ гурбы на вуліцы, а 9-га ўжо сапраўднае лета. Роўна да 1-га верасня. Каландзінскі стэп, землі цалінныя: па чыгунцы едзеш, як па моры — толькі пшаніца іграе хвалямі...

Насельніцтва стракатае: беларуская дыяспара (з ткачыхамі ўключна), цэлы інтэрнат карэйцаў (невядома якога паходжання), нямецкія вольныя пасяленні, гарадок былых зэкаў на пасяленні, інтэрнат глуханямых (гэта, як вы разумееце, не нацыянальнасць). На вуліцах можна было бачыць карэнных жыхароў — горцаў з кінжаламі і баранамі, яны (горцы) смажылі шашлыкі. Наколькі я разабралася, гэта былі прадстаўнікі карэннага паўночнаалтайскага этнасу.

З карэйцамі беларусы паладзілі, каштавалі іх вострыя стравы. З мясцовымі не мірыліся. Здараліся такія заварушкі, што ў горадзе спыняліся трамваі. Пасля заключылі мір і пачалі ваяваць большымі суполкамі — раёнамі.

У якасці сямейнага анекдота помніцца гісторыя пра воўчую даху. Двухбаковае футра, дзе мех і знутры, і звонку, брат купіў на мясцовай барахолцы за горадам. Надта цёплая рэч, адно кепска: ад хлопца шарахаліся коні, а ў трамваі даха невыносна патыхала псінай.

Па завяршэнні практыкі брат атрымаў чырвоны дыплом і яшчэ паўтара гады працаваў на камбінаце, пакуль не ўзялі ў армію. Усю службу адседзеў у ракетнай шахце ў Маскве. Адслужыўшы, вярнуўся да бацькоў у Плешчаніцы. У адваротным выпадку наша маці гэтаксама магла больш не ўбачыць сына, як не пабачыла сваіх Паўліна Верамей.

Многія хлопцы з таго выпуску, адслужыўшы, павярталіся назад у Барнаул, дзе і аселі.

Мікалая Кавэцкага з Янушкавічаў служба занесла ў Запаляр'е, адкуль на радзіму цягнула неадольнай сілай. Служыў ён пры авіяпалку ў Мурманску. Суровы край, дзе паўгода зіма, хлопцу спадабаўся. Зачапіўся за разанскую дзяўчыну, скончыў тэхнікум. Там прайшло ўсё сталае жыццё.

Нарадзіўся Кавэцкі ў вайну, рос сіратою. Бацьку-партызана, як расказвала маці, у лесе падстрэлілі яго ж таварышы. Памятаюць Колю як «небальшэнькага і крэпенькага». Характару быў лёгкага, апекаваўся малодшымі зводнымі сёстрамі. Са школы займаўся спортам, быў капітанам зборнай па валейболу. Пакуль асвойваў будаўнічую спецыяльнасць у Мінску, займаўся скокамі ў ваду. Дадому дабіраўся на роварах.

З Мурманска наведвацца часта ён не мог: авіяпералёты заўжды былі нятаннымі. Чыгункай пасылаў будматэрыялы ў кантэйнерах на рамонт хаты. Прывёз неяк на Беларусь жонку — пазнаёміць з блізкімі, паказаць сцежкі дзяцінства. Малую дачушку браў з сабой на возера. Сам з даўнім сябрам млеў у цянёчку ды пацягваў піва пад сушаную рыбу, а іх дзеці «плёскаліся ў гразі». Белая, як цявіна ў склепе, дзяўчынка за лета загарэла не горш, чым на поўдні.

Не тое гэтая паездка, не тое іншая скончылася эксцэсам. А ўсё з-за настальгіі па самагонцы! З цукрам тады народ меў праблемы. Купіў Коля ў Лагойску штучнага мёду, дрожджаў, яго дружбак Міша Саўрыцкі заквасіў усё гэта і выгнаў шэсць літраў самагонкі (ён жа весела пра гэта і расказвае). Кавэцкі меў план пранесці фірмовы «прадукт» на борт. Не атрымалася: забаронены груз выявілі і забралі. Гразіліся санкцыямі. Сядзіць панылы мужык у кабінеце начальніка змены, ажно прыбягае сцюардэса: няма пасажыра!

«Дайце хоць стакан выпіць!» — узмаліўся Мікалай. Налілі шклянку — пайшла лёгка. Аджалелі яшчэ адну. Да трапа пабег шчаслівы.

Мне ўспомнілася аналагічная дарожная гісторыя. Грузінскія сябры падчас літаратурнай паездкі ўпёрлі мне на дарогу бутэльку чачы. Мне яна без патрэбы, але ж памятала, што дома свой янушкавец.

Падчас праверкі ў аэрапорце «падарунак» знайшлі і выпісалі мне штраф у 25 рублёў. Сума істотная, адкуль яе ўзяць? У мінскай прыяцелькі грошай таксама не аказалася. І тады міліцыянер сам выпісвае штраф і сам, сваімі грашыма, яго аплочвае. З дому я адправіла ў Тбілісі перавод і запомніла не столькі казус, колькі высакародны ўчынак грузіна.

...На Поўначы, дзе атабарыліся перасяленцы з усяго СССР, Кавэцкі адзін развёў падсобную гаспадарку: трымаў парасят і трусоў. А паколькі вёў працу ў школе, то сябраваў з дзецьмі. Вучні да настаўніка хадзілі як у заапарк, і кожны прыносіў для гадаванцаў штосьці ядомае. Цікава ж не толькі пагладзець, пагладзіць, але і даць ежу з рукі!

Што адметна: Мікалай перацягнуў у Мурманск сястру, якая мела праблемы з мінскай прапіскай. «Ты ў нас пасля гандлёвага тэхнікума лёгка знойдзеш працу», — запэўніў брат. Галя знайшла не толькі працу, але і мужа. Пажылі нядоўга, бо паводзінамі ён нагадваў Галінага бацьку Алёшачку. «Так, як мама, я жыць не буду!» — задоўга да замужжа рашыла для сябе дзяўчына. Не айчымам, а найлепшым бацькам для яе сына стаў афіцэр авіяцыі, выпускнік Маскоўскай ваеннай акадэміі. І трэба ж было зоркам сысціся так, што таго па службе перавялі ў Беларускую акругу — у Мачулішчы! Толькі таму пенсіянерка Галя мае магчымасць сёння ўрабляць бацькоўскі палетак у роднай вёсцы.

Смерць скасіла Кавэцкага на хаду, у 50 гадоў. Перавезці яго цела на бацькаўшчыну не змаглі. Занадта дарога. Куды даражэй, чым проста па білеце. Пахавалі ў скале, папярэдне яе ўзарваўшы. Звычайная практыка ў тых краях...

**Выхадцы з нашага краю менш за іншых трымаюцца адзін за аднаго. Беларусы на чужыне так адаптуюцца да асяроддзя, так зліваюцца з ім, што перастаюць адчуваць сваю повязь з роднай зямлёй. Іх дзеці тым больш не маюць патрэбы ў наведванні месца, дзе раслі бацькі і паміралі дзяды**

Не забыўся пра Беларусь Іосіф Іванавіч Сарока, ураджэнец вёскі Мышкавічы, малодшы брат нашага настаўніка-гісторыка. Яго бліскучая кар'ера пачалася з Адэскага пагранвучылішча, потым скончыў ваенную акадэмію імя Фрунзе ў Маскве. Дзесяць гадоў служыў на мяжы з Кітаем, быў начальнікам пагранзаставы на паўвостраве Даманскі, трапляў у палон... Стаж вайсковай службы — 54 гады. Па такіх біяграфіях здымаюць прыгодніцкія серыялы.

Палкоўнік у адстаўцы, доктар пагранічных навук, прафесар, акадэмік Міжнароднай акадэміі інфармацыі і пагранaлогіі... Дзясяткі ўзнагарод, дзясяткі ганаровых грамат! Сыны — таксама вайскоўцы. Уладзімір мае званне маёра, Алег — палкоўнік, абіраўся ў Дзяржаўную Думу Расіі.

Іосіф Іванавіч не забывае ні родную зямлю, ні родныя магілы. Прыязджаў з сынам на юбілей пляменніцы Святланы, штогод адпачывае ў беларускіх санаторыях.

Прыклад адданасці сваёй малой радзіме паказвае яшчэ адзін адстаўнік — Аляксандр Гілевіч, малодшы брат знакамітага народнага паэта. Вы шмат ведаеце выпадкаў, каб афіцэр, не чакаючы гарадской кватэры, пасяліўся ў вёсцы? Каб бавіў свой час не на рыбалцы, а ў архівах і бібліятэках? Каб на любым месцы службы не хаваў сваёй беларускасці?

Наша гаворка з Аляксандрам Сямёнавічам адбылася ў сценах Нацыянальнага гістарычнага архіву, дзе краязнаўца і патрыёт шукае дакументы па гісторыі сваёй малой радзімы — Гаеншчыны і Лагойшчыны. На маніторы камп'ютара якраз вісеў здымак Янушкаўскай Багародзічнай царквы, што падалося мне добрым знакам. Яшчэ раней атрымала я ад жонкі Міколы Гіля брашурку — даследаванне гісторыі Слабады, напісанае Аляксандрам на аснове архіўных крыніц. У пачатку вёскі знаходзіцца абсталяваны стэнд — быццам маленькі музей пад адкрытым небам для прыезджых ці не абазнаных.

Якія высновы можна зрабіць з усіх гэтых жыццёвых гісторый?

Мне дапамажа адна газетная публікацыя — інтэрв'ю з кіраўніком беларускай дыяспары ў Іркуцку Алегам Рудаковым. У Сібір нямала ссылалі беларусаў у 1930-я гады, а з Заходняй — пасля вайны. 1 сакавіка 1954 года прыбыў першы эшалон з цаліннікамі. Цяпер у горадзе прыкладна 7 тысяч беларусаў, у вобласці — каля 50 тысяч.

«У асноўным філасофія нашага чалавека за мяжой такая: «Я ведаю, што я беларус, але нікому пра гэта не скажу», — гаворыць Рудакоў.

На жаль, гэта праўда. Выхадцы з нашага краю менш за іншых трымаюцца адзін за аднаго. Падобна, што беларусы на чужыне так адаптуюцца да асяроддзя, так зліваюцца з ім, што перастаюць адчуваць сваё карэнне, сваю повязь з роднай зямлёй. Іх дзеці тым больш не маюць патрэбы ў наведванні таго месца, дзе раслі бацькі і паміралі дзяды. Гэта феномен, можа, дапамагае выжываць фізічна, але мяняе ідэнтычнасць: душа зьшачваецца, перастае быць адметнай, самадастатковай, беларускай. Так бывае ў міжасабовых адносінах і ў псіхалогіі называецца зліццём: я такі ж, як ты, я свой у дошку, хіба можна на мяне нападаць?

Адсюль знаёмая папулісцкая песня пра «адзін народ», якая ў апошні час гучаць, дзякуй Богу, перастала. Гавораць ужо асцярожней (з аглядкай на ўкраінскія падзеі), называюць рускі народ «блізкім» і «братэрскім». Назіраецца ўсё ж нейкі (ці не запозначы?) прагрэс у самаідэнтыфікацыі.



Іркуцкія беларусы пад Мінскам



Каляды ў Іркуцку

**Фота прадстаўленыя аўтаркай артыкулу**




# Падтрымайма беларускамоўны фільм нагамі!

**У 2016 годзе Аляксандр Меліхавец спрабаваў сабраць на фільм «Народныя мсціўцы» па Быкаву грошы праз краўдфандынг, але на «Талацэ» не сабралі нават палову з неабходных 6 тысяч долараў.**

Аднак рэжысёр не закінуў гэтую справу: з дапамогай крэдыту, пазыкаў у сяброў і знаёмых ён змог дарабіць стужку. Нядаўна яе агучылі і цяпер плануюць прадставіць шырокай аўдыторыі ў кінатэатрах.

Цікава, што за гэтыя амаль 8 гадоў у стужцы паўдзельнічалі тры склады акцёраў. У фінальнай 45-хвіліннай версіі граюць акцёры РТБД: Дзмітрый Давідовіч, Арцём Курэнь і Ілля Ясінскі.

У гэты момант рэжысёр завяршае апошнія дамоўленасці з мінскімі і іншымі кінатэатрамі: ён абяцае, што хутка стане вядома, дзе і калі можна будзе пабачыць «Народных мсціўцаў».

«Я б хацеў, каб людзі падтрымалі гэты пракат нагамі, бо толькі так мы можам паказаць чыноўнікам, практычкам і фільммэйкерам, што кіно па-беларуску запатрабаванае. Усе яны думаюць, што паказваць беларускамоўнае кіно нявыгадна камерцыйна, давайце дакажам, што гэта не так. Пакажам, што беларуская мова — гэта не абмежаванне, а магчымасць, не проста так жа яе ў якасці роднай падчас перапісу пазначае большая частка насельніцтва. Беларускамоўнага ігравога кіно не было ў вялікім кінапракаце 25 гадоў. Задумайцеся над гэтай лічбай.... А між іншым, кіно — гэта асноўная і самая даступная забава для большасці нашых людзей. І гэта моцны інструмент пашырэння ўжывання беларускай мовы...» — заклікае Аляксандр і плануе, што яго кіно пабачыць мінімум 30 тысяч беларусаў.

# Навошта мінчукі танчаць на вуліцы?

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**Гарадскія танцы на вольным паветры — з'ява далёка не новая. Часцей гэта адмысловая танцпляцоўка ці тэраса нейкай кавярні. Але здараецца, што мінчукі проста займаюць гарадскую прастору — і пайшлі ў скокі! Навошта?**



Гэта пытанне мы задалі аматарам вальсаў і народных танцаў. Апошнія збіраюцца штонядзелю за канцэртнай залай «Верхні горад». Для тых, хто любіць вальсы, часам арганізоўвае вечарыны студыя танцу «Balancé».

Звычайна імпрэзы праходзяць у памяшканні, але напрыканцы жніўня танцоры выбраліся ў горад. Кіраўніца студыі Ірына Баслык тлумачыць: «Мы хочам зрабіць наш горад больш радасным і цікавым як для турыстаў, так і для мінчукоў. Звычайна мы робім хатнія вальсавыя вечарыны ў сябе ў студыі, а цяпер, пакуль надвор'е добрае і ўсе вяртаюцца з адпачынкаў, вырашылі трохі памяняць фармат і, пакуль цёпла, перамясціцца на вуліцу».

Вальсавая прагулка не абмежавалася толькі вальсамі (а іх даволі шмат, акрамя класічнага можна танчыць крос-стэп, ампірны, фігурныя, контрдансы на вальсавых кроках...). Удзельнікі выканалі і іншыя любімыя танцы, змяніўшы за вечар дзве лакацыі.

Аматары народных танцаў, хоць і выконваюць пераважна беларускія танцы, спадчыну іншых народаў Еўропы таксама шануюць. Збіраюцца ўвесь сезон па нядзелях на адным і тым жа месцы. У халодны час года праходзяць вечарыны ў памяшканні.

Яшчэ адна суполка збіраецца ў лесе ля метро «Барысаўскі тракт». Пра яе НЧ ужо пісаў. На так званым «Карчы» шануюць збольшага сярэднявечныя і народныя танцы. Адначасова можа граць даволі шмат музыкаў, але рэй заўсёды вядуць беларускія дуды. На пытанне, чаму ж яны танчаць на вуліцы, танцоры розных накірункаў адказваюць прыкладна аднолькава.

**Гэта дакладна больш, чым проста танцы. Гэта вяртанне да свайго «я», да прыроды ўласнай душы**

Сяргей: «Каб унесці нейкую разнастайнасць у працоўныя будні. Каб паказаць іншым людзям, што можна проста выйсці з дому — і станчыць на вуліцы. Танец — гэта, у некаторым сэнсе, раскрыццё душы, разняволванне, як ёга, напрыклад. Можна адкрыць для сябе новы свет, набыць лёгкасць. Як казаў Цыцэрон, «ніхто ў здаровым розуме не стаў бы проста так танчыць».

Вікторыя: «Для мяне народныя танцы на вуліцы — гэта адказ на запатрабаванні душы. Нешта ўва мне ўключаецца, калі чую жывую музыку, адмысловыя прытупы на асфальце і адчуваю глыбіню моманту. Гэта дакладна больш, чым проста танцы. Гэта вяртанне да свайго «я», да прыроды ўласнай душы. Ведаю, што я ніколі не стану танцоркай-прафесіяналкай, а так і буду працягваць «залятаць» на вечарыны па натхненні. Але ў сэрцы заўжды будзе вялікая падзяка да тых, хто гарыць гэтым і дазваляе запаліцца танцамі і іншым».

Вольга: «Люблю танцы, неістотна, дзе — у памяшканні ці на вуліцы».

Аляксандра: «У мяне шмат сяброў у танцавальнай супольнасці, хочацца з імі пабачыцца. Падабаецца танчыць, усё роўна дзе. Я танчу вальс пры любой магчымасці, гэты раз яна выпала на вуліцы».

Алена: «Танцы на вольным паветры — гэта асаблівы драйв. Ёсць людзі, што саромеюцца танчыць менавіта на вуліцы, наведваюць вечарыны толькі ў памяшканні, бо так «цывільней». Мне падабаецца, з аднаго боку, што склалася асаблівая супольнасць танцораў, што можна кожны тыдзень прыйсці і пабачыць знаёмых. З другога боку, файна, што з'яўляюцца новыя твары, адкрытая прастора гэтаму спрыяе».

Уладзімір: «Мне падабаецца танчыць на вуліцы, таму што цёпла, шмат прасторы, могуць далучацца мінакі, з-за чаго колькасць удзельнікаў павялічваецца. Любое мерапрыемства ўлетку лепш праходзіць на вольным паветры. Тым больш, танцы адбываюцца ў адным з самых лепшых месцаў Менска».



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №668

Падпісана да друку 31.08.2018. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.